


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

8 СНЕЖНЯ 2000г. № 49/4081 КОШТ 110 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Аформіць падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**, на паўгода — **3 600**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**, на паўгода — **9 360**.*

**Наш індэкс — <u>63856</u>.**

*У чаканні зімы...*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

## Іван Навуменка — сустаршыня Камітэта па Дзяржпрэміях

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ, у якім гаворыцца: "Зацвердзіць Навуменку Івана Якаўлевіча — народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сустаршынёй Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, старшынёй падкамітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, склад якіх зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23 мая 2000 г. N 280 (Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь, 2000 г., N 51, 1/1303), выключыўшы са складу названага камітэта М. М. Яроменку".

ІМПРЭЗЫ

## "Філіп Морыс" узнагародзіў...

Каго? Пра гэта публіка даведалася 6 снежня, падчас традыцыйнай цырымоніі ўручэння спецыяльнага прыза "Філіп Морыс — Дэбют" у Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі. Прэстыжнай узнагародай ужо чацвёрты год запар прадстаўніцтва вядомай кампаніі адзначае найбольш значныя творчыя дасягненні маладых беларускіх балерын і танцоўшчыкаў. Сёлетняя цырымонія ўручэння прэміі адбылася перад спектаклем "Спартак". А гэта значыць, што шчаслівы ўладальнік узнагароды — з ліку выканаўцаў галоўных партый і што ён потым танцаваў перад публікай, нібы пацвярджаючы свой поспех у прафесіі, у мастацтве.

Так, яго, лаўрэата прэміі "Філіп Морыс — Дэбют" Ігара Сядзько, гледачы ганаравалі апладысментамі ды кветкамі як выканаўцу партыі Краса ў "Спартаку". Віншаванні ў той вечар прымала і народная артыстка Беларусі, калісьці прыма-балерына, а цяпер педагог тэатра Людміла Бржазоўская. Яна — першая ўладальніца ўзнагароды ў новай намінацыі "Жыццё ў мастацтве", устаноўленай прадстаўніцтвам кампаніі "Філіп Морыс" для тых, чыя праца паспрыяла ўздыму беларускага харэаграфічнага мастацтва на высокі міжнародны ўзровень.



**С. Б.**

*Фота В. ЦУРАНАВА*

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

### Аркестру — 60

Духавы аркестр гарадскога пасёлка Наваельня шмат гадоў запар узначальвае Аляксандр Літвінскі — цікавы чалавек, сапраўды творчая натура. У дружным калектыве — людзі самых розных прафесій, якіх аб'ядноўвае любоў да музыкі.

Дзесяткі выхаванцаў аркестра набылі вышэйшую і сярэднюю музычную адукацыю. Зараз аркестр святкуе шасцідзесяцігоддзе. На юбілей прыехаў эстрадна-духавы аркестр Міністэрства ўнутраных спраў.

### "Час пік" Якава Навуменкі

У Дзятлаўскім Доме культуры прайшоў канцэрт заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Якава Навуменкі, які выступіў з папулярным гуртом "Карусель". Жыхарам райцэнтра і навакольных вёсак была прапанавана канцэртная праграма пад назвай "Час пік".

### Першая ў райцэнтры

Дзятлаўская СШ N 3 — першая ў райцэнтры школа з эстэтычным накірункам выхавання. Вучні першых і другіх класаў горада і раёна атрымліваюць тут паглыбленую адукацыю: знаёмяцца з сакрэтамі музыкі, танца і выяўленчага мастацтва. Заняткі праводзяць высокапрафесійныя педагогі Людміла Хрысценка, Віктар Басай, Наталля Калодка, Ала Філідовіч.

**Іосіф ЗАЯЦ**

ВЕЧАРЫНЫ

## Сябры называлі яго Кін...

На Малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбыўся вечар, з нагоды дня нараджэння акцёра Уладзіміра Кін-Камінскага, якому сёлета споўнілася б 50 год...

Невялікі ўтульны пакой сабраў тых, каму памяць, пра рана адышоўшага з жыцця калегу, была найбольш дарагая. У першых радах сядзелі сваякі Кіна. Па вялікім рахунку, менавіта дзеля іх стараліся супрацоўнікі літаратурнай службы тэатра. У промнях сафітаў зіхацелі фотаздымкі з розных спектакляў — яго акцёрскія работы. Сярод іх не толькі пастаноўкі на Купалаўскай сцэне ("Дом на мяжы", "Тутэйшыя", "Курыца", "Памінальная малітва"), але і сумесныя беларуска-польскія праекты ("Эмігранты", "Тэрмінатар", "У адкрытым моры"). Вядомы польскі рэжысёр Анджэй Якімец запрашаў Уладзіміра для працы ў сваім тэатры — тэатры драмы імя Вянгеркі (Беласток).

У прыцемку ярка высвечваўся белы экран. Супрацоўнікі тэатра склалі невялікі відэафільм, які назвалі "сямейным альбомам". На экране — здымкі розных гадоў. Бездапаможнае немаўля на мяккай канапе, потым — прыгожы веласіпедыст з дзяўчынкай на раме і ўжо — салдат з гітарай у руках, які спявае для сваіх сяброў, паляўнічы, спартсмен у белым кімано, — усё гэта ён. Не ў спектаклях, а ў жыцці. А потым пачынаюцца яго ролі: нервовы, разгублены жыхар "Дома на мяжы", маўклівы карчмар у "Памінальнай малітве" і, вядома, бязлітасны афіцэр-хамелеон у "Тутэйшых".

Радыёінтэрв'ю захавала голас чалавека, які меў горкі вопыт жыцця "на мяжы", акцёра-вандроўніка. Уладзімір з захапленнем распавядаў аб тым, як польскія дзеці шануюць беларускую мову, як яны чыталі яму вершы не з польскім акцэнтам, а са старажытнабеларускім...

"Усё будзе о'кей", — кажа акцёр на развітанне, а на экране — усмешка, крыху сумны позірк і адкрытая далонь, звернутая да гледачоў...

Акцёр рана пайшоў з жыцця, таму з цяжкасцю верылася, што сёння застаецца толькі ўспамінаць пра тое, які ён быў.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

### Поспех калектыву

Пастаянным стаў фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы", які праходзіць на Гомельшчыне, Браншчыне, Чарнігаўшчыне і Жытоміршчыне. На гэты раз ён адбыўся ў Жытоміры. З поспехам выступіў тут заслужаны калектыў Беларусі — Гомельскі абласны драмтэатр, які паказаў гледачам спектакль "Лес" А. Астроўскага.

### На парозе стагоддзя

Абласная філармонія арганізавала фестываль "На парозе дваццаць першага стагоддзя". Адкрыў яго Стаўрапольскі дзяржаўны казачы ансамбль песні і танца. Славуты калектыў працягне гастролі ў Жлобіне, Буда-Кашалёве, Добрушскім і Рэчыцкім раёнах.

### "Мелодыя роднага краю"

На Гомельшчыне нарадзіўся выдатны беларускі дамбрыст Георгій Жыхараў, прафесар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Ягонай памяці быў прысвечаны другі абласны фестываль аркестраў і ансамбляў струнных народных інструментаў. Найбольшых поспехаў за час фестывалю дасягнулі творчыя калектывы Гомельскай дзіцячай музычнай школы N 1 імя П. Чайкоўскага.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

АНОНС

## Калі "Харошкі" не танцуюць...

...Тады публіка застаецца сам-насам з музыкай. Заўтра, 9 снежня, афіша з назваю папулярных "Харошак" запрашае на канцэрт, у праграме якога не будзе ніводнага харэаграфічнага нумара! Упершыню ў гісторыі музычнага жыцця сталіцы ладкуецца самастойнае выступленне аркестравай групы Дзяржаўнага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля "Харошкі". У праграме — беларуская музыка эпохі Адраджэння. Апрацоўкі нотнага матэрыялу 16—17 стст. зроблены кіраўніком аркестра Ю. Пшанічным.

Поруч з музыкантамі ансамбля "Харошкі" ў канцэрце ўдзельнічае знаная капэла "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута. Праграма іх выступлення таксама адпавядае духу музычнага адраджэння. Апроч даўніх партытур, плануецца пазнаёміць публіку з доўгачаканай прэм'ерай — "Песнямі на Божае Нараджэнне" ("Калядныя кантатай") А. Літвіноўскага, своеадметным творам для хору, сімфанічнага аркестра і салістаў, напісаным на тэксты з беларускага малітоўніка, складзенага А. Станкевічам.

Аматары старадаўняй музыкі, шукальнікі высокіх і свежых эстэтычных уражанняў, не абмініце заўтрашні канцэрт! Ён адбудзецца ў Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы.

**С. ВЕТКА**

*БРЭСТЧЫНА...*

### Прэзентацыя кніг 2000 года

Прэзентацыя больш чым дзесяці кніг, якія выйшлі сёлета ў дзяржаўных, грамадскіх і прыватных выдавецтвах Брэста, адбылася ў абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага. Сярод іх анталогія сучаснай берасцейскай паэзіі "Дзядзінец" (складальнік Мікола Пракаповіч), калектыўны зборнік "Добрыя словы кажыце..." з лепшых твораў удзельнікаў конкурсу, прысвечанага 60-годдзю вобласці, зборнік інтымнай лірыкі Зінаіды Дудзюк "Табе", чарговая кніга прозы Аляксея Філатава "Адарвацьад сэрца", першыя зборнікі вершаў Міколы Папекі, Валянціны Осіпавай, Вінцэся Вашкі, Івана Лагвіновіча, Леаніда Глушко, Антона Цвіда, Леаніда Валасюка і іншых.

Апрача аўтараў кніг, перад чытачамі выступілі літаратары, чые кніжкі на падыходзе, — Вольга Бераженка, Ярына Дашына, Сяргей Грынкевіч, а таксама барды Алесь Паплаўскі і Вольга Сідарук.

Вёў сустрэчу сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Алесь Каско. Працавалі выставы кніг, буклетаў, часопісных публікацый і кніжны кіёск, дзе чытачы змаглі набыць творы пісьменнікаў-землякоў з іхнімі аўтографамі.

**Сымон АКСЕНІН**

СУСТРЭЧЫ

## "ЛіМ" у Старых Дарогах

Стала ўжо традыцыйным, што падчас падпісной кампаніі супрацоўнікі штотыднёвіка "ЛіМ" праводзяць сустрэчы са сваімі пастаяннымі чытачамі і новымі патэнцыяльнымі падпісчыкамі. Сустрэчы адбываюцца не толькі ў сталіцы, але і далёка за яе межамі.

Апошнім часам лімаўцы наведалі Старыя Дарогі. Гэты горад мае багатую гісторыю і ўпершыню ўпамінаецца ў 1582 годзе як мястэчка Дарогі ў дакуменце падзелу Слуцкага княства паміж князямі Алелькавічамі. На жаль, на сённяшні дзень у горадзе захавалася вельмі мала старыны. І Старыя Дарогі ў нашай краіне вядомыя не культурнымі збудаваннямі, а старадарожскай самагонкай. І ўсё ж, відаць, у хуткім часе Старыя Дарогі будуць больш славіцца мастацкім музеем. Яго першы будынак ужо збудаваны і ў ім дзейнічае карцінная галерэя, цалкам прысвечаная постацям нацыянальнага Адраджэння. Ініцыятарам, стваральнікам і ўладальнікам мастацкага музея з'яўляецца старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы. Дзякуючы яму і выбраліся ў Старыя Дарогі лімаўцы Алесь Пісьмянкоў, Віктар Шніп і Максім Прупас, а таксама актыўны аўтар штотыднёвіка сатырык і гумарыст Павел Саковіч.

Сустрэча з "ЛіМам" адбылася ў старадарожскай бібліятэцы. Пра гісторыю штотыднёвіка і яго сённяшні дзень прысутным расказаў галоўны рэдактар газеты Алесь Пісьмянкоў. Прачытаў свае творы, адказаў на шматлікія пытанні. З цікавасцю старадарожцы слухалі і выступленні Віктара Шніпа і Паўла Саковіча. Пра перспектывы і планы мастацкага музея расказаў Анатоль Белы. Актыўны ўдзел у вечарыне ўзялі сябры мясцовага літаб'яднання — чытачы і падпісчыкі "ЛіМа".

**Н. К.**



*На здымках: лімаўцы ля музея; экспазіцыя музея.*

*Фота М. ПРУПАСА*





*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

### Іконы з мытні

Тройчы Дрыбінскі раённы музей атрымліваў у падарунак іконы, якія былі канфіскаваны ў кантрабандыстаў на Брэсцкай мытні. Частка гэтых абразоў з выявамі Боскай маці днямі была выстаўлена ў Дрыбінскай школе мастацтваў.

### Музей — у аварыйным стане

Плануецца, што ўжо напрыканцы гэтага года Быхаўскі краязнаўчы музей пераедзе са старога будынка, у якім ён размяшчаўся апошнія дзесяцігоддзі. Справа ў тым, што месяц назад спецыялісты з інстытута "Магілёўграмадзянпраект" далі заключэнне, што памянёны будынак знаходзіцца ў аварыйным стане.

Пакуль што музей працуе, у ім праходзяць выставы. Апошняя з іх — выстава работ мясцовага мастака Паула Хайкіна. Пасля ягонай смерці 25 карцін былі перададзены музею жонкай мастака...

Зараз раённыя ўлады шукаюць для музея новы будынак. Але канчатковае рашэнне яшчэ не прынята.

### Свята факультэта

Нядаўна Магілёўскі педагагічны факультэт Беларускай акадэміі музыкі адзначыў дзесяцігадовы юбілей. Магілёўшчына — адзіная ў рэспубліцы вобласць, якая мае музычную навучальную ўстанову такога рангу.

За сваё існаванне педагагічны факультэт закончылі больш за 200 чалавек. Яны выкладаюць зараз у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, працуюць у тэатрах, граюць у прафесійных аркестрах Беларусі. Многія з былых студэнтаў — колішнія навучэнцы бязьменнага дэкана педфакультэта, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Леаніда Іванова.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**



ЧАСАПІС

## Караткевічу было б 70...



**29 лістапада ў Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная славутаму Уладзіміру Караткевічу.**

**Зала Дома літаратара ў гэты дзень была перапоўнена — сядзелі і стаялі нават у праходах паміж радамі крэслаў. Цешыла, што вельмі шмат мастакоў, акцёраў, студэнцкай моладзі.**

**Вольга Іпатава, якая выконвае абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, распачала вечарыну і дала слова тым, хто ведаў і сябраваў з Караткевічам, — Адаму Мальдзісу, Генадзю Бураўкіну, народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу, Янку Сіпакову, Сяргею Грахоўскаму, Леаніду Драньько-Майсюку, галоўнаму рэдактару часопіса "Маладосць" Генрыху Далідовічу, крытыку Дзмітрыю Бугаёву.**

**На юбілейную вечарыну завіталі заслужаны дзеяч кіно рэжысёр Юрый Марухін і аператар Таццяна Логінава. Яны дзяліліся сваімі ўражаннямі аб стварэнні фільмаў па творах У. Караткевіча. Беларускае кіно звярталася да яго гістарычных апавесцей і экранізавала раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", п'есу "Маці ўрагану", аповесць "Дзікае паляванне караля Стаха", раман "Чорны замак Альшанскі" і іншыя. Фільмы былі зняты па яго дакументальных і арыгінальных сцэнарыях, а ўрыўкі з некаторых мастацкіх кінастужак былі паказаны ў перапоўненай зале Дома літаратара.**

**З цікавасцю і захапленнем прысутныя слухалі выступленне заслужанай артысткі Беларусі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Таццяны Мархель і народнай артысткі Беларусі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Марыі Захарэвіч. Яны выконвалі ўрыўкі з рамана "Каласы пад сярпом тваім" і ўрывак з гістарычнай драмы "Кастусь Каліноўскі".**

**На вечарыне закраналіся самыя розныя аспекты творчай дзейнасці Уладзіміра Караткевіча.**

**У яго ёсць чаму павучыцца і ў яго будуць вучыцца працаваць, сябраваць, любіць людзей, прыроду, родныя мясціны, сваю Бацькаўшчыну — Беларусь.**

**Марыя ДАР**

*Фота Алеся ФЕДАРЭНЧЫКА*

•

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце на кафедры беларускай літаратуры 28 лістапада прайшлі Караткевічаўскія чытанні, прысвечаныя 70-годдзю пісьменніка. Іх адкрыла загадчык кафедры Людміла Сінькова.**

**З дакладамі выступілі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Дзмітрый Бугаёў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка за кнігу пра Уладзіміра Караткевіча "Абуджаная памяць" дацэнт Анатоль Верабей.**

**Д. Бугаёў падкрэсліў патрыятызм Уладзіміра Караткевіча, надзённае гучанне яго паэзіі. На думку прафесара, у нашым друку з'явіліся матэрыялы, у якіх кан'юнктурна акрэсліваецца стаўленне У. Караткевіча да Расіі.**

**А. Верабей у сваім выступленні заўважыў значнасць асобы У. Караткевіча ў сусветнай культуры, спыніўся на аглядзе радаводу пісьменніка, ідэйным і мастацкім змесце самых лепшых яго твораў.**

**У выступленнях была адзначана выключная роля творчасці класіка айчыннай літаратуры ў адраджэнні гістарычнай памяці беларусаў.**

**Лада АЛЕЙНІК**

## Вярнуліся лаўрэатамі

**Чарговай перамогай для Беларускай акадэміі музыкі стаўся ўдзел яе выхаванцаў у V Усерасійскім адкрытым конкурсе выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах імя М. Рымскага-Корсакава, які прайшоў у Пецярбургу. Трубач Я. Лятэ (клас прафесара М. Волкава) адзначаны II прэміяй, а С. Буранаў (ударныя інструменты, клас дацэнта Л. Тунчык) удастоены III прэміі.**

**Конкурс быў для ўдзельнікаў вельмі складаны і выявіў высокую канкурэнтаздольнасць нашых выканаўцаў. Для іх адкрываюцца новыя шляхі на спаборніцтвы падобнага кшталту.**

**Марына МРАЧКО,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

МЕРКАВАННЕ

# Этапы і лёс адраджэння

Канец 20 ст. прынёс нямала сюрпрызаў для скептыкаў і жывых спадзяванняў для згубіўшых амаль усе надзеі рамантыкаў. У шэрагу глабальных пераменаў лёс Беларусі — далёка не самая прыкметная з'ява, але яе ў нечым арыгінальны вопыт можа стаць цікавым і для іншых народаў, хаця сам тутэйшы "эксперымент" яшчэ далёка не завершаны.

Яго пачатак прыйшоўся на канец 80-х — першую палову 90-х гадоў і быў названы нацыянальным адраджэннем. Асабліва́сць яго ў тым, што адраджэнне разумелася ў першую чаргу як палітычны працэс, як вяртанне да традыцый ВКЛ і БНР. Тое, што ВКЛ не было чыста беларускай з'явай, а БНР сталася хутчэй сімвалічнай, чым рэальнай дзяржавай, надавала адраджэнню рамантызму і старадаўніх рэмінісцэнцый, але не рэальных палітычных выгод. Палітычная незалежнасць ёсць вышэйшая, апошняя ступень нацыянальнага самасцвярджэння, ёй звычайна папярэднічае вялікая інтэлектуальна-культурніцкая праца, шырокі сацыяльны рух і сур'ёзныя эканамічныя падставы. А на Беларусь незалежнасць звалілася зверху, амаль "па разнарадцы", і таму пытанні тыпу "Навошта яна трэба?", "Хіба ад яе прыбудзе каўбасы?" — вельмі дакладна характарызавалі "падрыхтаванасць" нашага народа да суверэнітэту ў пачатку 90-х. Незалежнасць далася Беларусі не як заслужаная плата, а як вялікі аванс, які трэба яшчэ адпрацаваць.

Неардынарнасць беларускай сітуацыі спарадзіла і віхлястыя шляхі адраджэння, калі аптымізм 91-га года скончыўся драмай 95-га, а эйфарыя 93-га — дэпрэсіяй канца 90-х.

Яшчэ чэх М. Грох у руху нацый да суверэнітэту выдзяляў тры этапы: элітарна-творчы, адукацыйна-масавы і ўласна палітычны. Дык вось, на Беларусі ў разгар другога этапу раптам мусіў быць завяршыць... трэці! Зрэшты, адукацыйна-асветніцкая праца толькі распачалася і ішла яна паралельна з фармаваннем палітычных партый, што ў пэўным сэнсе ўскладняла сітуацыю. Справа ў тым, што галоўнай (ці хутчэй фармальнай) перашкодай нацыянальнага ўсталявання стала... мова. Менавіта негатыўнае стаўленне да беларускай мовы вялікай часткі насельніцтва — той, што ня проста забыла, — затармазіла ўвесь прагрэс. І на гэта былі, напэўна, даволі важкія падставы. Для паспалітага люду яна пачала атаясамлівацца толькі з "дзярэўняй" і ўзорамі эстэтычнага прымітыву, а таму масы беларусаў, што імкнуліся ў горад, да "культуры і цывілізацыі", гадавалі ў сабе алергію да роднае, "некультурнае" мовы.

Яшчэ адзін варыянт такой "алергіі" з'явіўся на пачатку 90-х, калі беларуская мова многімі стала асацыіравацца толькі з палітыкай, а калі дакладней — то з БНФ. Канешне, дзякуючы фронту, ужыванне мовы і колькасць яе носьбітаў павялічыліся шматкроць, але жорстка "прыкутая" да палітыкі яна не можа вольна расці, ёй патрэбны большыя абсягі і сферы. Як ні дзіўна, узлёт А. Лукашэнкі і сыход беларушчыны ў андэграўнд у стратэгічным плане стаўся карысным. Той шлях адміністрацыйнай беларусізацыі, распачаты 10 год назад, ва ўмовах антыбеларускай "алергіі" і нізкага сацыяльнага рэйтынгу мовы, не мог быць плённым. Якраз знаходжанне ў апазіцыі да сённяшняга афіцыёзу мусіць дадавіць беларушчыне і прыхільнікаў, і сімпатызантаў, і новых адэптаў. І толькі тады, калі ў большасці насельніцтва наша мова будзе атаясамлівацца з урбаністычнай культурай і сучасным мастацтвам, з перадавой навукай і элітарнай адукацыяй, прагрэсіўнымі сацыяльнымі і палітычнымі тэхналогіямі, можна будзе казаць пра паэтапную адміністрацыйную беларусізацыю, якая знойдзе падтрымку ў грамадстве.

Але гэта справа няпэўнай будучыні, а сёння (калі верыць перапісу) амаль 40% людзей прыхільна ставяцца да беларускай мовы. Пакуль гэта не большасць, аднак станоўчая эвалюцыя ў свядомасці беларусаў, напэўна, пачалася. Вядома, такая справа не робіцца за год-два, і нельга яе зноў жорстка прывязваць да палітыкі. Хто б заўтра ні быў ва ўладзе, галоўны акцэнт мусіць быць зроблены на адукацыйна-культурніцкай працы ва ўсіх формах і сферах, а найперш у самых сучасных і перспектыўных: інфармацыйна-камп'ютэрныя тэхналогіі, шоу-бізнес і маскультура, сацыяльна-гуманітарныя і духоўна-рэлігійныя праграмы. Чым больш беларушчына будзе распаўсюджана сярод рокераў і хакераў, менеджэраў і святароў, журналістаў і актывістаў недзяржаўных арганізацый, тым больш шанцаў у яе выжыць у будучым. Трэба ўсвядоміць, што так званы "пераходны перыяд" можа зацягнуцца яшчэ на 7-8 год і стаць самастойнай эпохай, якую нельга "пераседзець" у чаканні поўнай перамогі. Практыка "малых спраў" — у сваім доме і сям'і, прафесіі і асяродку, хобі і сайце, царкве і касцёле — з'яўляецца той тактыкай, якая ў сённяшняй сітуацыі ўяўляецца найбольш эфектыўнай і мэтазгоднай. У рэшце рэшт, гэта адбываецца ўжо некалькі гадоў, хоць, магчыма, не ў тых маштабах, як хацелася б... І ўсё ж становішча не такое безнадзейнае, як 20 год таму, хаця і не такое рамантычнае, як 10 год таму. Думаю, "халодны душ"-96 і "зазімкі" апошніх гадоў не прайшлі дарма, і ў наша жыццё рана ці позна прыйдзе вясна. А да той, новай "сяўбы", трэба падрыхтавацца значна лепш, чым да папярэдняй, бо яна можа быць апошнім нацыянальным адраджэннем у сучаснай еўрапейскай гісторыі.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

ПАДПІСКА—2001

# "ЛіМ" можна выпісаць "Да запатрабавання"

**Гэтай паслугай можна скарыстацца пры падпісцы ў мінскіх магазінах і кіёсках "Саюздруку".**

**Калі вы падпісаліся на перыядычныя выданні па каталозе льготнай падпіскі "Да запатрабавання", можаце быць спакойнымі за газеты і часопісы: іх ніхто ў вашай паштовай скрыні не падпаліць, што бывае часта. З самай раніцы — ужо ідучы на працу — вы можаце забраць любімую газету ў бліжэйшым кіёску.**

**Вы на некаторы час пераехалі ў іншы раён Мінска? Нічога страшнага: папярэдзьце кіяскёрку і можаце атрымліваць свае выданні ў кіёсках новага раёна.**

**Вы адправіліся ў адпачынак? Не бойцеся за перапоўненую паштовую скрыню. (Дарэчы, менавіта па гэтай нагодзе адбываюцца многія кватэрныя крадзяжы: зладзеі ўпэўнены, што гаспадары ў ад'ездзе). Газеты вас будуць чакаць у бліжэйшым кіёску або магазіне "Саюздруку".**

**Прадугледжваецца скідка да 25 працэнтаў.**

**Аплата: наяўны і безнаяўны разлік.**

**Улічыце: падпісацца "Да запатрабавання" вы можаце аж да 23 снежня!**

**Ідзіце і падпішыцеся на "ЛіМ"!**

# Спіс гандлёвых кропак УП "Мінгарсаюздрук", якія прымаюць падпіску

**КАСТРЫЧНІЦКІ РАЁН**
**Кастрычніцкі пункт падпіскі**
**вул. Жукоўскага, 5, корп. І,**
**т. 224-32-03**

Магазін N 1, вул. Жукоўскага, 5 т. 224-03-76
Магазін N 12, вул. Кіжаватава, 80 т. 278-77-61
Кіёск N 228, Універсітэт культуры, вул. Рабкораўская, 17
Кіёск N 245, Бальніца хуткай дапамогі, вул. Кіжаватава, 56

**ПЕРШАМАЙСКІ РАЁН**
**Першамайскі пункт падпіскі**
**пр-т Ф. Скарыны, 113,**
**т. 264-22-91**

Магазін N 3, пр. Ф. Скарыны, 76, т. 232-46-23
Магазін N 13, вул. Каліноўскага, 82, корп. 2
Магазін N 23, вул. Славінскага, 39, т. 264-36-33

**МАСКОЎСКІ РАЁН**
**Фрунзенскі пункт падпіскі**
**вул. Раманаўская Слабада, 9,**
**т. 220-93-04**

Магазін N 20, вул. Ясеніна, 16, т. 271-87-21
Кіёск N 34, гасцініца "Мінск", пр. Ф. Скарыны, 11
Кіёск N 38, Педагагічны універсітэт, вул. Савецкая, 18
Кіёск N 95, Камітэт архітэктуры і грамадзянскага будаўніцтва, вул. Мяснікова, 39
Кіёск N 302, вул. Сямашкі, 9, Бальніца N 9

**ПАРТЫЗАНСКІ РАЁН**
**Партызанскі пункт падпіскі**
**вул. А. Кашавога, 8,**
**т. 230-29-20**

Магазін N 6, вул. Філімонава, 1, т. 235-61-11
Магазін N 18, ст. метро "Плошча Перамогі", т. 284-31-06
Кіёск N 2, Лінгвістычны універсітэт, вул. Захарава, 21

**ФРУНЗЕНСКІ РАЁН**
**Цэнтральны пункт падпіскі**
**пр. Машэрава, 51/1,**
**т. 223-80-43**

Магазін N 11, пр. Пушкіна, 77, т. 255-80-71
Магазін N 15, вул. М. Танка, 16, т. 223-82-39
Магазін N 19, пр. Машэрава, 51, к. 1, т. 223-81-66
Магазін N 21, ст. метро "Пушкінская", т. 255-57-20
Кіёск N 232, МЗХ, пр. Машэрава
Кіёск N 262, гасцініца "Планета", пр. Машэрава, 31
Кіёск N 298, пр. Машэрава, 75/1

**ЛЕНІНСКІ РАЁН**
**Участак падпіскі, вуліца Валадарскага, 16, пак. 302, "Мінгарсаюздрук",**
**т. 227-88-41**

Магазін N 4, вул. Леніна, 15, т. 227-11-92
Магазін N 9, пр. Ракасоўскага, 140, т. 247-30-15
Магазін N 14, вул. Валадарскага, 22, т. 227-75-55
Магазін N 25, вул. К. Маркса, 21, т. 227-08-52
Кіёск N 16, гасцініца "Свіслач", вул. Кірава, 13
Кіёск N 18, Тэхналагічны універсітэт, вул. Свярдлова, 13/4

**САВЕЦКІ РАЁН**

Магазін N 2, пр. Ф. Скарыны, 44, т. 284-83-59
Магазін N 7, вул. Я. Коласа, 69, т. 228-30-20
Магазін N 8, вул. Сурганава, 40, т.232-45-10
Магазін N 16, вул. Харужай, 24, т. 234-27-25
Магазін N 17, вул. Някрасава, 35, т. 231-03-28
Кіёск N 136, ст. метро "Якуба Коласа", выхад да ін-та фізкультуры
Кіёск N 259, вул. Усходняя, 83

**ЦЭНТРАЛЬНЫ РАЁН**

Магазін N 10, вул. Асіпенкі, 2, т. 237-74-88
Кіёск N 78, гасцініца "Юбілейная", пр. Машэрава, 19
Кіёск N 187, гасцініца "Беларусь", вул. Старажоўская, 15

**ЗАВОДСКІ РАЁН**

Магазін N 24, вул. Жылуновіча, 31, т. 245-05-74
Кіёск N 198, Эканамічны універсітэт
Кіёск N 209, прахадная "МАЗа", вул. Сацыялістычная, 2

ВАРУНКІ

# Вераб'і на фортцы

## ВЯСКОВАЯ ШКОЛКА: АД ЛАБАНОВІЧА ДА НАШЫХ ДЗЁН

ДВА МЕСЯЦЫ залатога "бабінага лета"... Дрэвы стаяць і не ведаюць, ці то скідваць ім лістоту, ці то працягваць далей зелянець. Не вераць калгасныя палі, няўжо яны сёлета будуць цалкам убраныя? Калі ўжо зараз які няспраўны калгасны старшыня адважыцца скардзіцца на неспрыяльныя прыродныя ўмовы, якія не дазволілі яму ўправіцца з ураджаем, плюйце яму смела ў вочы, бо няма чаго Бога гнявіць. Залатая, залатая восень была. Прырода нават і не думала, што пасля заліўнога, гнілога лета ёй будзе адпушчаны такі працяглы заслужаны адпачынак.

Напрыканцы кастрычніка нарэшце і школы напоўніліся дзіцячымі галасамі. Школьнікаў перасталі тузаць на сельскагаспадарчыя работы і пасадзілі за парты. У Горках, шараговай вёсачцы на Лепельшчыне, таксама нарэшце ўвайшоў у звыклую каляіну вучэбна-выхаваўчы працэс. Больш таго, сюды, у мясцовую сярэднюю школу, неўзабаве прыедуць на свой чарговы семінар маладыя спецыялісты-настаўнікі, старэйшыя калегі будуць даваць для іх адкрытыя ўрокі. Вось толькі адна накладачка выходзіць: тэмы ўрокаў наўрад ці будуць адпавядаць тым, якія павінны быць у гэты час па праграме. Калгасная бульба зблытала настаўнікам усе карты, і як гэта растлумачыць зараз удзельнікам семінара? А зрэшты, яны, маладыя спецыялісты, таксама не з неба зваліліся, павінны ведаць, што жыццё часам уносіць свае карэктывы ў перспектыўныя планы.

А да гасцей у Горскай сярэдняй школе прывыклі. Вось і параўнаўча нядаўна прыязджалі сюды педагогі аж з Пскоўскай вобласці, з Расіі, пераймалі вопыт і сваімі набыткамі дзяліліся. Ёсць чым пахваліцца мясцовым настаўнікам і вучням, нягледзячы на тое, што школа сельская, а вёска, прама скажам, — не фантан. Шэрая, някідкая вёсачка — Горкі. Хоць і цэнтр яна калгаса з рэліктавай назваю "Парыжская камуна" (бываюць жа карыснавыкапнёвыя назвы, якія аказаліся больш жывучымі, чым дыназаўры), і цэнтр сельсавета, а вока няма на чым запыніць. Старыя драўляныя хаты, часцей нават не пашаляваныя, абнесеныя пахілымі платамі. Цагляныя новабудоўлі эпохі позняга сацыялізму, часцей двухпавярховікі, абсалютна непрактычныя ва ўмовах сельскай мясцовасці — спускайся па стромай лесвіцы з вёдрамі свіней карміць — вось такая вясковая архітэктура. І ніводнай адметнасці: ні парку старога, ні замчышча, ні курганоў, ні хаця б рэчкі ці возера. Хіба што чыгунка. Цягнік бяжыць з Лепеля на Оршу акурат праз самыя Горкі і робіць значна бліжэйшымі абодва гэтыя гарады. Чыгунка ратуе ад вымірання і вёску, і школу.

Школа — вось мясцовая адметнасць. Яна і сапраўды выдзяляецца на фоне шэрага мясцовага пейзажу. Будынак новы — яму яшчэ толькі дзесяць гадоў, нетыповая нават для школ архітэктура, дый пафарбавана Горская школа ў колеры яркія, што вабяць вока і заманьваюць сюды гасцей. Але важней не столькі знешні выгляд, колькі сама атмасфера. Прыедзьце сюды, пагасціце хаця б адзін дзень, і вы ўбачыце, што гэта сапраўды так.

Праўда, мясцовых настаўнікаў у Горках не так многа, большасць прыязджае сюды з Лепеля. Але гэта не той выпадак, калі настаўнікі бываюць транзітнымі і, ледзьве правёўшы ўрокі, бягуць лавіць падарожныя машыны, спяшаюцца назад у горад. Настаўнікі тут часцей пакідаюць школу цёмначы, бо пасля ўрокаў працуе група падоўжанага дня, адкрываюць дзверы розныя гурткі па інтарэсах. Працуе драматычны. Летась ён здзівіў лепяльчан спектаклем "Зялёная казка", а сёлета рыхтуе новую казку "Дванаццаць месяцаў", выступае вакальная група, фантазіруе гурток фларыстыкі, вязальны, "беларускія ўзоры". Вырабы гурткоўцаў упрыгожваюць школьныя фае і калідоры, надаючы ім непаўторны святочны каларыт. Па-мойму, увогуле пры афармленні школ варта аддаваць перавагу не столькі вялікім карцінам ды фоташпалерам, прыгожым, але ж халодным і чужым, колькі работам уласнай, школьнай вытворчасці, тым самым дзіцячым малюнкам, беражліва схаваным за драўлянымі рамачкамі і за шклом. Такія малюнкі зберагаюць цяпло дзіцячае душы, ад іх ідзе добрая энергетыка. І падлеткі іх болей паважаюць, не ламаюць, не крэмзаюць, бо сваё.

Працуюць гурткі, адбываюцца нават персанальныя выставы, дзеці вучацца пісаць вершы і казкі, а настаўнікі дапамагаюць ім гэтыя самыя казкі прыгожа аформіць, у выглядзе маленькіх кніжачак, якія затым захоўваюцца ў школе, каб было што і самім паглядзець, і іншым паказаць. Адным словам, нармальны вучэбны працэс, нічога гераічнага, аднак героіка прысутнічае ў нас саміх штодня, і самі мы гэтага часцей не заўважаем. Дырэктар школы Валянціна Змітраўна Хацкевіч лічыць, што неабавязкова фарміраваць ліцэі і ліцэйскія класы недзе там, у горадзе, адчыняць інтэрнаты, звозіць туды дзяцей з вёсак.

Ва ўмовах вясковай школы можна і трэба даць дзецям такую адукацыю, якую кожны з іх здолее асвоіць. А чаму б і не? Узяць тую ж самую Горскую школу. Каля дзевяноста вучняў. Класы невялікія, настаўнікі высокакваліфікаваныя, усе спецыялісты. Кожнае дзіця і кожны падлетак навідавоку. Здольнасці і схільнасці кожнага настаўнікі ведаюць літаральна "назубок". Тое, чаго дасягаюць гарадскія вучні з дапамогай рэпетытарства, тут, у вёсцы, настаўнікі даюць дзецям пакуль, дзякуй богу, бясплатна, відаць, яшчэ вёску не закрануў камерцыйны разлік. Побач вучацца падлеткі з самымі рознымі здольнасцямі і нават з розным псіхафізічным развіццём, і кожнаму з іх хапае настаўніцкай увагі. Ну, хіба ж у горадзе, у вялікім гармідары, сельскія дзеці атрымаюць лепшую адукацыю? На адну толькі адаптацыю ў гарадской школе будзе незваротна затрачаны каштоўны час.

Выпускнікі Горскай школы паступаюць у любыя навучальныя ўстановы не менш за гарадскіх равеснікаў. У школу прыходзяць удзячныя пісьмы. Не так даўно адно такое прыйшло з ваеннай акадэміі, дзе вучыцца адзін з выпускнікоў школы. А гэта сведчыць пра пэўны ўзровень адукацыі і выхавання. Нездарма менавіта сюды любяць вазіць гасцей...

Яшчэ з малодшых класаў навучанне і выхаванне вучняў тут накіраваныя на развіццё асобы. Сярэдні школьны ўзрост асвойвае курс, зарыентаваны на развіццё каштоўнаснай арыентацыі. Старшакласнікі праходзяць школу будучага абітурыента. Дзе яшчэ ў вясковай школе вы знойдзеце кабінет сацыяльнай адпатацыі і кабінет псіхолага? Дарэчы, сістэме сацыяльнай адаптацыі падлеткаў тут надаецца вельмі сур'ёзная ўвага. У вышэйназваным кабінеце можна знайсці такую цікавую і рэдкую літаратуру, што проста дзіву даешся. А галоўнае, літаратура карысная, ахоплівае ўсе сферы жыцця, якія цікавяць падлетка — тут і палавыя адносіны, тут і школа выжывання ў экстрэмальных сітуацыях — што хочаш. Усё даставалі праўдамі-няпраўдамі, усё збіралі па каліву.

Толькі не думайце, што ў Горках нейкая ўзорна-паказальная сельская школа, адарваная ад жыццёвых рэалій. Ды не, тут звычайныя дзеці, больш таго, у многіх з іх зусім не зайздросная спадчыннасць. Кажучы папросту, бацькі-алкаголікі... Жыццё, як мокрая ануча, не гарыць, а смуродзіць. Вёсачкі нашы патанаюць на дне бутэлькі таннага "чарніла", якога ў кожнай вясковай краме — хоць заліся, адзіны даступны сялянам па цане тавар; задыхаюцца ў шызым дыме цыгарэт гатунку "Астра" ды "Прыма". Вёсачкі нашы забываюць пра сваю будучыню, нарадзіўшы дзяцей ім на гора і пусціўшы іх у свет як у капейку, нявыхаванымі, недагледжанымі, гаротнымі. Выхоўвай, школа! Хіба школа — сацыяльны прытулак для бяздольных?

Горкі — не выключэнне. Бадай, усіх мясцовых падлеткаў я ведаю, жывём жа, бадай, побач, у суседніх вёсках. У школе яны адны, а па-за школаю — зусім іншыя. Пасля ўрокаў вёска зноў праглынае сваіх дзяцей... Ці ведаюць пра гэта настаўнікі? А як жа! Не з месяца ж яны зваліліся. Але апускаць рукі не збіраюцца, бо нават няхай аднаго падлетка ўдасца выцягнуць з багны — і гэта ўжо вялікая педагагічная ўдача.

...У адзінаццатым — урок беларускай літаратуры. Трое падлеткаў: Іра, Валодзя і Воля — з дапамогай настаўніцы Галіны Аляксееўны Барадзіч на некалькі хвілін пераўвасабляюцца. Зараз яны філосафы, больш таго, уладары людскіх лёсаў. Даюць сваю ацэнку героям рамана Якуба Коласа "На ростанях". Яны расказваюць пра местачковую інтэлігенцыю, што служыць сацыяльным фонам жыцця і дзейнасці маладога настаўніка Лабановіча, які спрабуе ўскалыхнуць "застаялае балота", але тое надта смярдзіць.

Сяджу і думаю, а што ўласна змянілася з тых далёкіх часін, калі ў пачатку XX стагоддзя шчыраваў малады Колас? І чым, скажыце, тагачаснае Цельшына істотна адрозніваецца ад сучасных Горак ды ім падобных вёсак у глыбінцы? Усё тая ж "местачковая інтэлігенцыя", усё тое ж "застаялае балота". Мацюкі не толькі за школьным вуглом з вуснаў падлеткаў, але і ў прыстойных кабінетах, з вуснаў вялікіх начальнікаў — бадай, норма. П'янства, разбэшчанасць, крывадушша — стыль жыцця як горада, так і вёскі. А на парозе — трэцяе тысячагоддзе.

Раніцай, дарма што "бабіна лета", холадна, нават марозна. Пакуль мае юныя сябры філасофствуюць, з цікавасцю назіраю за вераб'ямі, за акном. Спусціўшыся па заінеламу даху, птушкі камячкамі падаюць на адкрытую фортку, адкуль вее заманлівым цяплом. І хочацца нырнуць у жаданую цеплыню ды ўтулак, і колецца. Боязна, не ведаюць птушкі, як іх сустрэнуць...

А на вуліцы будзе ўсё халадней, а цеплыні і ўвагі будзе хацецца ўсё болей. Вось так і нашы дзеці, босыя і безабаронныя, як тыя натапыраныя вераб'і — на маразах ды на скразняках жыцця. Ці стане для іх школа той самай цёплай форткай, заляцеўшы ў якую, змогуць сагрэцца і расправіць крылы для вялікага, высокага палёту? Ці здолее стаць? Надта ж сцюдзёна ў жыцці, і надта ж вузенькая тая наша школьная фортка, ці хопіць яе на ўсіх?

**Уладзімір МІХНО**

АДГАЛОСКІ

# Наканаванасць вяртання

Ізноў мы вяртаемся да Літвы. І гэта наканавана. Памятаю, колькі гадоў таму "ЛіМ" друкаваў цікавы і дыскусійны артыкул Івана Ласкова аб паходжанні гэтай таямнічай "Літвы". Высновы аўтара аб угра-фінскіх каранях "Літвы" прынялі насцярожана. Хоць у навуковую дыскусію ніхто гэтак з Ласковым і не ўступіў. Пасля была публікацыя аўтара гэтых радкоў аб літвінах і Літве, што так называліся ў сярэднявеччы беларусы і Беларусь. З хваравітай рэакцыяй выступіла камуністычная газета "ППП" з артыкулам "Как нас хотят лишить Родины". Узровень гэтага артыкула быў такі, што і адказваць на яго было ніжэй майго гонару. Але сама па сабе раз'юшаная лаянка ў мой бок сведчыла пра тое, што некаторыя таварышы вельмі занепакоіліся тым, што беларусы ўспомнілі сваё спрадвечанае імя.

Ізноў мы вяртаемся да Літвы. Ужо ёсць і тыя, хто з гонарам кажа, што ён літвін. Але, мы былі літвінамі. Вось што ўспамінае Яўхім Кіпель: "У Бабруйшчыне і там, дзе я рос (вёска Балюкі Бабруйскага павета, цяпер Глускі раён Магілёўскай вобласці. — **В. Ч.**), тады (перад 1914 г. — **В. Ч.**) яшчэ быў папулярны назоў "Літва", а мы былі "ліцьвінамі"... "Мы Літва, — казаў мне заўсёды мой дзед. — Ды й іншыя дзяды нам, дзецям, заўсёды казалі, што тут заўсёды была Літва".

І гэтак нам задурылі галаву нашы хлусыдабрадзеі, што і забыліся на сваё імя. Можна ўявіць уражанне Міколы Улашчыка, які ў 30-х гадах даведаўся ад палешукоў, што яны лічаць Беларусь Літвой: "Што, як? Літва?" — "Ну да, Літва! Хіба ж вы, вучоны чалавек, не ведаеце?" Я, вучоны, усё ж не ведаў, што тут Літва. Пачынаецца гутарка на тэму і высвятляецца, што Літвою палешукі завуць Случчыну і наогул усю Беларусь".

Мы вяртаемся да Літвы і будзем вяртацца і гэта нам наканавана. Тут было Вялікае Княства Літоўскае і кожнае новае пакаленне беларусаў, вывучаючы беларускую гісторыю, спазнае мінулае Літвы. Імя гэтае, як розгалас даўніны далятае да нашай свядомасці. Імя гэтае сведчыць за нас перад светам і гісторыяй. Таму заканамерна мы хочам растлумачыць, пэўна, толькі сабе, яго значэнне, яго сэнс, які дапаможа зразумець нам, хто ж мы такія.

Артыкул Здзіслава Сіцькі "Вяртаемся да літвы" — гэта яшчэ адна спроба адкрыць таямніцу "літоўскага сфінкса". Адкуль Літва, што яна такое, хто яны такія? Не буду дыскутаваць з аўтарам артыкула, але пажадаю яму больш навукова абгрунтаваць сваю версію, а таксама прааналізаваць іншыя версіі. Чаму, напрыклад, Літва — гэта не племя Litiani (у Іардана) або letos (у Маруха), вядомае з сярэднявяковых крыніц, якое жыло ў заходняй Галіі ў ваколіцах Рэймса і, магчыма, разам з венедамі перасялілася ў Прыбалтыку. Прынамсі, такія імёны, як**Віцэнь, Гедымін, Карыят, Тройдзень, Лігвень** маюць адпаведнікі ў кельцкім анамасціконе. Чым гэта растлумачыць?

Паўтару, я не збіраюся дыскутаваць з Здзіславам Сіцькам. Свой пункт гледжання на праблему паходжання Літвы (а дакладней, вялікіх князёў літоўскіх) я выкажу ў артыкуле, які рыхтую да друку ў "Беларускім гістарычным часопісе". Але мне хочацца падзяліцца шэрагам думак. Пры ўсёй павазе да прац Г. Лаўмянскага, У. Пашуты, М. Ермаловіча і навейшай — А. Краўцэвіча, на мой погляд, у іх ёсць адзін істотны недахоп. Названыя аўтары не ўлічваюць такі важны фактар, як рэлігійны. Яны не разглядаюць ні балта-славянскай міфалогіі, ні сістэмы светапоглядаў, а значыць і менталітэту старажытных літвінаў яны не ведаюць. А таму не могуць растлумачыць, напрыклад, такой з'явы, як традыцыя **дуаміратаў** праўленні ВКЛ (Будзікід і Будзівід, Альгерд і Кейстут, Ягайла і Вітаўт), ці чаму Міндоўг адрокся ад каралеўскай кароны і вярнуўся ў паганства. Можа, на гэта паўплывалі не палітычныя прычыны, а менавіта рэлігійныя традыцыі?

Поўнасцю ігнаруюцца ў даследаваннях пытанні аб такім важным інстытуце як святары-крэвы. А тая ж Вільня, Крывы горад — гэта рэзідэнцыя жраца Крэва, як і Крэва, як і Крыўцоў пасад у Полацку. Што мы бачым? Крывіцкія землі ўваходзілі ў адзіную з літоўскімі, прускімі, латышскімі землямі рэлігійна-сацыяльную сістэму, што і абумовіла іх збліжэнне і аб'яднанне ў адну дзяржаву.

Па-другое (тут Здзіслаў Сіцька мае рацыю, калі разглядае Літву як вайсковую кансорцыю, а не племя), гісторыкі гэтак і не далі яснага адказу, чым была Літва. Прынята думка, што гэта балцкае племя. Праўда, межы яго рассялення, тэрыторыю ніхто з гісторыкаў дакладна не вызначыў. Версію М. Ермаловіча аб летапіснай Літве ў верхнім Панямонні большасць гісторыкаў успрымае скептычна. Спрацоўвае шаблон, што старажытная Літва жыла на землях сучаснай Літувы.

Варта ўважліва прачытаць летапісы, і выснова сама просіцца. Ноўгарадскі летапіс паведамляе аб з'яўленні ў Пскове нальшанскага князя Даўмонта "с 300 литвы с женами и детьми". Параўнаем з паведамленнем Пскоўскага летапісу: "со дружиною своею и со всем домом своим". Як вынікае, тэрмінам "літва" летапісцы абазначалі дружыну воінаў-язычнікаў. Сімяонаўскі летапіс у звестцы пад 1349 г. ясна ўказвае: "В лето 6857 Олгердъ, князь Литовскии, прислал послы свое къ князю великому Семену Ивановичю за своего брата за Корьяда и за бояр и за его дружину, за Литву... и отпусти Корьяда и его дружину Литву".

Як бачым, узнікае колькі пытанняў, на якія, на жаль, няма дакладных адказаў. Чым варты ўвагі артыкул Здзіслава Сіцькі, тым, што аўтар шукае на іх адказы і мысліць не шаблонна. Ці мае ён рацыю? Пэўна, ён павінен больш абгрунтавана давесці сваю версію ў навуковай працы. Можа, ён памыляецца, калі ў літве бачыць толькі славян. На жаль, крыніцы не захавалі мову старажытнай літвы. Аднак некалькі слоў мы ведаем — гэта імёны паганскіх багоў, якім пакланяўся Міндоўг: **Ненадееви, Телявели, Диверикъз, Меидеик**. Тлумачацца яны з балцкіх моў. І разам з тым такая "таямніца", як імёны літоўскіх князёў, напрыклад: **Альгерд, Любарт, Вітаўт, Вігант, Рынгальд** і іншыя паходзяць з нямецкай (магчыма, скандынаўскай) моў. Чым гэта растлумачыць? Тым, што на чале дзяржавы стаялі нашчадкі нейкай нямецкамоўнай (гоцкай або скандынаўскай) дынастыі?

Што ж, пытанняў для дыскусіі дастаткова. Вельмі ўсцешна, што артыкул Здзіслава Сіцькі якраз і выклікаў дыскусію. Значыць, нікуды нам не падзецца. І зноў мы будзем вяртацца да Літвы, бо для нас гэта назва нашай зямлі, нашай былой дзяржавы, дзе мы выраслі і сталі беларусамі. Напрыканцы як не нагадаць, што палякі называлі літвінаў "бацвіннікамі". А нічога дзіўнага тут няма — **літвіна, літвіны** азначае бацвінне, або тое, што вырастае пасля дажджу-літвы. Так што, можа, усё проста: Літва — гэта дождж і няма чаго нам дурыць сабе галаву?

**Вітаўт ЧАРОПКА**



ЧАСАПІС

## "Анталогія беларускай эпітафіі"




**Добрая справа звычайна мае працяг. Таму ў выдавецтве "Ураджай" адначасова з "Анталогіяй беларускай эпіграмы" ўпершыню на Беларусі з'явілася яшчэ адна — "Анталогія беларускай эпітафіі" (укладальнік, аўтар прадмовы "Memento mori" і артыкулаў Анатоль Кудласевіч). Слова эпітафія, як вядома, паходзіць ад грэчаскага "эпітафос". "Эпі" перакладаецца як "над", "тафос" — "магіла". У прамым сэнсе эпітафія азначае "надмагільны", а ўспрымаецца як надпіс на магільным помніку. "Пачатак станаўлення эпітафіі, — сведчыць А. Кудласевіч, — хаваецца ў глыбокай старажытнасці, напэўна, яна была і тады, калі людзі яшчэ не ведалі пісьменнасці. Незлічоныя курганы, раскіданыя па Беларусі, таямнічыя валатоўкі, авеяныя легендамі і паданнямі, — хіба гэта не маўклівыя эпітафіі, пакінутыя продкамі для нас? Каб мы прачыталі нямыя пісьмёны і штосьці зразумелі. А комплекс пірамід у Гізе, загадкавая ўсмешка Сфінкса і велізарныя скульптуры на востраве Пасхі, а сістэмы архітэктурных збудаванняў ацтэкскай цывілізацыі і плямён інкаў, якія невядома калі і куды нечакана зніклі, а вавілонская вежа, якую зноў і зноў упарта адбудоўвалі цары Вавілона, і зменшаная копія гэтай вежы на магіле персідскага цара Кіра — што гэта, як не эпітафіі, пакінутыя ў граніце, цэгле і камені, магчыма, для таго, каб мы навучыліся чытаць пісьмёны часу і чалавечай душы?" Але гэта і сапраўды "маўклівыя" эпітафіі, а тыя, што "гавораць"? "Да першых пісьмовых эпітафій, што дайшлі да нас, можна аднесці іерогліфы егіпецкіх пірамід або шасціграннук прызму з тэкстамі асірыйскага цара Сінахерыба, ці літаратурныя помнікі перыяду Сярэдняга Царства Егіпту..."**

**Але, паколькі кніга называецца "Анталогія беларускай эпітафіі", чытача, безумоўна, цікавяць і тыя першыя сведчанні гэтага жанру, што з'яўляліся ў даўніне на нашай зямлі. З асобнымі можна пазнаёміцца ў раздзеле "Літаратурная эпітафія", які ў кнізе самы аб'ёмны і складаецца з трох частак. Адпаведна прадстаўлены літаратурныя эпітафіі, далей ідуць вершы, якія можна па іх змесце аднесці да эпітафій і, нарэшце, завяршаюць раздзел вершы-прысвячэнні, напісаныя ў гонар памяці. Самыя раннія з эпітафій, змешчаных у кнізе, "Плач Яраслаўны" са "Слова аб палку Ігаравым" (так пададзена назва гэтага літаратурнага помніка А. Кудласевічам. — Ю. В.), "Пахвала Ефрасінні Полацкай", урывак з прадмовы да "Кнігі Юдзіф" Ф. Скарыны. У раздзеле значацца таксама імёны С. Полацкага, У. Сыракомлі... Да эпітафіі ўкладальнікам аднесены і верш К. Каліноўскага "Марыська чарнаброва, галубка мая...", які па змесце набліжаецца да яе, бо гэта слова-развітанне, але адначасова і як бы ацэнка здзейсненага ў імя Бацькаўшчыны. Ёсць і эпітафіі гумарыстычна-сатырычнага зместу, адрасаваныя алкаголікам, прыстасаванцам і г. д. А пачынаецца кніга раздзелам "Народная эпітафія" — А. Кудласевіч пабываў на некаторых могілках і занатаваў асобныя надмагільныя надпісы, пераканаўшыся, што "мяняюцца часы, мяняюцца і надпісы на магілах. Калі да рэвалюцыі эпітафіі насілі рэлігійна-філасофскі сэнс, то ў перыяд "бязбожнай эпохі" тэксты эпітафій набылі матэрыялістычнае гучанне, сталі больш спрошчанымі і павярхоўнымі, больш, я б сказаў, абыякавымі і казённымі. Радуе, што зараз назіраецца вяртанне да рэлігійнай і філасофскай напоўненасці тэкстаў". У раздзел жа "Векапомныя радкі" ўвайшлі надпісы на мемарыялах, помніках, абеліскаx... А завяршае кнігу раздзел "Боль Нямігі", змест якога складаюць надпісы, што пачалі з'яўляцца ў пераходзе станцыі метро "Няміга" ў Мінску пасля трагічных падзей 30 мая 1999 года. Гэтыя надпісы, на думку А. Кудласевіча, "ёсць, па сваёй сутнасці, эпітафіі ў прамым жанравым вызначэнні, незалежна ад таго, у якой форме яны напісаны". Магчыма, падбор матэрыялаў некаторым падасца адвольным, ды, нагадаю, яшчэ раз — гэта першая "Анталогія беларускай эпітафіі". Сам укладальнік прызнаецца "Мы бачым яе недахопы і недасканаласць" і выказвае спадзяванне, што пры спрыяльных абставінах зборнік будзе дапоўнены, і запрашае заўвагі і эпітафіі з могілак дасылаць на адрас выдавецтва "Ураджай".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

УРАЖАННЕ

# Асвечана любоўю

Гэтую невялікую, на паўтары сотні старонак, несамавітую, у многім саматужную на выгляд кніжку са сціплаю назваю "З картатэкі памяці" я прачытаў у адзін, як кажуць, прысест. Прачытаў з неаслабнаю ўвагаю, з цікавасцю, нават з захапленнем, нягледзячы на тое, што сабранае ў ёй друкавалася ў розны час на старонках "Полымя", "Маладосці", "ЛіМа" і ўжо, бадай, чыталася раней. Кніжка гэтая — пра заходні куточак маёй роднай Лагойшчыны і напісаў яе мой зямляк, чалавек пакручастага і нялёгкага лёсу, біёлаг па адукацыі і шматгадовай працы, і паэт у душы Франц Гінтаўт. Фактар зямляцтва абвастраў, безумоўна, маю зацікаўленасць кніжкаю, аднак жа не ён быў галоўны. Галоўным было тое, што кніжка Ф. Гінтаўта — не так пра Лысагоршчыну на Лагойшчыне, як пра Янку Купалу ў яго повязях з Лысагоршчынай, з мясцінамі, дзе Селішча і Акопы, Бясяды і Бяларучы, з кутком паэтавага дзяцінства і юнацтва, з калыскай яго нага магутнага і прарочага таленту.

Сталася так, што бацька Ф. Гінтаўта, беззямельны селянін, арандаваў, а дакладней — браў у запашкі (з аддачаю паловы ўраджаю) хутары і засценкі на той жа ўзгоркавай і камяністай Лысагоршчыне, што і Дамінік Луцэвіч — бацька Янкі Купалы. І ў выніку лёс падараваў Францу Віктаравічу не толькі знаёмства са сваякамі і родзічамі Купалы (з ягонай сястрой Марыяй Дамінікаўнай, з пляменнікам паэта Эдуардам Аўлачынскім), але і з самім Іванам Дамінікавічам.

Больш за тое. Янка Купала пэўным чынам спрычыніўся да таго, што малы Франц трапіў у лік вучняў славутай Мінскай трынаццатай даследча-паказальнай сямігодкі пры БДУ, а пасля стаў і студэнтам не менш славутага Белпедтэхнікума, сапраўднай кузні паэтаў і пісьменнікаў. Ягонымі блізкімі сябрамі ў гады вучобы ў тэхнікуме былі Валеры Маракоў, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка.

Спрабаваў пісаць сёе-тое і сам Франц Гінтаўт: "пісаў гумарэскі ў вусную газету "Шаўцы" (чыталася са сцэны на студэнцкіх вечарах), лірычныя замалёўкі ў насценную газету, стала супрацоўнічаў як селькор у газеце "Беларуская вёска", час ад часу падаваў апавяданні ў часопісы "Піянер Беларусі", "Чырвоны сейбіт". Аднак у пісьменніцтва не ўцягнуўся, прывабіла біялогія".

Так, прывабіла біялогія, але не сама па сабе. Прынамсі, пасля педтэхнікума Ф. Гінтаўт стаў студэнтам філфака БДУ, і перайшоў на біяфак не па сваёй волі. На філфаку тым часам пачаліся масавыя арышты дзеля вынішчэння "нацдэмаўшчыны", вось і давадзілася "ратавацца" пераводам на іншыя факультэты. Так Ф. Гінтаўт апынуўся на біяфаку.

Аднак і там не ўратаваўся, знайшлі, арыштавалі, далі тры гады ссылкі ў Сібір. Пасля трапіў у Саратаў, удалося скончыць там біялагічны факультэт універсітэта. Лёс кідаў то туды, то сюды, зведаў Ф. Гінтаўт нямала ўсяго. Пасля смерці жонкі, на пятым дзесятку гадоў, вярнуўся разам з дачкою на Беларусь, асеў у Гродне, выкладаў у медінстытуце, пасля — ва універсітэце. Даўным-даўно на пенсіі, сёлета адзначыў сваё 90-годдзе.

І ўсё жыццё Франц Віктаравіч зберагаў у сэрцы і душы памяць пра родныя мясціны на Лагойшчыне і пра людзей, сярод якіх узрос і ўзгадаваўся, каму быў абавязаны вельмі і вельмі многім. Сярод іх, вядома ж, найперш памяць пра вялікага Янку Купалу. Святое, незабыўная імя! Рука, акрыленая светлымі і чыстымі згадкамі пра дзяцінства і юнацтва, зноў пацягнулася да пяра. Так нарадзілася гэтая кніжка, з дзевяці раздзельчыкаў якой — шэсць пра Купалу.

Кніжка выйшла, няйначай, як падарунак да пашанотнага юбілею аўтара, пад рэдакцыяй прафесараў Івана Лепешава і Аляксея Пяткевіча ў выдавецкім аддзеле Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Тое, што кніжка выйшла, добра, вядома. Яна безумоўна вартая ўвагі самага шырокага чытача. Яе з цікавасцю і карысцю для сябе прачыталі б вучні, настаўнікі, студэнты, усе, хто цікавіцца гісторыяй роднай літаратуры і жыццём яе творцаў. Ды, на жаль, не прачытаюць. Бо кніжка выйшла ў колькасці 110 экземпляраў! На большае, трэба думаць, не хапіла сродкаў. На беларускую справу на Беларусі заўсёды не ставала сродкаў. Не ставала іх на выданне "Нашай Нівы" і на выпуск кніг у выдавецтве "Загляне сонца і ў наша ваконца" на пачатку стагоддзя, гэтак не стае і зараз, на самым канцы яго, — сітуацыя з выданнем беларускай кнігі амаль тая ж, ці не адзін да аднаго. І радуючыся ажыўленню правінцыйнага друку, з'яўленню то там, то тут кніжак мясцовых аўтараў, адначасова і засмучаешся: кніжкі гэтыя часцей за ўсё выходзяць такімі тыражамі, што задавольваюць толькі чыста асабістыя інтарэсы іх аўтараў, разыходзяцца па знаёмых і сваяках, не становячыся набыткам шырокай грамадскасці і агульнакультурным фактарам. А між тым, многія з гэтых так званых рэгіянальных кніжак маюць несумненнае агульнаграмадскае значэнне.

Вось і кніжка Ф. Гінтаўта. Ягоная "картатэка памяці" зберагла надзвычай шмат малюнкаў, дэталей, каштоўных падрабязнасцей з жыцця і побыту лысагорцаў канца XIX (праз памяць дзеда, бацькі, бабулі, маці) — пачатку XX стагоддзяў, і гэта зберажонае шмат гаворыць пра тое, у якіх умовах і абставінах нараджаўся і выспельваўся талент нашага вялікага песняра. Аповед Ф. Гінтаўта пра зямельнае арандатарства і запашніцтва, пра жыццёвы ўклад і норавы, што панавалі ў дворышчах і асяроддзі арандатараў і запашнікаў, пра мясцовыя здарэнні, легенды і паданні (многія з іх леглі ў аснову твораў Янкі Купалы), пра Селішча, дзе ўпершыню азваўся, прарэзаўся ў Яна Луцэвіча паэтычны голас, пра сем'і Аўлачынскіх і іншых суседзяў Дамініка і Бянігны Луцэвічаў па арандатарскай долі, пра былога ўдзельніка паўстання 1863 года Зыгмунта Чаховіча з Бясяд і Ядвігіна Ш. з блізкай ад Акопаў Карпілаўкі, пра Янку Аўлачынскага, сябра Яна Луцэвіча па вучобе ў Бяларучах, і пра многае, многае іншае выклікае непадробны інтарэс. Зрэшты, ужо сам факт, што Франц Віктаравіч неаднаразова бываў у хаце Янкі Купалы ў Мінску, гутарыў з бабай Боняй і цёцяй Уладзяй (маці паэта Бянігнай Іванаўнай і жонкаю Уладзіславай Францаўнай) і з самім паэтам, гаворыць само за сябе: ці многа сёння людзей, што могуць пахваліцца такімі адведкамі, сустрэчамі і гутаркамі?! Тут кожнае слова, кожнае сведчанне, кожны штрых ці нават знешне не вельмі значная дэталь — на вагу золата...

Да шасці "чыста" купалаўскіх раздзелаў прымыкае і раздзел "Як сон маркотны, не-

КРЫТЫКА

# Сурагат

Як ні прыкра пра гэта гаварыць, аднак жа выяўляецца, што магчымасць друкаваць кніжкі за свой кошт мае і свае мінусы. У прыватнасці, спрыяе з'яўленню нізкагатунковага сурагату. Калі ў дзяржаўным выдавецтве непрафесіяналізм праходзіць сяды-тады, то па-за ім — друкуй, што душы заўгодна. Зборнік вершаў — калі ласка, кніжку прозы — Бог з табой. Абы было чым заплаціць. Бо, як вядома, не заплаціш — не надрукуюць...

Перада мной — два зборнікі берасцейскіх паэтаў. Бяру першы. На цвёрдай дыхтоўнай вокладцы, якой пазайздросціў бы кожны літаратар "залатымі" літарамі выведзены прозвішча аўтара і назва зборніка: "Анатолий Гарай. Уходя в будущее..." Разгортваю — цудоўнае мастацкае аздабленне, выдатная папера! Бачу партрэт Гарая: пажылы чалавек сядзіць у задуменні, падпёршы рукою падбароддзе. Ёсць і прадмова, напісаная Аляксеем Майсейчыкам, прафесарам Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, — у ёй даецца высокая ацэнка вершам. Думаю: нарэшце, прычакаў у выдатным афармленні зборнік выдатнай паэзіі земляка. Але...

Зборнік мае тры раздзелы: першы — на рускай мове, два астатнія — на беларускай. Пачаў чытаць першы. І адразу натрапіў на "цікавы" верш, прысвечаны (здагадайцеся, каму?) васьмідзесяцігадоваму Уладзіміру Бядулю, двойчы Герою Сацыялістычнай Працы, былому старшыні калгаса "Советская Белоруссия". Асабіста я нічога дрэннага супраць гэтага чалавека не маю. Аднак зноў жа — але... Паэт, які "хоть не житель деревни", аднак "крестьянину брат", проста ў захапленні ад гэтага чалавека, падае яго як бога, як сімвал святла і святой бездакорнасці. А напрыканцы дадае: "Комсорг наш // Вечно молодой". Гэткі "малады" "седой і мудрый товарищ", ад якога "посветлело утро" і "весенний хлынул в душу свет". Ніякавата робіцца ад усяго гэтага нават мне, чытачу. А як гэта чытаць самому Уладзіміру Лявонцьевічу?!

У другім вершы аўтар задаецца пытаннем: хто мы? І сам на яго адказвае: "Наследник великой, // Той грозной бури в Октябре..." Па гэтай прычыне сучаснасць аўтара не прываблівае:

***Не потому ль в лучах свободы***
***И демократии до дна***
***Мы вспоминаем наши годы,***
***Как золотые времена?!***

Цягнік прайшоў, паважаны Анатоль Паўлавіч, нават грукату колаў не чуваць...

Але, тым не менш, гэтая акалічнасць не перашкаджае паэту даваць настаўленні дачцэ:

***Я верю, родная, —***
***Все будет о'кей!***
***Жизнь — вещь не простая:***
***Есть странности в ней.***

Вядома, "есть странности в ней", калі

***Коммерсантик дошел до фарса:***
***Нимбом голову он обвил***
***На бумажных портретах Марксу —***
***На "толчке", как святого, сбыл.***

І ці не таму ў Гарая "на душе хмуро" ад гэтага, бо людзі забылі "...берега Амура // И сосеночки Куропат"?

Праўда, тут жа Гарай "збочвае":

***О, дружище... Бизнесмен мой милый,***
***Ты орлом взмываешь в небеса.***
***Как Антею, прибавляют силы***
***Тебе наши нивы и леса.***

І далей, даючы наказ маладым, не адмаўляецца ад сваіх "грашкоў":

***Был и я когда-то молод,***
***Рвался ввысь, где идеал.***
***Красный флаг и Серп, и Молот***
***Высоко я поднимал.***

Ствараецца ўражанне, нібыта і зараз Анатоль Паўлавіч не супраць гэта рабіць, але, дзякуй Богу, разумее, што час змяніўся. Толькі вось надзея, як гэта часта здараецца, памірае апошняй...

Значную частку рускамоўнага раздзела зборніка займаюць вершы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне. Нягледзячы на тое, што аўтар нарадзіўся ў 1936 годзе, гэта не перашкаджае яму падаваць падзеі тых дзён у дэталях, "з веданнем справы", як кажуць. Такая інтэрпрэтацыя гісторыі набывае камічны акрас. Падчас проста здзіўляешся "знаўцу" Гараю, які сцвярджае, што да "вызваленчага" паходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь там "...в оковах народ // С Востока спасенья // И помощи ждал". А калі Гарай думае аб вернасці, то бачыць "первый день войны", калі "...на Буге, в Брестской крепости, // Все были, как один верны // Земле, где родились и выросли". Сёння такое чытаць ужо не сумна, а — сапраўды смешна. Ну, а сам верш? Ці мае гэтае рыфмаванне якое-небудзь дачыненне да паэзіі?

Чытаючы вершы на тэму кахання, лішні раз пераконваешся ў праўдзівасці выслоўя: "седина в бороду, бес в ребро". Мяркуйце самі:

***Опадающий я лист,***
***Ты же — почка новая.***
***Мне лететь на землю, вниз,***
***А ты — вверх готовая.***

Як кажуць, хоць стой, хоць падай тут. Са смеху, вядома ж.

Вось іншы верш. У ім аўтар гаворыць аб сваёй старасці, бурчыць па-старэчы на ўзрост і журботна ўздыхае: "И смотрят женщины // Бесстрастно // На кудри белые мои". Тут найбольш расчульвае гэтае безнадзейнароспачлівае "бесстрастно".

Вершаў такіх — нямала. Лішні раз пераконваешся, што старасць — не радасць. І таму — бурчанне настойліва працягваецца з верша ў верш. Праўда, часам аўтар у думках пераносіцца ў маладосць, у той час, калі ён часта з Ёю блукаў чамусьці па лесе:

***Мне ўспамінаецца: у гэтым лесе***
***Я п'яны быў ад шчасця і пакут.***
***Цвілі ў душы маёй пралескі.***
***Чаму ж цяпер чужы я тут?***
***Чужы, бо стары —***
***адзіны вывад вынікае...***

Аднак жа блуканне гэтае працягваецца і па сённяшні дзень. Ва ўсякім разе, я так зразумеў:

***Мы блукаем па сцежках***
***Асенняга лесу***
***І "ау" — пеленг наш.***

У рэшце рэшт аўтар зазначае, што "...спеў свае прыпеўкі // і быў шчаслівы, як усе. // Даруй ты мне за неспадзеўкі, // За ўсё даруй мне пакрысе". Кропка нібыта нарэшце пастаўлена, аднак усё ж цікава, што паэт меў на ўвазе, гаворачы пра "неспадзеўкі", і чаму яна павінна дараваць "пакрысе"?

Усмешку і недаўменне выклікаюць наступныя радкі:

***Маці стрэлася з дачкой***
***І яе пытае:***
***— П'е гарэліцу муж твой?***
***Ці так... выпівае?***

Хіба піць і выпіваць — не адно і тое ж?

У перадапошнім вершы паэтава муза вяртаецца чамусьці зноў "на кругі свае":

***А каб трасца ў косці ім,***
***Гэтым дэмакратам...***
***Сорам страцілі зусім —***
***Плачуць па іх краты.***

Даліся ж аўтару ў знакі гэтыя безыменныя "дэмакраты"!

І, нарэшце, нібы спісваючы свае "агрэхі", Гарай выводзіць выснову:

***Я не анёл. Я чалавек, вядома.***
***Апраўдвацца не буду ані ў чым.***

Гэта, мабыць, трэба разумець так: не Багі гаршкі лепяць...

Бадай, яшчэ больш моцным у плане "камуністычнага выхавання" чалавека з'яўляецца другі зборнік: "Машеровская улыбка" Мікалая Прасмыцкага. Гэта не першы яго зборнік, а — трэці. Выходзілі яны адзін за адным два гады. І ў кожным з іх — пераважна адны і тыя ж вершы. Такім чынам, адзін зборнік правінцыйнага паэта атрымаў ажно два перавыданні тыражом у дзве і тры тысячы адпаведна. Здавалася б, паэзія ў іх павінна быць вартай такое ўвагі і пашаноты. Тым больш, што прадмовы да двух першых зборнікаў пісаў вядомы наш публіцыст Мікола Панасюк, аўтар добрага дзесятка кніг. Але...

З кароткай біяграфічнай даведкі, дадзенай у адным з трох зборнікаў, вынікае, што "аўтар нарадзіўся ў 1932 годзе пад Магі-

жаданы", у якім Франц Віктаравіч разважае пра верш Янкі Купалы "Сыходзіш, вёска, з яснай явы" і раман Змітрака Бядулі "Язэп Крушынскі". Развагі ўмудронага жыццёвым вопытам чалавека падмацоўваюцца ягонымі назіраннямі з таго часу, згадкамі пра жыццё на той жа Лысагоршчыне ў пару, калі адвечны лад жыцця рушыўся і гвалтоўна пераварочваўся "на калектыўны лад". Закранае Ф. Гінтаўт тут і спрэчнае дагэтуль пытанне аб прататыпах рамана, пытанне аб тым, што хацеў сказаць З. Бядуля сваім раманам — сцвердзіць новую яву ці выкрыць яе.

Раздзел "Па слядах дзвюх знічак" складаецца з двух падраздзелаў — "Скварцоўскі самародак" і "Вялікі летуценнік з Каласоўшчыны". У першым Ф. Гінтаўт згадвае воблік свайго сябра па Белпедтэхнікуме Кастуся Вашыны (Лукаша Калюгі), у другім — другога таварыша па вучобе паэта Сяргея Астрэйку. У адным і другім нямала каштоўных дэталей і штрышкоў пра сяброў юнацтва, якія навечна засталіся маладымі, а таксама пра час, які звёў трох сяброў у сценах тэхнікума і — бязлітасна раскідаў па свеце назаўсёды.

Такімі ж каштоўнымі падрабязнасцямі прываблівае і аповед пра 13-ую даследча-паказальную сямігодку пры БДУ — найперш пра атмасферу ў ёй, пра настаўнікаў, пераважна выкладчыкаў універсітэта, пра аднакласнікаў, — усё разам нямала гаворыць сённяшняму чытачу пра той час, ягоную афарбоўку і калізіі.

Заканчваецца кніжка "Сямейнай хронікай". З яе старонак паўстаюць перад вачыма як жывыя каларытнейшыя постаці "дзеда па бацьку" аўтара Ігната Гінтаўта, бацькі, "шырока вядомага народнага лекара" Віктара Гінтаўта, "дзеда і бабы па маці" Кароля і Ганны Федаровічаў і, вядома ж, постаць маці Марыі Каролеўны, пра якую Франц Віктаравіч апавядае з асаблівай цеплынёю і пяшчотаю. Пазнавальны тут і аповед пра тыя вёскі і фальваркі, у якіх давялося жыць сям'і Гінтаўтаў. Дзед, а пасля і бацька вымушаны былі быць запашнікамі і цягам доўгіх гадоў марыць пра свой кут, пра ўласную зямлю. Віктар Ігнатавіч, бацька Ф. Гінтаўта, атрымаў яе толькі пасля рэвалюцыі, але не надоўга, быццам у насмешку ці на здзек: не паспеў нарадавацца і разгарнуцца як след на сваёй зямлі, выявіць на ўсю сілу моц свае ўмельства і рупнасць гаспадара, як быў аб'яўлены кулаком і ледзь уратаваўся ад высялення разам з сям'ёю. Гэтаксама, як ледзь не апынуліся ў Котласе маці і сястра Янкі Купалы, выгнаныя з родных Акопаў. Бацька Ф. Гінтаўта загінуў ад рук фашысцкіх карнікаў у вёсцы Харужанцы, у той, дзе зараз стаіць філіял музея Янкі Купалы...

І апошняе. Франц Віктаравіч па натуры, па складзе душы, пэўна, сапраўды ўсё ж больш філолаг, чым біёлаг. Мусіць, недарэмна прыводзіў яго лёс у Белпедтэхнікум і на філфак БДУ. Прынамсі, на ўсё жыццё ён застаўся параднёны з родным словам, нідзе, ні на якіх звівах жыццёвых сцежак не забываўся на яго. І яно праз многія гады азвалася ў ім. І кніжку сваіх успамінаў ён пісаў неабыякава. Згадкі з "картатэкі памяці" лягалі на паперу адмысловымі карцінкамі-малюнкамі, поўнымі хараства і замілавання, нібы з-пад пэндзля мастака. Вось адзін з такіх малюнкаў:

"На Лысагоршчыне турыста перш-наперш здзіўляе экзотыка неспакойнага рэльефу, бо навокал відаць разнастайныя ўзвышшы: горы, буйныя ўзгоркі, якія часам нагадваюць забайкальскія сопкі. Паміж асобных узвышшаў праляглі глыбокія старажытныя яры з крутымі схіламі. Яры пазарасталі лесам, хмызняком, а з забалочаных мясцін сочацца невялікія ручайкі. Вясной яры грозна шумяць талымі водамі, а пасля, калі зазеляне юць дрэвы, на досвітках там льюцца мілагучныя мелодыі лысагорскіх салоўкаў.

Здзіўляюць тут новага чалавека і велічэзныя валуны, параскіданыя па ўсіх абшарах. Адзін з іх, самы вялікі на Беларусі, залягае побач з Акопамі, каля вёскі Буды..."

Акопы, згаданыя тут, вядома ж, купалаўскія! І памяць падказвае іншы, купалаўскі, малюнак:

***Поле — горы ды каменне,***
***Потам зліта ўсё,***
***Сенажаць — адно карэнне,***
***Сівец ды куп'ё.***
***Родзе шнур несамавіта,***
***Колькі б працы ўнёс —***
***Ячмень з сажай, з званцом жыта,***
***З свірэпкай авёс...***

"Тут адлюстраваны асаблівасці Лысагоршчыны без перабольшанняў, як мой бацька казаў: "Луцэўчык складна адмаляваў тутэйшае жыццё", — зазначае Франц Віктаравіч.

Сам ён таксама "адмаляваў" сёе-тое з картатэкі сваёй памяці з досыць высокай мераю складанасці, трапнасці і маляўнічасці. І не проста — адмаляваў. Усё ў ягоных аповедах асвечана любоўю. Любоўю да гэтай, роднай сэрцу, зямлі, да людзей, сярод якіх рос і сталеў, да ўсяга, што там дзеелася і чынілася, што рабіла ўражанне на ягоныя розум і сэрца, што засталося з ім назаўжды. І гэтая ягоная любоў мо найперш і кранае.

**Мікола ГІЛЬ**

# Старадарожская справа "прыватнага дэтэктыва"

Рэдакцыя газеты "Прыватны дэтэктыў", досыць папулярнай сярод аматараў "смажаных" фактаў крымінальнага жыцця, сёлета завяршыла адзін, можа, не гэткі масавы, але каштоўны праект. Чатыры гады таму распачаўся пошук... паэтаў, якія жылі або жывуць на Старадарожчыне.

Алесь Усеня, ініцыятар праекта, галоўны рэдактар "Прыватнага дэтэктыва", сам карэнны старадарожац, некалі звяртаўся да малой радзімы з напаўжартаўлівым, напаўсур'ёзным паэтычным прысвячэннем:

***Ён адным і славіцца —***
***Самагонам.***
***Хлопцы пасміхаюцца:***
***— Самы гонар!***

***Хваляцца паэтамі,***
***Мастакамі.***
***Раяць мне заведама***
***"Про стаканы"...***

***І насіць бы мусіла***
***Сэрца камень.***
***Толькі ганаруся я***
***Землякамі...***

Як высвятляецца, не толькі якасным свойскім "віскі", але і паэтамі ганарыцца старадарожская зямля. Адны з іх шырока вядомыя — Янка Непачаловіч, Кастусь Цвірка, Міхась Парахневіч. Іншыя — а іх некалькі дзесяткаў — увайшлі ва ўсебеларускі літаратурны кантэкст галоўным чынам дзякуючы выдавецкаму праекту "Прыватнага дэтэктыва".

Ён складаецца з трох кніг паэзіі — "Арэскія вытокі" (1996), "Росныя далі" (1999) і "Расінка" (2000), усе выдадзеныя выдавецтвам "Прыватнага дэтэктыва".

Зямлю, што "над ракою Арэсай", калісьці апяваў у вядомай паэме Янка Купала. Невыпадкова ў назвах усіх зборнікаў высвечваюцца "Арэса", "раса", "роснасць".

Поруч з "мэтрамі" ў гэтых зборніках шырока прадстаўленыя творы старадарожцаў Іосіфа Корзуна, Альберта Міхайлава, Людмілы Журавай, Мікалая Грузда, Аркадзя Пеняэя, Віктара Лелюкова і шмат каго яшчэ.

Імёны, аўтары, асобы... Адкуль увогуле бяруцца паэты? Старадарожскі праект пераконвае ў тым, што яны вырастаюць, бы расліны з глебы, з іншых прафесій, не толькі паэтычных. Пагатоў трэба берагчы, шанаваць і пяшчотна вырошчваць гэтыя "расліны". Людміла Ананіч, Вольга Лелюкова прыйшлі ў паэзію з журналістыкі, Ганна Верамей, Тамара Дзмітрук, Віктар Лелюкоў, Уладзімір Сітнік, Віктар Шумскі, Віталь Юрэвіч — з педагогікі, Галіна Малец і Марыя Захарава — з гандлю, Уладзімір Праташчык, Мікалай Чака — з сельскай гаспадаркі, Алесь Шчэрба — з органаў унутраных спраў, Альберт Міхайлаў — з апарату кіравання; Ігар Лізура — мастак-разьбяр, Міхаіл Ляснёў — былы механік, Аркадзь Пенязь — былы вайсковец.

А вось аўтары зборніка "Расінка" прыйшлі ў літаратуру з дзяцінства. Пэўна, гэта першае ў Беларусі выданне юных паэтаў, якія жывуць у адным раёне. Цяжка меркаваць, ці стануць у будучым паэтамі-прафесіяналамі Таццяна Бярнадская, Ірына Чаронка, Алена Суркова, Марына Рахматуліна, Вольга Емяльянава, Вольга Лелюкова ды іншыя аўтары "Расінкі" — іх тут каля дваццаці. Дый ці самае гэта галоўнае? Прафесіянал — кім бы ён ні быў — перадусім творца, а імкненне тварыць, праяўленае ў дзяцінстве, прыдасца і ў сталым узросце.

Прага быць надрукаваным — тое, што снобы ад літаратуры называюць "графаманіяй". Але гэта такое ж натуральнае жаданне паўнавартаснага чалавека, як і прага кахання, абнаўлення, сямейнага дабрабыту. Гэта добра ведае галоўны ініцыятар праекта, сам Алесь Усеня, якому досыць цяжка ўдалося выданне першага зборніка ўласнай паэзіі "Я хачу на сваю планету..."

Малая радзіма — магістральная тэма сталых і юных паэтаў Старадарожчыны. Натуральна, паэты пішуць пра перажытае. Так, Аркадзь Пенязь у сваіх "афганскіх" вершах дзеліцца балючымі ўспамінамі пра трагічную ваенную кампанію, удзельнікам якой ён стаўся.

Але аўтары не абмяжоўваюцца біяграфічным і блізкім. Яны раздумваюць пра каханне, рэлігію, светабудову, лёс Бацькаўшчыны. Ад рэгіянальнага да нацыянальнага, ад нацыянальнага да універсальнага — такая парадыгма пошуку, пэўна, агульнапрынятая, ды іншай няма. Гэта разумеюць нават наймалодшыя аўтары. "Эх, беларусы..." — уздыхае Віталь Былінскі. А Ірма Паклонская дзівіць добрым валоданнем тэхнікай верлібра. Узгадваецца Максім Багдановіч з яго нацыянальным пафасам ("Народ, Беларускі Народ!") і імкненнем да універсалізацыі.

Завяршэнне "старадарожскага праекта" супала па часе з дзесяцігадовым юбілеем газеты "Прыватны дэтэктыў". Прадукт камерцыйнай журналістыкі — рэч эфемерная... Кніга — больш трывалая ў часе рэч. Пра гэта, пэўна, памятаюць юбіляры, якія дзеля дабрачыннасці выдаюць кнігі беларускіх аўтараў.

Паэты ў Беларусі жывуць не толькі на Старадарожчыне. Калі б у кожным горадзе, мястэчку Беларусі з'явіліся аналагічныя творчыя праекты, мы б сталіся самай літаратурнай краінай у свеце. Высакародная справа — алітаратурванне, паэтызацыя нашага халоднага, жорсткага свету.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

лёвам, скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, працаваў аграномам, 12 гадоў узначальваў саўгас "Рагазнянскі" Жабінкаўскага раёна, затым быў на савецкай і партыйнай рабоце". Пачытаем трэці, *так бы мовіць, найбольш "спелы"* зборнік, прадмову да якога напісаў Юрый Паталкоў, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта. З яе мы, дарэчы, даведваемся, што "пра зборнікі Мікалай Аляксандравіч падумаў, толькі выйшаўшы на адпачынак..." А самае, бадай, галоўнае, што, сцвярджаецца ў прадмове, жыццё М. Прасмыцкага — "благородная поэзия". З гэтым мы спрачацца не будзем, магчыма, яно сапраўды так, а вось што да самой яго паэзіі.

Дзевяноста працэнтаў вершаў зборніка каму-небудзь прысвечаны. У пераважнай большасці — калегам-аграрыям. Якімі толькі словамі ні выказвае ён прыхільнасць і вялікую павагу да таго ці іншага кіраўніка гаспадаркі! Вось верш, прысвечаны юбілею вядомага старшыні калгаса Уладзіміру Антонавічу Ралько:

***Как много дал Антоныч миру***
***И знатных воспитал людей!***
***Все аплодируют кумиру,***
***Желают много светлых дней.***

***И я, как истинный аграрник,***
***Ценю героя высоко.***
***Пускай желанный яркий праздник***
***Не раз приходит в дом Ралько!***

Ну, у застоллі, прачытаць такое — адно, а ўключаць у зборнік — зусім іншае...

Віктар Краўчанка, старшыня калгаса "Заветы Ильича" Лунінецкага раёна, сядзіць "в высоком тереме" ды "Забытый край преображает, // Трудясь с обманутым народом. // Он здесь судья, законодатель, // Источник доброты и света". І ў гаспадарцы ягонай "бычки" проста "загляденье". І нават "ценятся на внешнем рынке". Даруйце, але як такое чытаць у зборніку вершаў?

Хай чытач мне даруе, але астатнія "тварэнні" пакіну без каментарыя, бо ён — лішні...

Васіль Куніцкі — "ивановский кудесник", імчыцца да сялян на машыне, "президент которую вручил". Пры гэтым аўтар гукае: "Так держать!"

Аляксей Скакун, старшыня калгаса "Астрамечава": "душа и мозг большой семьи. // В хозяйстве он — отец, законодатель, // Источник света и земной любви".

А В. Басевіч, дырэктар завода "Спецжалезабетон" Лунінецкага раёна, "словно песня, с людьми в грядущее идет", бо "Семнадцать лет в глуши Полесья // Крепит Отечество завод".

Ёсць верш, прысвечаны В. Урбану, кіраўніку свінагадоўчага комплексу калгаса "Россия" Лунінецкага раёна.

Са зборніка мы даведваемся, што такіх, як Я. Кудзінаў, старшыня калгаса "Рассвет" Пружанскага раёна, "на свете больше нет". А Георгій Раманюк, яго сябар-аграрнік, усё жыццё "лелеял и ярко светил".

А калі А. Волчык, "поддержанный талантливым народом, // Пришел в угасающий район", то "Озарилась жизнь с его приходом, // *Исчез глубокий, беспробудный сон*"...

Некалькі вершаў паэт прысвяціў ужо вядомаму нам Уладзіміру Бядулю, называючы яго "крылатым мужиком", "отцом и богом", "великим стратегом":

***Почти полстолетья,***
***Не зная покоя,***
***Бедуля оазис***
***В песках создавал...***
***Сегодня Отечество***
***Славит Героя:***
***Экзамен сверхтрудный***
***Леонтьевич сдал!***

Можа, таму і сказаў камбайнер Валодзя: "Как в санаториях нас кормят. Благодать!"

М. Прасмыцкі называе ўсіх старшынь калгасаў "людьми высокого долга". І прыходзіць да высновы, што "колхоз — это люди, созвездия судеб", у якім, аднак:

***Если кто-то нарушит***
***"Калгасны Статут",***
***Сообща подбирают***
***Лекарства.***

Аўтар у эмацыянальным экстазе марыць пра "гранитный мавзолей", спадзеючыся, мабыць, на тое, што І. Рудзенка, генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Граніт", якому прысвечаны верш, выдзеліць на гэтыя мэты патрэбны матэрыял.

Не абышоў сваёй увагай М. Прасмыцкі і вядомых палітычных дзеячаў сучаснасці. Так, расійскага генерала Лебедзя ён называе "лебедем мира". А Уладзімір Заламай, ужо былы старшыня Брэсцкага аблвыканкама, — гэта чалавек, які кожны дзень спальваў сябе, каб "поднять промышленность, колхозы" ды каб "стало солнечней, красивей". Спальваў сябе і заўчасна згарэў...

І яшчэ. Досыць цікавая ў паэтаў-дзядоў лірыка кахання. Той жа Прасмыцкі піша:

***— Я Вам не снился???***
***Боже мой, а Вы***
***Со мной на яхте***
***По морям катались!***
. . . . . . . . . . . . . . . . .
***Ликуя, Вы***
***Продвинулись вперед,***
***Коснувшись рук,***
***Меня воспламенили.***
. . . . . . . . . . . . . . . . .
***Я Вас ласкал,***
***А солнышко струилось...***

Што гэта? Інтэрпрэтацыя маніякальнай заклапочанасці, вынік нерэалізаваных юнацкіх сіл ці проста дэфармацыя псіхікі?

"Уходя в будущее" з падобнай паэзіяй хутка прыйдзеш у тупік.

**P.S.** *Я не маю нічога супраць старшынь калгасаў, якіх згадваю. Так што даруйце ўсе, каго пакрыўдзіў...*

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**

*г. Брэст*

ДРУК

# Ракаў — краіна беларускасці

Ёсць на Валожыншчыне старажытнае паселішча — Ракаў. Багатае на гістарычныя і культурныя адметкі мястэчка. Нават сваю газету мае Ракаў — "Ракаўскі шлях" (пабачыў свет ужо трэці нумар, наклад — 200 асобнікаў). А рэдагуе выданне, з'яўляецца яго выдаўцом прафесар, знакаміты беларускі літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша.

Беларускасць, гістарычнасць Ракава шырыцца, развіваецца і сёння. Уся справа — у апантаных, руплівых беларусах, якія жывуць у мястэчку, ці наведваюцца сюды кожным вольным днём.

Некалі мінская акадэмічная шматтыражка выступіла з артыкулам (аўтары — Адам Мальдзіс і Сцяпан Лаўшук) "Час стварыць у Ракаве музей". "Ракаву і суседнім санаторыям, прафелакторыям і дзіцячым здраўніцам востра неабходна такая культурна-асветная ўстанова!" — заклікалі вучоныя ў 1983 годзе. Сёння ў Ракаўскай СШ працуе пакой-музей імя В. Налецкага, у ім адлюстравана гісторыя школы, мясцовага калгаса, ёсць экспанаты матэрыяльнай культуры. Невялікую карцінную галерэю стварыў у сваім доме мастак, акадэмік жывапісу Ф. Янушкевіч. А сам В. Рагойша падрыхтаваў у бацькоўскай хаце музейную экспазіцыю "Поліэтнічная культура Ракаўшчыны". Будзем спадзявацца, што з часам у Ракаве адчыніць свае дзверы і дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# "Кантакты і дыялогі", N 10

Значная частка матэрыялаў чарговага нумара гэтага бюлетэня прысвечана нацыянальным супольнасцям Беларусі. У прыватнасці, расказваецца, як праходзіў III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур. Можна даведацца, чым займаюцца суполкі немцаў, палякаў, рускіх, татараў і башкір, цыган, чувашоў. Як заўсёды, змястоўны раздзел "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце". Змешчаны біяграфічныя звесткі пра лаўрэата Нобелеўскай прэміі Ж. Алфёрава, А. Баршчэўскага, Т. Стагановіч, М. Яцкевіча, слова-развітанне ў сувязі са смерцю П. Шубы. Чытач знойдзе і матэрыялы, аб'яднаныя ў раздзелы "Беларускае таварыства дружбы ў дзеянні", "Рэцэнзуем кнігі", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця", "З рэдакцыйнай пошты". Прыцягваюць увагу развагі "З рэдактарскага блакнота". Адметнасць нумара ў тым, што ён аддрукаваны ў павялічаным аб'ёме і разасланы дзякуючы дабрадзейнай дапамозе швейцарскага Фонду "Pro Helvetia".

## “У краіне райскай птушкі”




**Назву чарговаму перавыданню літаратурнай спадчыны Янкі Маўра дала аповесць, напісаная аўтарам у 1928 годзе (кніга выпушчана выдавецтвам “Юнацтва”). Юныя чытачы адразу трапляюць у таямнічны свет: “Далёка-далёка ад нас, на другім баку зямлі... на поўнач ад Аўстраліі, ляжыць вялікі востраў Новая Гвінея”. Сюды прыехалі ў пошуках шчасця рабочыя ці не з усяго свету. Але дзе яго знайсці, калі і тутэйшаму люду нялёгка жывецца. Ды і сярод яго знаходзяцца тыя, хто, далучыўшыся да цывілізацыі, эксплуатуе супляменнікаў. Адзін з іх місіянер Саку. Няпросты і пакручасны шлях да праўды. Яго даводзіцца шукаць і тым, хто жыве “ў краіне райскай птушкі”.**

**Юныя чытачы атрымалі мажлівасць пазнаёміцца і з іншымі творамі Я. Маўра, якія даўно сталі хрэстаматыйнымі. І дзякуючы займальнаму сюжэту прыцягваюць увагу новых пакаленняў. Гэта тычыцца і аповесці “Чалавек ідзе”, якая ўпершыню друкавалася ў часопісе “Беларускі піянер”. Я. Маўр расказваў аб жыцці першабытнага чалавека. Ды не чалавека нават, а дзікуна, які не ўмеў плакаць, смяяцца, тым больш гаварыць... Здавалася б, як паведаць пра жыццё таго, хто і думаць не можа?! Але Я. Маўр паведаў. З першабытнага статка ён узяў некалькі “чалавек”, умоўна называючы іх Ра, Агу, Крат. Астатняе заключалася ва ўменні знайсці адпаведны кантакт з юным чытачом. Яго Я. Маўр знайшоў у самым пачатку аповесці, заінтрыгаваўшы казачным зачынам: “Гэта было даўным-даўно...”. Так даўно, што неабходна самая вялікая фантазія, каб уявіць тое, што магло адбыцца: “Фігавыя і лаўравыя дрэвы раслі разам з хваёвымі. Разам з дубам, клёнам і вязам падымаліся пальмы, а нашы бярозы і вербы стаялі побач з міртамі, магноліямі і алеандрамі”. Усё было на зямлі, усё, але... “Нідзе толькі не відаць было слядоў чалавека. Ніводнага чалавечага жылля не было па ўсёй краіне. “Прысутнасць” і самога апавядальніка, і яго чытачоў у тым далёкім часе ўзмацняецца пастаяннымі пытаннямі, якія задае аўтар: “Ці здагадаюцца нашы людзі зрабіць тое, што яны павінны зрабіць?”, “Ці мог ён (першы чалавек. — Ю. В.) наогул думаць так, як мы гэта сабе ўяўляем?” Супраць чалавека, здаецца, усё... Небяспека падсцерагае яго на кожным кроку. Але на тое ён і чалавек, каб мужна ісці наперад, падымаючыся па нябачных прыступках фізічнага і маральнага ўдасканалення. І вось дзікун Ра робіць тое, што ён абавязкова павінен быў зрабіць. Убачыўшы льва, Ра схапіў палаючую галінку і смела кінуўся на звера... Той рынуўся ў страху прэч. Людзі зразумелі, што ім ніхто не страшны, “на тварах іх засвяціўся першы смех. Гэта засмяяўся Чалавек-Пераможца”.**

**Чалавек-Пераможца, які паступова асэнсоўвае сябе як асобу, у цэнтры многіх твораў Я. Маўра, незалежна ад таго, калі адбываецца іх дзеянне. Але шлях да самасцвярджэння вельмі цяжкі і далёка не ўсе могуць яго прайсці. Аднак героі аповесці “Палескія рабінзоны” з гонарам вытрымалі ўсе выпрабаванні, што выпалі на іх долю. Віктар і Мірон пасля аварыі з лодкай апынуліся ў сітуацыі, у нечым блізкай да той, у якой знаходзіўся легендарны Рабінзон. Праўда, той хоць мог забраць з затанулага карабля неабходныя рэчы. У Віктара ж і Мірона з сабой аказаліся толькі чатыры запалкі ў адсырэлым карабку, насоўка, аловак, а яшчэ крыху грошай... Ды якая з іх карысць на востраве! Акрамя таго, героі аповесці яшчэ нічым асабліва не вызначаюцца. Нічым? Ды ёсць у Віктара з Міронам тое, што заўсёды можа спатрэбіцца. Гэта — сіла волі, дапытлівасць. Веданне законаў прыроды. А той, хто валодае падобнымі якасцямі, з гонарам вытрымлівае суровыя выпрабаванні. Прысутнічаюць у творы і элементы дэтэктыва. Яны ўзмацняюцца пасля таго, як персанажы сутыкаюцца з сапраўднымі бандытамі. Увайшлі ў кнігу і іншыя творы Я. Маўра, што, безумоўна, знойдуць сярод юных чытачоў сваіх прыхільнікаў: аповесць “Сын вады”, апавяданні “Слёзы Тубі”, “Незвычайная прынада”, “Лацароні”, “Бунт звяроў”, “Падарожжа вакол дома”, “Шчасце”, “На крызе”, “Багіра”.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПРОЗА

# 1975-ы

Леанід МАРАКОЎ



АПАВЯДАННЕ

*З ЦЫКЛА “НЕПАМЯРКОЎНЫЯ...”*

ЁН ІШОЎ не побач, а ззаду, за метраў чатыры-пяць ад мяне, акуратна вытрымліваючы дыстанцыю. Я мог уцячы ад яго, а мог і заваліць (як кажам мы, барцы) гэтага канваіра ў цывільным. Але... мне трэба было здаць экзамены. І здаць на “выдатна”. І паступіць у інстытут. Абавязкова паступіць! У нашай сям’і і сярод родзічаў, тых, хто насіў наша прозвішча, няздараў не было. Двое, праўда, не скончылі вучобы, але не па сваёй віне, а з прычыны іх гвалтоўнай смерці.

Цывільны паказаў мне на жалезныя дзверы і ціха, але выразна сказаў:

— На тую вунь кнопку націсні, калі ласка.

“Хоць і фамільярнае “ты”, а ўсё ж — “калі ласка”, — адзначыў я сам сабе. — Кэдэбэшнікі — не мянты! Іншы клас. Як гавораць “варожыя галасы”, — вышэйшы”.

Утапіўшы даволі высока размешчаную кнопку званка (відаць, каб дзеці не дурэлі, — дом упіраўся ў агароджу школы-інтэрната), я агледзеўся і здзіўлена прыкінуў: цэнтр горада, звычайны жылы дом і раптам — абсалютна нестандартныя для такіх дамоў дзверы з тарца. Не прыпамінаю, каб хоць у адным жылым пяціпавярховіку я калі-небудзь бачыў дзверы ў тарцовай сцяне.

Адчыніў іх “таварыш” значна старэйшы за майго праважатага і вельмі ветліва, спакойна сказаў:

— Добры дзень, Аляксандр Уладзіміравіч. Праходзьце, калі ласка.

“Цікава, — не пераставаў я здзіўляцца. — Што зноў “калі ласка” — гэта зразумела. Стыль у іх цяпер такі, цывілізаваны. А вось зваротак па бацьку насцярожвае”.

Праз невялічкі калідорчык мы прайшлі ў светлы, хоць і шчыльна заштораны пакой.

— Прысаджвайцеся, — ці то загадаў, ці то запрасіў старэйшы “таварыш”.

Апускаючыся на крэсла, я заўважыў, як ён зрабіў майму праважатаму знак, і той выйшаў. Але не проста выйшаў, а, зачыніўшы за сабою дзверы, некалькі разоў паторгаў за ручку: праверыў, ці зашчоўкнуўся замок.

“Гэтыя ўсё правяраюць, — не без іроніі зафіксаваў я. — Гэтым сведкі не патрэбныя. Нават свае”.

— Аляксандр Уладзіміравіч, — пачаў старэйшы, — вы — чалавек малады... Дарэчы, не пакрыўдзіцеся, калі я буду зваць вас проста Аляксандрам? Не? Добра. Дык вось, я ўжо сказаў: чалавек вы — малады, і ўсё жыццё ў вас — наперадзе. І нам, паверце, не хацелася б яго псаваць. Вы без троек заканчваеце школу, наперадзе — інстытут. Увогуле, усё ў вас ідзе, скажам проста, добра, нават выдатна. Але ёсць адна сумная акалічнасць. Здагадваецеся, якая? Не? А трэба было б! Вашая цікаўнасць. Гэтая слабасць, ведаеце, многіх загубіла. Я разумею: малады, дапытлівы розум, жаданне ведаць болей за іншых. Усё гэта варта пахвалы! Але... Але жаданне ведаць больш за нас, а галоўнае спробы несці веды ў масы — гэта не цікаўнасць, а нешта горшае. І яно нас непакоіць. Я сказаў бы - нават раздражняе, калі быць да канца шчырым.

Я не разумеў, куды ён хіліць. “Дапытлівы розум, жаданне ведаць больш за іншых”, — адкуль гэта ў яго? І што ў гэтым дрэннага? Каму можа пашкодзіць імкненне да ведаў, да ісціны? А што азначае — “ведаць больш за нас”? Хіба я калі думаў пра нешта такое? Я хацеў бы ведаць праўду, рэальнае становішча спраў. Але ж вас ужо адно гэтае жаданне раздражняе. Вы тут і дзеля таго акурат, каб ніхто праўды-ісціны не ведаў. Словы яго, а найперш паблажлівы, амаль бацькоўскі тон, якім яны былі вымаўлены, непрыемна закранулі мяне, нават ці не абурылі. І я досыць рэзка і, як на цяперашні мой розум, занадта смела адказаў:

— Даруйце, але, нягледзячы на свой, як вы сказалі, дапытлівы розум, я не разумею, пра што ідзе гаворка? Пра якую-такую маю цікаўнасць? І чым вам не падабаецца імкненне да ведаў?

Маладосць і смеласць — сёстры-неразлучніцы. Яны і цягнулі мяне за язык, штурхалі на хоць сабе і слоўнае супрацьўленне. Гаварыў я шчыра, хвалюючыся, але, як зараз разумею, субяседнік палічыў мае словы суцэльным нахабствам. Ён не схацеў нічога тлумачыць, а раптам выцягнуў шуфлядку стала і дастаў з яе блакітны паўагульны сшытак. Мой сшытак!

Відаць, ад нечаканасці я раскрыў рот, таму што “таварыш” ухмыльнуўся і спытаў:

— Здзіўляецеся, адкуль у нас “таемныя нататкі дзекабрыста”? У адрозненне ад некаторых, хітраваць і падманваць не буду. Прынесла сшытак ваша класная кіраўніца, настаўніца гісторыі і грамадазнаўства. Толькі, калі ласка, не гарачыцеся і не думайце пра яе кепска. Паверце, яна зрабіла гэта з самымі лепшымі намерамі. Яна хвалюецца за вас, перажывае. Так і сказала: “Вядома ж, хлопец гуляе, захапляецца. А калі — не? Вось на ўсякі выпадак і прынесла”. Добрая ў вас класная, прадбачлівая. Прыйшла загадзя, на ўсялякі выпадак, пакуль не здарылася бяда. На гэты самы выпадак і каб не адбылося бяды, мы вас і запрасілі...

Словы кэдэбэшніка да мяне даходзілі, як скрозь вату. Не хацелася верыць: настаўніца выдала вучня? Мяне! І каму?! Арганізацыі, перад якою цьмянеюць усе мярзотнасці свету?! З гэтага дня я — “засвечаны”! Цяпер да магілы мяне павядзе па жыцці нейкая кэдэбэшная шасцёрка... Ашаломлены, я маўчаў. Не мог выціснуць з сябе ні слова. Усяго чакаў, ідучы сюды, але такога...

А дабрадзею майму, напэўна, не надта і трэба было што-небудзь пачуць ад мяне. І ён працягваў паблажлівым голасам:

— Мы прагледзелі, Аляксандр, ваш сшытак. Цікавы малюнак атрымліваецца. З артыкулаў, што выходзілі ў Савецкім Саюзе пра паклёпніка і фашысцкага пярэваратня Салжаніцына, выпісвалі вы толькі цытаты з яго самога. Прычым, без ніякіх каментарыяў. Ну проста no comment. А калі па-нашаму - няма слоў! Так, так, няма ў нас слоў, дарагі Аляксандр Уладзіміравіч! (“А казаў жа, па імені будзе называць, па-простаму”, — міжволі адзначыў я.) Краіна вас выгадавала, выхавала, дала адукацыю, а вы замест ўдзячнасці калекцыяніруеце паклёпы на яе здраднікаў і адшчапенцаў. Вось і Сахараву асобны раздзельчык адвялі. Нават не ведаю, як гэта ўсё разумець...

Я таксама не ведаў. Ён глянуў на мяне і, відаць, убачыў у маіх вачах гэтае няведанне. Быццам сапраўды жадаючы памагчы мне зразумець, што і да чаго, пачаў тлумачыць:

— Вы, напэўна, не ўсведамляеце, малады чалавек, што стаіце на краі бездані. Ведаеце, як гэта бывае? Ланцужок тут самы просты. Спачатку калекцыяніруем пасквілі здраднікаў і адшчапенцаў, а пасля і самі... Пачынаеш з паўтарэння чужой хлусні, а неўзабаве яна робіцца тваёй праўдай, перакананнем. У сувязі з гэтым і хацелася б задаць вам пытанне: што будзем рабіць, Аляксандр? Як жыць? Далей вывучаць “творчасць” так званых дысідэнтаў, а па сутнасці — здраднікаў Радзімы, агентаў імперыялізму? Пашыраць іх шкодныя думкі сярод сваіх таварышаў?...

Я маўчаў. Аглушылі страшныя для мяне з маленства словы: здраднік радзімы, агент імперыялізму... Нешта падказвала, што я на шляху туды, адкуль можна не вярнуцца. Сэрца маё ўжо даўно калацілася, як у злоўленага зайца. Здавалася, што яго гулкія і частыя ўдары чуе ўся краіна, і ўсе навокал, калі мне давядзецца выйсці на вуліцу, пачнуць тыцкаць у мяне пальцам, і грымне голас Левітана: “Вось ён, агент імперыялізму. Радзіма яго выгадавала, а ён — здрадзіў ёй”...

А чэкіст знячэўку сказаў:

— Наконт яблыка і яблыні, дружа мой, вельмі правільная прыказка.

Значна пазней я зразумеў, што гэтыя словы былі вымаўлены невыпадкова. Яблык — гэта я, а яблыня — мой бацька, арыштаваны і сасланы толькі за тое, што ў нашай хаце знайшлі кнігі Максіма Гарэцкага і Язэпа Лёсіка; бацька, які вярнуўся ажно праз семнаццаць доўгіх гадоў з канцлагера інвалідам і пражыў на свабодзе ўсяго некалькі дзён; гэта і мой дзед, удзельнік Першага Усебеларускага з’езда, таксама названы ворагам народа, ён трынаццаць гадоў праішачыў у шахтах Варкуты, дзе надыхаўся вугальнага пылу і памёр ад раку горла, не паспеўшы нацешыцца воляю; гэта і мае дзядзькі, бацькавы браты-настаўнікі, аднаго з якіх ноччу расстралялі адны акупанты, другога —удзень, з-за вугла — другія.

Тады я нічога гэтага не ведаў і, вядома, расхваляваўся. Быў усё ж дастаткова дарослым, каб разумець: з КДБ лепш не звязвацца. І калі там зацікавіліся табою, гэта не абяцае нічога добрага. Карацей, было ад чаго запанікаваць.

Бачачы мой настрой, кэдэбэшнік павесялеў, заўсміхаўся: яго казань падзейнічала. І парашыў суцешыць мяне.

— Ды не хвалюйся ты гэтак, Аляксандр, — сказаў ён. — Мы ж не звяры якія-небудзь. Разбяромся, паможам. Але і ты нам павінен памагчы. Спачатку мы хацелі б атрымаць адказы на некаторыя пытанні. Скажы, калі ласка, чым табе спадабаўся Салжаніцын? Чаму ты так беражліва і акуратна выпісваў і наклейваў яго цытаты? Раскажы, не бойся. Толькі — папраўдзе. Тады і нам будзе лягчэй табе памагчы.

Ну як можна было не адклікнуцца на такую просьбу? Я ж і ўяўлення не меў, якімі яны могуць быць памочнікамі. І зусім шчыра, як неразумнае мышаня перад кошкаю, замяўкаў:

— Я люблю матэматыку, фізіку, наогул дакладныя навукі. Настаўнікі кажуць, я чалавек тэхнічнага складу. Ну і, як вы сказалі, цікаўны. Заўсёды стараюся дакапацца да ісціны. Любы новы факт мяне быццам падганяе — а чаму гэтак? Чаму не інакш, не па-іншаму? У падручніку гісторыі, напрыклад, чытаю: 30-я гады, культ асобы, рэпрэсіі. Я адразу ж загараюся: што за культ асобы, якія рэпрэсіі? Класная наша — маўчыць. А калі і гаворыць, дык што-небудзь не вельмі ўцямнае. Ну, а тут — Салжаніцын. Чытаю і вочы разуваю: у яго ўсё зразумела...

— І што ты зразумеў?

— А як у яго напісана, так і зразумеў: кроў, допыты, забойствы невінаватых. Ды вы ж самі ведаеце. Вы ж, напэўна, чыталі Салжаніцына. У яго ўсё названа сваімі імёнамі. Забойствы тысяч, можа быць, мільёнаў. Генацыд супраць усёй краіны, у першую чаргу — супраць яе інтэлектуальнай эліты. Спробы зрабіць СССР краінай рабоў, краінай-канцлагерам...

— Нават гэтак? Ах, мой юны сябар, гэтак ты далёка пойдзеш. Вельмі далёка! Нават далей, чым мы думалі. Далей, чым...

Ён не сказаў, далей за каго або за што я пайду. І толькі праз многа гадоў я зразумеў, што ягоная фраза павінна была мець прыкладна такі працяг: “...чым увесь твой род, які мы выразалі!” Але тады ён не сказаў гэтага. Відаць, палічыў дачасным. Палічыў, што для пачатку дастаткова будзе добра напалохаць бязвусага юнака, па сутнасці, хлапчука. Толькі гаворка павінна быць жорсткай і працяглай. Каб пакінула ўражанне і запомнілася.

І яна доўжылася некалькі гадзін. Пытанне ішло за пытаннем. Дробнае — за сур’ёзным, жартаўлівае — за пагрозным, наіўнае — за пытаннем з падтэкстам, з намёкам. На паасобныя з іх я проста не мог адказаць — адказы на іх хацеў бы ведаць і сам.

У рэшце рэшт, зразумеўшы, што “адэпт Салжаніцына” не праводзіць ніякіх аналогій паміж таталітарызмам Сталіна і сённяшнім днём, і прачытаўшы пад канец лекцыю пра пільнасць, “таварыш” мяне адпусціў, сказаўшы напаследак:

— Добра, ідзі здавай свае экзамены...

●

Мама ўжо страшэнна хвалявалася, не знаходзіла сабе месца: дзе я прапаў? Звычайна адразу пасля школы прыходзіў дадому, а тут знік аж да вечара!

— У бібліятэку заскочыў, — апраўдваўся я, хоць і не быў ні ў чым вінаваты.

— Зачытаўся і не заўважыў, як час праляцеў.

— Урокі, сынок, трэба вучыць, а не зоркі лічыць. — Мама мела на ўвазе літаральны сэнс гэтых слоў. — Два дні да экзаменаў, а ў цябе ў галаве абы-што!

Сказаць маме праўду ў той вечар я пабаяўся. Мяне сурова папярэдзілі: нікому ні слова! Слова "нікому" паўтарылі двойчы ці тройчы. Гэта, вядома, азначала, што і маці — ні слова.

Толькі з цягам часу я зразумеў, як мне пашанцавала, што ў той гутарцы не дадумаўся суаднесці таталітарызм Сталіна, адкрыты, крывавы, і іншы, тымчасовы — прыхаваны, прыаздоблены, паўзучы. Аднак жа такія-сякія высновы зрабіў і тады. Прыйшла ў галаву думка пра тое, што пасля ўсяго мяне будуць пытаць на экзаменах з асаблівай прадузятасцю. Гэтая пагроза прымусіла праштудзіраваць экзаменацыйныя білеты ад першага да апошняга, вызубрыць іх, як кажуць, назубок.

Зрэшты, матэматыку і фізіку, да якіх я меў даўнія сімпатыі, зубрыць не спатрэбілася. А вось над гісторыяй давялося папацець. Ды, наўздзіў, ніхто да мяне не чапляўся, пытанняў "на зарэз" не задаваў, і экзамены я здаў без асаблівай напругі. Але толькі атрымаўшы атэстат сталасці, уздыхнуў з палёгкай:

— Праскочыў! Я — свабодны!

Так, побач са словам "праскочыў" сарвалася ў мяне з языка і, як потым стала модна гаварыць "гэтае салодкае слова — "свабода". Вось так, нават усё вывучыўшы, я лічыў, што не здаў, а праскочыў, і, не зрабіўшы злачынства, радаваўся, што свабодны. Тады я не ведаў, што ва ўсёй гэтай дзіўнай логіцы вінаватыя мае перастраховачныя гены.

●

На наступны ж дзень пасля экзаменаў пачаў узмоцнена рыхтавацца да чэмпіянату Мінска па дзюдо. "У школе праскочыў выпадкова, — вырашыў я пасвойму, — а пры паступленні ў інстытут іны мяне ўсё ж дастануць. Значыцца, для падстрахоўкі трэба перамагчы і на чэмпіянаце сталіцы. А там — рэспубліка, саюз. Чэмпіёна, можа, і не зачэпяць".

Але чэмпіёнам я не стаў, хоць і дайшоў да фіналу. Барацьба "за золата" ішла на роўных, а нічыіх у дзюдо не бывае, і па "хантэю" (меркаваннях суддзяў) перамогу аддалі майстру, а не першаразрадніку. "Калі б ты хоць кандыдатам быў", — суцяшаў мяне трэнер.

А ў дадатак, захапіўшыся чэмпіянатам, трэніруючыся па дзве гадзіны тры разы на дзень, я закінуў падрыхтоўку да экзаменаў у інстытут. Забыў нават тоесёе з таго, што, здавалася, было калісьці вывучана на памяць і з "абсалютным разуменнем".

Апамятаўся на самых экзаменах, ды ўжо было позна што-небудзь паправіць. Здаючы любімую фізіку, адчуў, што на пяць "не цягну" (трэба ж было яе, родную, хоць бы перагартаць перад экзаменам), павярнуўся і выйшаў з аўдыторыі.

— Рабі, што хочаш, — крычаў на мяне трэнер, даведаўшыся пра мой "пралёт", — але май на ўвазе: сёлета "без інстытута" я нават прызёра горада ад ваенкамата не адмажу. Скрозь недабор!

Праз два дні, абтэлефанаваўшы прыёмныя камісіі інстытутаў і скрозь пачуўшы: "На жаль, вы спазніліся, прыём дакументаў закончаны", кінуўся ў Маскву. Апошнія тры гады я даволі сур'ёзна займаўся астраноміяй, кнігі І.Шклоўскага, Ф.Зігеля, В.Цясевіча, Б.Воранцова-Вельямінава, Т.Агекяна сталі для мяне настольнымі. У галаве ўвесь час круцілася "Oh, Be A Fine Girl, Kiss Me!"[1] — жартоўная прымаўка, якая дапамагала запомніць паслядоўнасць спектраў зорак ад самых гарачых да вельмі халодных — O, B, A, F, G, K, M. Думалася, што схема: прыйшоў, убачыў, перамог — можа быць прыкладзена часам не толькі да Юлія Цэзара. Пакажу свае веды, прышпілю распрацаваную мною гіпотэзу "разбягання" сусвету і... якімнебудзь дворнікам у інстытут астрафізікі мяне возьмуць. А далей — пабачым.

Але ўсё аказалася куды прасцей:

— Веды па астраноміі ў вас — як у студэнта трэцяга курса, а прапіскі маскоўскай няма. Вымушаны засмуціць.

Ні з чым трэба было вяртацца дадому. Перад ад'ездам вырашыў прайсціся па Маскве. Не заўважыў, як дайшоў да Лужнікоў.

— Да пачатку балета "Зоркі на лёдзе" засталося пяць хвілін, — аб'явіў Мікалай Озераў. — Нагадваем: у спектаклі ўдзельнічаюць... — І ён назваў маю любімую на чэмпіянатах свету сямейную пару.

"Было — не было!" — На скрут галавы я рвануў у касу і праз некалькі хвілін з білетам у руках бег да трэцяга сектара...

Глядзеў на віртуознае катанне сваіх тэлевізійных куміраў, у апладысментных паўзах шалёна лупіў у далоні, але думалася пра іншае: пра тое, што не стаў чэмпіёнам, што не трапіў у студэнты, што не паспрыяў лёс уладкавацца нават дворнікам у інстытут астрафізікі. Адзінае, чаго ўдастоіўся, дык — засвяціцца ў КДБ. Не самая, скажам шчыра, удалая засветка. Хутчэй наадварот. Усяго семнаццаць гадоў, а наперадзе — тупік, глухі тунель без праменьчыка святла. Усё жыццё кату пад хвост. Вось такі нікчэмны вынік.

Няйначай гэтая панікласць была напісана на маім твары, бо тры дзяўчыны-суседкі зжаліліся, як яны сказалі, над правінцыялам і пачаставалі мяне марожаным. І зараз памятаю — шакаладным, з арэхамі, маім любімым, за дваццаць восем капеек, самым тады дарагім. Спачатку я адмаўляўся, але яны дружна, у адзін голас, заявілі:

— Бярыце, бярыце. Усё роўна прападзе — растане.

Аргумент быў з тых, што абяззбройваюць, і, пачырванеўшы і пралепятаўшы нешта накшталт: "Няёмка неяк" і "Дзякую", я працягнуў руку па маражанае.

— Няёмка спаць на столі, — сказала адна з дзяўчат, але, паглядзеўшы на мяне, збянтэжылася.

Я чамусьці яшчэ болей засаромеўся і тыцнуўся носам у марожанае, ад чаго суседкі дружна рассмяяліся. Мне нічога не заставалася, як падтрымаць іх.

Пасля стадыёна наша кампанія апынулася ў бліжэйшай кавярні, а потым хтосьці з дзяўчат прапанаваў паслухаць музыку. Мне здалося дзіўным, што такая прапанова зыходзіць ад прадстаўніцы жаночага полу, але, можа, я на самай справе правінцыял і адстаў ад жыцця? Мажліва, і сапраўды ў наш час не заўсёды толькі мужчынскі пол запрашае "на музыку"?

Узяўшы па дарозе шампанскае і кілаграм "Мішак на Поўначы", мы паехалі кудысьці ў раён Курскага вакзала. У кватэры ладную паліцу займала калекцыя фірмовых пласцінак. Першай на ззяючы залацістым "лэйблам" японскі прайгравальнік "Pioneer" дзяўчаты паставілі пласцінку паўзабароненага "Deep Purple". "...in Rock" (адзін з альбомаў групы) неўзабаве так нас завёў, што праслухоўванне перайшло ў дыскатэку, а танцы — у начную гулянку. Аднекуль узялося яшчэ шампанскае, пасля — віно...

Прачнуўшыся раніцай, я нейкі час баяўся паварушыцца. Чаму? Ды таму, што быў у ложку не адзін і не рашаўся паглядзець у твар дзяўчыны, што ляжала побач: раптам гэта будзе не тая, з якой я так весела ўчора вытанцоўваў.

Ціхенька апрануўшыся, асцярожна прычыніў за сабою дзверы, за якімі да ранку круцяць музыку, і што ёсць моцы кінуўся ўніз па лесвіцы. З дома, у якім былі тарцовыя дзверы, гэтак не ўцякаў. Адтуль, наадварот, я ішоў няспешна, не па ўзросце паважна. Цяпер жа, ад дома паблізу Курскага вакзала Масквы, проста ляцеў. Без аглядкі, як лермантаўскі Мцыры. На душы было моташна і неспакойна. Падганяў мяне мой нечакана ацвярэзелы розум. Нібы камандаваў, загадваў, крычаў:

— Бягом! Лета канчаецца, а ты яшчэ — нідзе! Ні-дзе-е! Ты ніхто і нідзе! Бягом! Вось табе і камсамолец, вось табе і спартсмен, вось табе і ўсявед-астраном! І КДБ, між іншым, тут зусім ні пры чым!...

●

Сяк-так наскробшы на самы танны — у агульным вагоне — білет да Мінска, я пайшоў патэлефанаваць цётцы Надзі, мамінай сястры, якая жыла ў Маскве. Не зрабіць гэтага я не мог. Не зразумелі б ні мама, ні цётка. Я павінен быў зайсці, не тое што патэлефанаваць. Але пасля фіяска ў астрафізічным інстытуце мне было зусім не да цёткі, а пасля прыгод з маскоўскімі меламанкамі — тым больш. І толькі цяпер, перад самым ад'ездам, я спахапіўся: трэба хоць растлумачыць, чаму не зайшоў.

Цётка Надзя была багатай і бяздзетнай і, пэўна, з гэтае прычыны апантана, да вар'яцтва любіла пляменнікаў і пляменніц. Пачуўшы мой голас, яна страшэнна абрадавалася і, як заўсёды, закамандавала:

— Неадкладна да мяне! Зараз жа! Возьмеш таксі і скажаш: "Гасцініца "Масква". Запомніў? Я распараджуся, каб цябе ўнізе чакалі. Усё зразумеў?

Я не любіў нічога браць у жыцці дарма і стараўся не рабіць гэтага ні пад якой маркай. У школе, каб атрымаць за ўрок "пяцёрку", старанна вывучваў увесь зададзены матэрыял. І не толькі зададзены, але і пазапраграмны, бо мне чамусьці абавязкова задавалі дадатковыя пытанні... Хоць сабе і гэтая паездка ў Маскву. У мамы папрасіць грошай я не мог — ведаў, няма ў яе. А болей — у каго? Значыць, трэба зарабіць. І тры ночы я разгружаў вагоны з посудам. І гэтак усё і заўсёды цераз сілу. Толькі вершы, бадай што, даваліся мне без напругі. Асабліва — пра дзяўчат. Такія, напрыклад:

***Две грудки, словно яблочки румянятся,***
***Горят, трепещут в поцелуях сладостных,***
***И каждая друг дружке лаской жалится:***
***Ох, почему же мир мгновений радостных***
***Нас опьяняет...***

Нешта было і далей, але што — забыўся. Даўно, яшчэ ў восьмым класе, пісалася. І пісалася, вядома ж, па-руску. Здавалася недарэчным пісаць пабеларуску ў цалкам абруселым Мінску...

Вершаў у мяне сабралася багата — два тоўстыя сшыткі. Падумваў паказаць іх якому-небудзь дасведчанаму чалавеку. Такога чалавека не знаходзілася. Затое кінуўся ў вочы "Алый парус" — літаратурная старонка "Комсомолки". Вырашыў: вось дапішу паэму і пашлю туды. Пара выходзіць у людзі. Але ўсе мае "прекрасные порывы" скончыліся тым, што аднойчы, у паэтычных мроях, я забыўся абодва сшыткі і няскончаную паэму ў тралейбусе. Выйшаў на прыпынку, а яны паехалі далей на заднім сядзенні. Апамятаўся позна. І хоць адшукаў той злашчасны тралейбус, і пагаварыў з вадзіцелем - усё марна: сшыткі зніклі. Тады я сказаў сабе: болей вершаў не пішу! Ніколі! І клятве той заставаўся верны цягам ці не дваццаці гадоў...

Для чаго я пра ўсё гэта? Ага — цётка Надзя і яе шчадралюбнасць. Ёй толькі заікніся — ашчаслівіць. Ну і няхай! Раскашэліцца — не адмоўлюся, так і быць. Усё ж родны чалавек. Ад чужога не ўзяў бы...

Але ўсё-такі душа мая была азмрочана, і пайшоў я шукаць, дакладней лавіць таксі зусім не ў радасным настроі.

●

Не паспела машына спыніцца ля ўвахода ў гасцініцу, як ад дзвярэй, узняўшы рукі, быццам хочучы абняць, кінуўся да мяне швейцар. Таксіст вылупіў вочы: хлапчуку швейцары "Масквы" дзверы адчыняюць! Ён нават забыўся сказаць дзяжурнае слова, якое амаль не залежыць ад атрыманай сумы: "Малавата..."

Праз хвіліну я быў у ліфце, а неўзабаве ўжо стаяў ля дзвярэй кабінета з таблічкаю "Дырэктар". На ўсялякі выпадак пастукаў.

— Праходзь, Санёк! — Цётка сама расчыніла дзверы. — Што ты выстукваеш? З азбукай Морзе на ўсякі выпадак трэніруешся? Ну, добра, добра, не чырваней, жартую ж. Прысядзь, пачакай хвіліначку. Падпішу пару паперчын і паедзем. Хачу цябе пабалаваць. А то, бачу, варта мне на пару гадоў страціць цябе з віду, як ад усіх маіх ранейшых намаганняў не застаецца і следу: твар — маркотны, вочы — сумныя, выгляд — стомлены. Усміхацца трэба, Санёк, усміхацца! Не здавацца лёсу! Не ісці ў яго на повадзе! Ты ў мяне разумненькі, не запешчаны. У цябе ўсё будзе добра. Цудоўна! На біс! Вось пабачыш. Я ўжо ўсё вырашыла. Падумала і рашыла: трэба Санька ў людзі выводзіць. Заўсміхаўся? Вось і добра. Хоць першыя зморшчынкі з твайго твару збеглі...

Абшытая знутры велюрам цётчына "Волга" нечым нагадвала спальню нянашага фільма: напарфумаваны "французскі" салон і на заднім сядзенні ў напаўляжачай позе бездакорна вылізаная цырульнікам гаспадыня.

Гадзіны з тры мы матляліся па крамах і складах Масквы, а цётка ўсё не сунімалася. Нарэшце, калі я ўжо мала што цяміў, сказала вадзіцелю:

— Добра, Віця, едзем дадому. Бачыш, пляменнік з голаду памірае.

"Зноў намёк: правінцыял, саромеецца сказаць..." Вядома, паміраць я не паміраў, але — прамаўчаў. Няхай будзе так. Спрачацца з цёткаю — марна, яе дабрадзейную, амаль агрэсіўную любоў да сябе я адчуваў і раней, так што лепш змірыцца з усім і маўчаць, тым болей што і сапраўды пара было перакусіць.

Але цётка Надзя раптам загаварыла іншым тонам і пра іншае. Палічыла патрэбным расказаць, як яна збіраецца мяне "ў людзі" выводзіць:

— Такім чынам, дружа, слухай уважліва. Сёння мы вячэраем з вельмі сур'ёзнымі людзьмі. Яны прыедуць з дачкою. Гэтым людзям ты павінен спадабацца. Дачцэ — неабавязкова, але... пажадана. Ты ў нас хлопец відны, і знешнасцю, і розумам не абдзелены. Такія, як ты, на дарозе не валяюцца. Увогуле, усё павінна быць добра. Галава сям'і нядаўна прызначаны паслом у Швецыю. Маці таксама ў МЗС працуе. Ёсць там, у гэтых загніваючых капіталістаў, і мажлівасць вучыцца. Само сабой, на англійскай або шведскай. Ты, спадзяюся, не супраць такой перспектывы? Think, language for you, is not ... how to say in Englis...[2]

Я мала што зразумеў з цётчыных напаўнамёкаў, але не адклікнуцца на яе англійскую не мог:

— Do you mean obstacle?[3] — паспрабаваў падказаць не знойдзенае ёю слова.

У адказ цётка ўсміхнулася:

— Accent, certainly, purely Belorussian[4].

●

Да прыходу гасцей заставалася гадзіна, якую я сумленна адмакаў пад душам. Толькі хвілін за пяць да з'яўлення "шведаў" цётка спахапілася і выцягнула мяне з ваннай.

Сям'я дыпламатаў не расчаравала. Сапраўдны ўзор дасягнуўшай поспеху маскоўскай эліты. Высакародная, пародзістая постаць бацькі, прыгожая ўсмешка маці, сімпатычная бялявая — амаль шведка — дачка.

Пасля, за сталом, я звярнуў увагу на іхнюю апратку і асабліва на ювелірную аздобу маці і дачкі. Брыльянты на іх выпраменьвалі тысячы сонечных блікаў, якія, разбіваючыся аб крышталь бакалаў, раз-пораз сляпілі мяне. Я рос зусім у іншым свеце, і гэтая дэманстрацыя дабрабыту, дастатку, а прасцей кажучы, багацця ўражвала і бянтэжыла. У нейкі момант падумалася, што, можа, пасада пасла ў Швецыі для бацькі сямейства — паніжэнне: наўрад ці ўсё гэта мог зарабіць звычайны, няхай нават немалога рангу чыноўнік.

Напачатку я адчуваў сябе не ў сваёй талерцы, саромеўся, сядзеў за сталом, як прывязаны. Але паступова скаванасць пакідала мяне.

Цётка і жонка будучага пасла, не змаўкаючы, наперабой расказвалі адна адной апошнія свецкія навіны, розныя, часцей смешныя, гісторыі з жыцця "світы" і маскоўскага бамонду. Весела, нават азартна смяяліся самі і весялілі ўсіх нас. Непрыкметна я адтаў і смяяўся ці не гучней за ўсіх. І гэтым, як аказалася, нечакана парадаваў бацьку сямейства. Ён раптам сказаў, маючы на ўвазе несумненна мяне:

— Наіўнасць і сентыментальнасць — ускосныя сведчанні чыстасардэчнасці.

Час ляцеў непрыкметна. Была ўжо, можна сказаць, ноч, калі цётка папрасіла мяне спусціцца ў падвал па кампот. Я здзівіўся: па які яшчэ кампот? Каму ён зараз патрэбен? Але цётка амаль падштурхнула мяне да выхаду:

— Не ляніся, ідзі. Не забыўся, дзе святло ўключаецца? Маладзец! Прынясі вішнёвага.

Адсутнічаў я хвілін пяць, можа, крыху болей. А калі вярнуўся з трохлітровым слоікам любімага цётчынага вішнёвага кампоту, адразу ж пачуў свой прыгавор.

— Малады чалавек, — голасам вопытнага педагога пачала цётчына сяброўка. — Мы тут без вас, даруйце, параіліся і... Чалавек вы разумны, спартыўны і галоўнае не-раз-ду-ра-ны, — сказала яна, расцягваючы апошняе слова па складах. — Ёсць такая прапанова... Дарэчы, — яна ўсміхнулася і падміргнула ці то мне, ці то цётцы, — Насці вы спадабаліся. Яна ў нас таксама і добрая, і разумная. Акурат вам у пару. — Дачка зачырванелася і апусціла галаву. Маці ж працягвала: — Дык вось, ёсць прапанова трымацца вам з Насцяю разам. А дзе будзеце жыць, я думаю, Надзея Паўлаўна вам ужо сказала... Не-не, адразу можаце не гаварыць. Падумайце. Але часу на абдумванне ў вас мала. Хоць — чаму мала? Цэлыя суткі. На жаль, болей мы чакаць не можам. Насцечка ў Стакгольм усё роўна адна не паедзе...

Я быў аглушаны. Быццам абухом па галаве! Без мяне мяне ажанілі?! Ну, цётка! Вось гэта сюрпрыз! Куды там стадыённым аматаркам музыкі! І суткі на роздум! Сапраўды, прыгавор! Прытым без абжалавання...

Не паспеў я не тое каб нешта сказаць, але і ўцяміць, як бацька сямейства ўстаў з-за стала:

— Добрыя ўсё-такі беларусы людзі, не нашы маскоўскія — не раздураныя... — І дадаў: — Ну, Надзя, час нам і меру ведаць.

●

Усё ўва мне кіпела. "Не, пачакайце! Гэтая прапанова — пятля! Вядома, добра было б вучыцца ў Швецыі, але ж — не такою цаной. Лезці ў кабалу, хадзіць на павадку? Чуць: мы тут без вас параіліся і вырашылі... Яны, ці бачыце, вырашылі! Ніхто ніколі за мяне нічога рашаць не будзе!"

Цётка, правёўшы гасцей, вярнулася з пачакальні ў залу і адразу заўважыла мой натапыраны позірк. Усё ж спытала:

— Ну, і што ты надумаў?

— Я? Нічога! Гэта вы надумалі! — адказаў я без ценю іроніі.

Але цётку так лёгка не падманеш.

— Дзіўныя вы, беларусы, людзі. Жывяце, як жабракі-гаротнікі, мучаецеся, а надараецца магчымасць разбагацець, выйсці ў людзі - вы на дыбы: "Не, гэта не па мне..." Увогуле, Санёк, я зразумела: для шлюбу па разліку ты пакуль не саспеў. Шкада! Цяпер — не саспеў, а іншага шанцу можа і не быць...

Я маўчаў.

— Я разумею, — пачала супакойваць мяне цётка. — Свабода — перш за ўсё! І ўсё-такі, дарагі пляменнічак, чэснае слова — шкада, што не хочаш ты быць багаценькім Бурацінам. Ну ды Бог з табою! Давай спаць! Пераначуем - болей пачуем, можа, і сапраўды...

*(Працяг на стар. 14—15)*





забыцца пра Трышчана, бо кахала яго пасапраўднаму, а не пад уздзеяннем чароўнага пітва. Трагедыя Ізоты — гэта трагедыя ідэальнага кахання побач з блазенскім каханнем Трышчана, каханнем-сяброўствам Брагіні і каханнем-нянавісцю караля Марка. Сваёй смерцю ў фінале п'есы Ізота сцвярджае свае права на ідэальнае каханне і... на трагедыю ў камедыйных абставінах.

**— Ці лічыце вы лёс п'есы "Трышчан, або Блазны на пахаванні" шчаслівым?**

— Так, але не таму, што п'есу паставілі ў чатырох тэатрах. У гэтым сэнсе ў "Хохліка", "Драўлянага рыцара", "Браткі Асла" больш шчаслівы лёс. "Трышчан..." пашанцавала на добрых рэжысёраў, якія прапанавалі адметныя інтэрпрэтацыі п'есы, стварылі запамінальныя спектаклі. У часы тэатральнага буму ў краіне банальна гаварыць пра тое, што гэтыя спектаклі палюбіліся гледачам. Але я рады, што беларускамоўны "Трышчан..." не згубіўся ў рускамоўным рэпертуары Магілёўскага і Брэсцкага тэатраў, знайшоў свае месца сярод класічных пастановак у Купалаўскім тэатры. Спадзяюся, што дзякуючы гэтым спектаклям, мноства людзей даведалася пра існаванне ў старажытнабеларускай літаратуры ўласнай версіі сусветнавядомай легенды пра Трыстана ды Ізольду.

**З Сяргеем Кавалёвым гутарыла Ларыса ГУЛЯКЕВІЧ**

*На здымках: Ізольда — К. Яворская (Купалаўскі тэатр); Марка — У. Пятровіч (Магілёўскі абласны драмтэатр).*

*Фота М. ПРУПАСА і А. ЛІЦІНА*

ГАСТРОЛІ

# "Чалавек Рассеяны" як сімвал нашага часу

"Вместо шапки на ходу // Он надел сковороду", — гэта пра яго. Самуіл Маршак прыдумаў цалкам дзіўны вобраз: недарэчнага, зусім бяскрыўднага, трагікамічна безабароннага чалавека, які купляе білет на цягнік і сядае ў адчэплены вагон.

Екацерынбургскі тэатр юнага гледача і драматург Наталля Скараход прыдумалі працяг недарэчнай гісторыі. Праз шкло адчэпленага вагона наш Чалавек Рассеяны бачыць як... "Дама сдавала в багаж // Диван, // Чемодан, // Саквояж, // Картину, // Корзину, // Картонку // И маленькую собачонку". Незвычайна кантамінацыйны твор, які наскрозь "прасякнуты" Маршаком (складзены з яго вершаў) і, разам з тым, мае даволі далёкае дачыненне непасрэдна да творчасці паэта, екацерынбуржцы прывезлі да нас, у Мінск, і паказалі на сцэне Тэатра юнага гледача падчас нядаўніх гастроляў.

Чалавек Рассеяны (арт. Віталь Краеў) жыве ў шэрай ленінградскай камуналцы. Вакол яго туды-сюды ходзяць шматлікія суседзі — такія ж як ён "рассеяныя людзі" ў скураных пальчатках на нагах, світэрах замест штаноў і гамашах на плячах і шыях. Яны ладзяць адно аднаму ўсялякія паскудствы, б'юцца за месца ў чарзе да туалета, па-свойму лашчацца да мясцовай славутасці — свайго суседа-паэта: то дохлага пацука яму падкінуць, то жывога вожыка пад коўдру сунуць... На першы погляд, тыповы прыклад сучаснага "чорнага гумару": погляд на рэчаіснасць скрозь растрэсканыя чорныя акуляры.

Але ў адзін цудоўны момант галоўны прадмет дэкарацыі — паўтараспальны халасцяцкі ложак ператвараецца ў шыкоўную пасцель "пяцізорачнага" гатэля (мастак спектакля — Анатоль Шубін). Сюды Чалавек Рассеяны імкнецца сваёй фантазіяй, седзячы ля вакна адчэпленага вагона, бо на ленінградскім пероне з'яўляецца Яна — Адэль Пятроўна Хітрава (арт. Святлана Замараева), жанчына ў белым, мара і муза паэта. Рамантычнае пачуццё залятае ў яго сэрца. Чалавек Рассеяны змяняецца. Перад намі ўжо не тужлівы камунальны мурзацік, а ўзнёслая натура ў белай вопратцы — наведвальнік шыкоўнага гатэля. Дарэчы, аб чым яшчэ мог марыць гэты, паўгалодны, паўапрануты чалавек? Вядома ж, аб больш зайздросным для сябе стане.

Куды ж знікла рассеянасць нашага героя? Растварылася ў каханні. Актрыса Святлана Замараева з ювелірнай дакладнасцю расстаўляе сэнсавыя акцэнты, умудраючыся ў поўнай меры даносіць да гледача як рэшткі "філасофіі дзяцінства" Маршака, так і складаныя пабудовы думак аўтара спектакля (рэжысёр — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расіі Анатоль Праўдзін). Бадай, ніводнага слова яна не скажа ў банальным, ілюстрацыйным сэнсе (чаго нельга сказаць пра некаторых іншых акцёраў). Сцэну, калі замест "маленькой собачонки" жанчыне прапануюць павадок ад "собаки не той породы", актрыса ператварае ў "маленькую трагедыю". Кволая, слабая жанчына даверыла, можа, адзіную радасць свайго жыцця — маленькага мопса — працаўнікам вакзала, моцным мужчынам, а яны па сваёй рассеянасці зрабілі падмену...

Але ж вернемся да нашага героя. Рамантычны палет яго фантазіі цягнуўся нядоўга. Пасля таго як Чалавек Рассеяны пагутарыў са сваёй Музай у раскошным гатэлі, паплаваў на цеплаходзе, пакружыўся ў віры вальса, ён... махае рукой на развітанне, бо яе цягнік ужо крануўся. А адчэплены вагон так і застаўся стаяць ля платформы, дзе можна пачуць толькі адно: "Это город Ленинград". Паэту не застаецца нічога іншага як вярнуцца ў родную шэрую камуналку, зняць лакіраваныя туфлі і замест іх зноў нацягнуць на пальцы ног... пальчаткі.

Узнёслы чалавек зноў становіцца Чалавекам Рассеяным. "В рукава просунул руки — // Оказалось, это брюки... // Надевать он стал пальто — // Говорят ему: не то".

"Во что бы то ни стало // Мне надо выходить. // Нельзя ли у трамвала // Вокзай остановить?" Хочацца вырвацца з гэтай блытаніны, бязглуздзіцы, адрачыся ад чаргі да туалета і дохлага пацука ля ложка! Але рассеянасць закладзена нават... у пабудову п'есы. Ва ўмовах складанай кантамінацыі акцёры вымушаны вымаўляць словы ілюстрацыйна, дэкламуючы, з жаданнем апраўдацца перад гледачом за складанае, незвычайнае чытанне дзіцячых вершаў. Канкрэтную звышзадачу выявіць у п'есе цяжка. Колькі ні з'ядноўвай "кавалачкі" Маршака, яны ўсё адно застаюцца самастойнымі, асобнымі яскравымі малюнкамі. І паміж імі цяжка правесці сувязь, нейкую скразную думку.

Як жа ў складаных умовах кантамінацыйнага твора дзейнічае рэжысёр? Спачатку ён паказвае гледачам шэры мяшчанскі быт. Потым асвятляе гэтую "шэрасць" ззяннем рамантычнай мары. У момант гэтага "выбуху святла" гледачы адчуваюць моцнае эмацыянальнае ўражанне: нешта накшталт катарсісу. Але прырода гэтага катарсісу не мае прамога дачынення да творчасці Маршака. Яна — эстэтычная. Супрацьпаставіць "чорнае" і "белае" можна было б і без слоў. Непрыгожы пацук ператвараецца ў бліскучы белы парасон Адэль Пятроўны Хітравы. І вершы дзіцячага паэта патрэбны тут як фон для гэтай хітрай "штукі".

А чым яшчэ сёння можна здзівіць гледачоў драматычнага тэатра? Штукарствам, атракцыёнамі, клоунскімі рэпрызамі. Вы спытаеце, а як жа... глыбіня пранікнення ў вобраз, мастацтва перажывання?.. Што на гэта адказаць? Драматычнае мастацтва ў драматычных тэатрах сёння — "белая варона" ў вобразе цудоўнай Дамы, недасягаемая мара для нас, Чалавекаў Рассеяных. Екацерынбуржцы паказалі нам не толькі гратэскавы вобраз сучаснага грамадства, але і вобраз драматычнага мастацтва, якое адарвалася ад сваіх каранёў і на масткі сцэны залятае толькі час ад часу як нейкае дзіва.

Можа быць, таму спектакль "Чалавек Рассеяны" Тэатра юнага гледача з Екацерынбурга лічыцца нашумелым. Увогуле ў ім кожны зможа прачытаць што заўгодна: ад філасофіі экзістэнцыялізму да заклікаў у "светлую будучыню". Нават не верыцца, што ўсё гэта ўзнікла з вершаў Самуіла Якаўлевіча Маршака, такіх простых і зразумелых кожнаму дзіцяці.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

на-баладнай манеры. Юнацкі вакал, безабаронны гук жалеек нагадалі мне музыку іншага віцебскага гурта — "Вруцэлета". Так і аказалася: "Зелень дарог" — гэта беларускамоўны аскепак. Таму першы дыплом лаўрэата фэсту з рук самога Васіля Раінчыка, думаю, дадасць музыкам упэўненасці ў правільнасці абранага шляху.

Завяршылі першы фестывальны дзень выступы гуртоў "Акруга вольнага мастацтва" і "Палац". У музыцы гэтых калектываў перапляліся і лёгкасць, і артыстызм, і павага да традыцый, і сучаснасць аранжыровак. "АВМ" і "Палац" — лідэры папулярнай плыні беларускага фолк-мадэрна.

### АКЦЭНТ ДРУГІ: АЛЬТЭРНАТЫВА СТЭРЭАТЫПАМ

Рэпертуарная афіша другога дня інтрыгавала, бо на сцэну тэатра павінны былі выйсці прадстаўнікі фолк-рока рознай ступені "цяжкасці": ад альтэрнатыўнага і хард-рока да цяжкога "металу"...

І вось першы гурт — "Postscriptum". Цалкам лагічна, бо дасягнутыя прафесійныя навыкі дазваляюць яму паказваць сваё выканаўчае майстэрства незалежна ад канцэртнай раскладкі. Меладычны фолк-рок, акцэнтаванае ансамблевае гучанне — добрая падрыхтоўка для тых аматараў фальклору, хто ніколі не слухаў апрацовак "цяжкой" "Песняроў". Але цяжкія фолк-рокавыя гурты існуюць, выдаюць свае альбомы, канцэртуюць, маюць сваіх шматлікіх прыхільнікаў. А значыць, і іх творчасць мае права на жыццё, ацэнку і абмеркаванне. І добра, што фэст "Таўкачыкі" стаў творчай лабараторыяй і для прадстаўнікоў экстрэмальных плыняў фолк-мадэрна...

Не ўсё пакуль атрымліваецца ў гурта "Long play". Музыкі не могуць канчаткова вызначыцца з мэтамі сваёй творчасці, з мовай, на якой ім лепш спяваць. Пакуль адзіная іх візітоўка — гранжавы хіт з рэпертуару групы "Troggs" з фальклорнымі рэмінісцэнцыямі на тэму песні "Цячэ вада ў ярок". Магчыма, англа-беларускі моўны ды музычны сінтэз і ёсць шлях гурта "Long play"?

Уразіў слухачоў досыць нечаканы, камерна-акустычны гурт "Плато", які арыентуецца, як самі вызначаюць музыкі, на этнічную музыку розных народаў. Але тэрмін "этна" ў адносінах да "Плато" найбольш ярка зайграў, калі музыкі выканалі беларускі калядны "Канон". Як зазначыў кіраўнік "Плато" Мацвей Сабураў, гэтую песню ён выконваў яшчэ за часамі сваёй працы ў фальклорным гурце "Гаманінка". Калі ўсё вяртаецца да сваіх каранёў, тады "Плато" абавязкова вернецца і да беларускай музыкі, песень, з якіх усё і пачалося...

Калі вакалістка гурта "Зніч" Наталля Валынец паведаміла, што ёй прыйдзецца "аддувацца" на сцэне і за адсутнага вакаліста Алеся Таболіча, то зала ўздыхнула ад расчаравання. Па засяроджаным твары Наталлі было бачна, што сёння яна ўзяла на сябе адказнасць лідэра і вырашыла спець так, каб не вельмі расчароўваць фанаў "Зніча". Музыкі выбралі тыя кампазіцыі, у якіх Н. Валынец магла спець і свае партыі, і партыі Таболіча. І Наталля з гэтым справілася, хоць і выглядала трохі разгубленай і статычнай. Калі прагучалі апошнія акорды вядомай народнай песні "Вол бушуе" зала, пасля кароткай адаптацыі да цішыні, вітала мужную і таленавітую дзяўчыну, якая давяла слухачам: "Зніч" — фолкавая рэальнасць беларускага музычнага экстрыму.

Але ўсё ж адкрыццём другога дня фэсту стаў гомельскі гурт "Бан Жвірба". Маладая і раскутая энергетыка яго ўдзельнікаў проста захапіла залу і ўсіх прыхільнікаў альтэрнатыўнай экстрэмальнай плыні фолк-мадэрна. Музычныя крытыкі адразу заўважылі неверагодны выканаўчы прагрэс гамяльчан, асабліва гітарыста Дзмітрыя Лазарэнкі і басіста Змітра Гаўрыліна. Добрымі памочнікамі ім сталі на фэсце вакалістка Крысціна Прыходзька і бубнач Руслан Таргонскі. Відавочна, што музыкі "Бан Жвірба" паспяхова дрэйфуюць ад традыцыйнага хард-рока да гарманічнага сінтэзу беларускага меласу. Маладзёвы запал, ні на што не падобны сцэнічны вобраз зрабілі сваю справу: слухачы найбольш жвава набывалі касеты менавіта гурта "Бан Жвірба".

### АКЦЭНТ ТРЭЦІ: ЖЫВЫЯ КЛАСІКІ

Шчыра кажучы, творы жывой легенды нацыянальнай фолк-плыні "Этно-трыо Троіца" чуў толькі ў запісе. А тут, на "Таўкачыках" даваўся засяродзіцца на цэльнай канцэртнай праграме гурта, які больш гастралюе за межамі Беларусі. Упэўнены, што не буду адзінокім у сваёй адзнацы, калі скажу, што "Троіца" проста зачаравала слухачоў гарманічнасцю, гукавой феерыяй, прадуманасцю праграмы. Зорка і творчы рухавік гурта Іван Кірчук валодае рэдкім артыстычным дарам і магнетызмам, які дапамагае аваладаць увагай слухачоў з першай і да апошняй ноты. І, у той жа час, музыка гурта застаецца блізкай і аматарам рока, і прыхільнікам блюза і джаза... Авацыі, воклічы "Брава!", цёплыя словы ўдзячнасці ад імя арганізатараў былі малой часткай слухацкай удзячнасці спадарам І. Кірчуку, Ю. Дзмітрыеву і Ю. Паўлоўскаму за іх цудоўныя творы: "Добра таму, што вячорак не знае", "Купалінка", "Галя", "Яблыня мая"...

Завяршаў фестывальны марафон гурт-арганізатар фэсту — "UR'IA". З першых жа нот песні "Два брацікі" з альбома "Весначуха" сябрына Юры Выдронка акунула слухачоў з камерна-акустычнай у фолк-рокавую стыхію. Ужо ў "Калядцы", дзякуючы дудам В. Кульпіна, гурт гучаў як сапраўдны сімфа-рокавы састаў. А ў кампазіцыі "Агу, вясна!", "Зелен дубочак" знаўцы адзначалі элементы цяжкага рока і псіхадэліі. Песня "Конік" нагадвала пра магчымасці гарлавога спеву, якімі валодае Ю. Выдронак. І нават узнікшая непрадбачаная паўза, калі абарвалася струна Юравай гітары, не падалася сумам — сітар Юры Задзірана ўсё зачароўваў і прымушаў забывацца тое, што фэст на фінішы.

У поўную сілу раскрыліся выканаўчыя магчымасці дзяўчат-вакалістак "UR'IA" — Аксаны Анушкінай, Вікторыі Мікулінскай і Ганны Харэўскай, а таксама басісткі Людмілы Крукоўскай. Фестываль завяршыўся юр'еўскімі "Таўкачыкамі" і жаданнем абавязкова трапіць на афіцыйную прэзентацыю дыска "Весначуха", якую "UR'IA" плануе правесці ў снежні, у канцэртнай зале "Мінск".

Тры напружаныя дні І Рэспубліканскага фестывалю фолк-мадэрна паказаў, што беларускае адгалінаванне гэтай плыні ў хуткім часе мусіць ператварыцца ў непаўторную культурную з'яву еўрапейскага кшталту і будзе годна вызначацца новым нязвыклым словазлучэннем: **сучасны беларускі фальклор!**

Каб гэта абавязкова здарылася, трэба захаваць асноўныя здабыткі першага фестывалю — дэмакратычнасць выбару яго ўдзельнікаў, а таксама падвышаць яго аўтарытэт і прадстаўнічасць. Я да таго, што многія фолк-гурты не змаглі ў ім паўдзельнічаць ("KRIWI", "Без білета", "Impedance" і г. д.). Ды што асобныя гурты, калі цэлыя плыні сучаснай беларускай музыкі не змаглі прадставіць свае творы. Маю на ўвазе хрысціянскіх выканаўцаў, якія абапіраюцца на фальклор ("NEWCOSMOPOLIS"), альбо фальклорна-ваярскія ды рыцарскія (romance), гурты ("Камэлот", "Вялікае Княства", "Руевіт", "Стара Літва"...), фолк-рокавыя гурты Беласточчыны ("RIMA")... Творчых рэсурсаў для правядзення наступных "Таўкачыкаў" дастаткова. Абы не разгубіць імпэту арганізатарам!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Кампазітара ўразіў Чарнобыль...




Амерыканец Вэн Стайфел, які ў 1988 г. скончыў Йельскі каледж са званнем бакалаўра мастацтваў, а затым атрымаў адукацыю гітарыста і кампазітара, быў далёкі ад еўрапейскага жыцця і ад праблем Чарнобыля. Аднак восенню 98-га яму давялося праслухаць амаль 10-гадзінны магнітазапіс, зроблены ў асяроддзі "чарнобыльцаў" сябрамі кампазітара, фатографам ды пісьменнікам, якія здзейснілі вандроўку праз акіян з мэтай наведаць зону атамнай трагедыі.

Уражаны Вэн Стайфел напісаў незвычайны твор для струннага квартэта, электрагітары ды магнітафоннай стужкі, назву якога можна перакласці як "Змена адчуванняў (пасля Чарнобыля)".

У канву твора ўведзены фрагменты таго шматгадзіннага запісу. Скарыстаны канкрэтныя гукавыя вобразы: гаворка за гарбатай, аповед (па-ўкраінску) перасяленкі з пасёлка Прыпяць Ганны Казловай, рэплікі дзіцяці, атмасфера жылога пакоя з рознымі побытавымі шумамі, сігналы лічыльніка Гейгера, "голас" бязлюднага ландшафту, перастук вагонных колаў. "Шматкаватая", эклектычная паводле стылю музыка нібыта люструе драму ўсіх, каго ўжо без малога 15 гадоў звязвае чорная красавіцкая дата. Успаміны пра жыццё да аварыі; разгубленасць; крыўда; боль; пакорлівасць; абурэнне; роспач; надзея...

Так званы дэманстрацыйны CD з новым творам на тэму Чарнобыля трапіў у Мінск з Амерыкі дзякуючы кантактам музыкантаў. Цяжка сказаць, ці будзе магчымасць у дні 15-й гадавіны вялікай трагедыі нашага часу выкарыстаць запіс гэтай амерыканскай п'есы, напрыклад, у тэ[illegible]ычных праграмах эфіру. Але як бы там ні было, важны ўжо сам факт з'яўлення такога твора: нашы праблемы хвалююць не толькі нас...

С. Б.

## У краіне паэзіі

У актавай зале факультэта журналістыкі на лекцыі па тэорыі літаратуры, якую праводзіў прафесар В. Рагойша, адбылася сустрэча з прэс-сакратаром Міністэрства сельскай гаспадаркі, аграномам па адукацыі і паэтам па прызванні Змітраком Марозавым.

Госць запрасіў прысутных у краіну паэзіі. Натхнёныя радкі вершаў распавядалі пра родную прыроду, чалавечыя ўзаемаадносіны.

Кнігі З. Марозава вядомыя: "Акварэлі пачуцця", "Пра гарох і буракі, бульбу, жыта, агуркі...", "Гронкі зорных суквеццяў". Апошняя вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі.

Асабліва прыемна, што крыніцы натхнення паэт знаходзіць у жыцці. Змітрок Марозаў "увёў" у літаратуру такое паняцце, як "вянок вянкоў санетаў", які складаецца са 125 санетаў, звязаных паміж сабой. Піша Марозаў таксама трыялеты і белыя вершы. І хоць аўтар гаворыць: "Адзінота — стыхія паэта", — мне здаецца, што ў любы час застанецца вялікі круг чытачоў, якім неабыякавая паэзія.

Наталля ПАХАМОВІЧ

## "Маладосць", N 10

Паэзія прадстаўлена творамі А. Серады, А. Макрацова, Я. Кужоўнік, А. Пісарыка, В. Жуковіча, Г. Чарказяна (пер. Р. Барадуліна), П. Гарэцкага (пер. К. Камейшы), І. Буніна і А. Блока (пер. Я. Міклашэўскага). Змешчаны апавяданні Я. Кантылёва "Крок за цагляную сцяну", "Шэф спрые", А. Бабаеда "Васілёк", "Свячанка", "Ветраны дзень", аповесць В. Іпатавай "Вяшчун Гедзіміна". У раздзеле "Публіцыстыка" — матэрыял Я. Конева "Беларусь на водападзеле інфармацыйных патокаў", У. Гойтана "Паміж жыццём і смерцю", В. Ткачова "Журавічы помняць Макаёнка". І. Цішчанка ("Сумленне не дазваляе маўчаць") піша пра А. Петрашкевіча. М. Баравік ("Няхай даверліва гартаюцца старонкі") рэцэнзуе кнігу паэзіі І. Дарафейчук "Сцяблінка на лязе", што выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". В. Дударанка ("Знак, сімвал, талент") знаёміць з мастачкай Т. Сіплевіч.

ПАЭЗІЯ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



# Зоры, вецер, імгненні...

●

*Святло, запаленае ўдзень, —*
*яно ж нікому не відно.*
*Сплывае волі карабель,*
*мы ціха абжываем дно.*
*У кожнай ракавінцы свет,*
*у кожнай кропельцы — жыццё.*
*А што няма над намі зор —*
*падкажа толькі небыццё.*
*Нам позна выплываць наверх.*
*Паветра вольнае заб'е.*
*Святло, запаленае ўдзень,*
*Да вечара не дажыве.*

●

*Усё паўторыцца. Але не дія мяне.*
*Дажджом цыганскім шчасце праміне.*
*І золата дажджынак не збярэш.*
*Ні ў прыгаршчы,*
*ні ў свой тужлівы верш.*

●

*Ён ішоў па вадзе.*
*А нам здавалася — крануўся Сусвет.*
*Ён ішоў па вадзе,*
*і нам не верылася ў плыткасць вады.*
*На хвалях цёмных пагасаў Яго след,*
*нібыта човен патанаў залаты.*
*А дзе зліваецца з вадой небасхіл,*
*таненькім паскам*
*грэшны дзень дагараў.*
*Ахвяраў медныя чакалі багі,*
*мы справядлівага чакалі цара.*
*А Ён ішоў па вадзе,*
*і зрэбным быў Яго жабрацкі хітон.*
*І пагасалі сляды,*
*і расцякаўся час па цёмнай вадзе.*
*І аддаляўся, і глядзеў сумна Ён,*
*І плакаў, што ніхто за ім не ідзе.*

## Скокі смерці

1

*Раскрыліся ізноў зямлі глухія нетры.*
*І блазан, і кароль — у скокі*
*Смерці — кроч!*
*Шалёны карагод кругі кругамі мерыць.*
*І ўсмешкі ўсё шырэй, бяздонней*
*погляд воч.*
*І біскуп, і рабін, і вулічная дзеўка —*
*Не выдзерці з рукі скалелую руку —*
*Імчаць за кругам круг.*
*Сатлелыя павекі*
*Не скрыюць ад вачэй пустых —*
*апошні круг.*
*Нябачны барабан прыспешвае*
*кружэнне.*
*Кашчавы дырыжор з бліскучаю касой*
*Свой аглядае баль.*
*Ні жалю, ні ўзрушэння.*
*Такі вось насамрэч на могілках спакой.*

2

*І трэсне мармуровая пліта,*
*І бронзавы анёл стаіць без німбу...*
*Але ўсё тая ж звонкая вада*
*Цячэ з нябёс на земляныя глыбы.*
*Жывыя ладзяць могілкі сабе.*
*Нябожчыкам яны наўрад ці трэба.*
*І смоўж паўзе па бронзавым ілбе,*
*І хмара прапаўзае выспу неба.*
*Ад штучных кветак глебе не ўтравець.*
*Яна сваю маўкліва робіць справу.*
*Скранецца крыж, пахіліцца ледзь-ледзь —*
*А ўжо няма пад ім цялеснай стравы.*
*Прысядзе на жалезны прэнт груган,*
*Стамлёны ад бясконцае здабычы.*
*І мармурова-бронзавы спадман*
*Сатлелай плоці не надасць аблічча.*
*Усё, што мае памяць, — у зямлі,*
*А што ў зямлі — то сталася зямлёю.*
*І хмары, быццам душы, паплылі*
*Над будучай магілаю маёю.*

3

*Усе Там будзем.*
*Ну а, можа, Там*
*Для кожнага Сусвет пачнецца ўласны,*
*І ўсё, што тут любілі, здасца нам*
*Не вартым чарапкоў разбітай вазы.*
*Старонкі "Кнігі мёртвых" загарні —*
*Той шлях яшчэ ніхто не прадугледзеў.*
*Хітон манаскі раздзімае вецер*
*На целе завадатара вайны.*
*Ні па сузор'ях, ні па страшных снах*
*Не вылічыць сцяжынкі пазасветнай.*
*Ні пірамідаю, ні стодам медным*
*Душы зваротны не пазначыць шлях.*
*Дарэмна свечкі, быццам маякі,*
*На беразе Дзядоў мігцяць уночы —*
*Душа са сцежкі прывіднай не збочыць,*
*Пясок бяссіла ссыплецца з рукі*
*Таго, хто на сустрэчу спадзяецца.*
*Ды спіць змяя там, дзе палала сэрца.*

4

*Паламаныя крыжы.*
*Абамшэлыя глыжы.*
*Штучных кветак мёртвы шэпат.*
*Шэры мокры саван неба.*
*Гэта могілкі мае,*
*Дзе мне месца не стае.*
*Тут закон людскі, не Божы.*
*Месца купяць толькі грошы.*
*Праху прах стаўляе стод.*
*Невідочны душ палёт.*

5

*О мой кароль!*
*Хто спіць з табою побач,*
*Пад цяжкім слоем мокрага пяску?*
*Цяпер твая ўлюбёная Еўропа*
*Кавалачак — як выцягнуць руку.*
*Праз краты надмагільнай агароджы*
*Глядзіш ты, умураваны ў камень.*
*Там, у пяску, ты не такі прыгожы,*
*Дзе згусла не тваёй дзяржавы цень.*
*О мой кароль! У коле краявідаў,*
*Пакрэсленых крыжам, цяжка мне*
*Знайсці шкадобы да магільных плітаў*
*І да гардыні, што пад імі тхне.*

6

*Мармуровыя анёлкі*
*плачуць з бронзавых нябёсаў.*
*Слёзы іхнія, як шкельцы,*
*разбіваюцца аб дах*
*Цемнатварага касцёлу.*
*Ну а дожджык ходзіць босы,*
*І крывавыя пялёсткі*
*на яго гараць слядах.*
*На магілках жухне траўка,*
*агароджы іржавеюць.*
*А з анёлкаў мармуровых*
*ані перайка не ўзяць,*
*Каб з крывавай гэтай гнілі,*
*з гэтай восеньскай завеі*
*Да нябёснай цвердзі ўзняцца,*
*хоць на хвілю ачуняць.*
*Мармуровыя анёлкі, белавокія,*
*як рыбы,*
*Шлях ад могілак вартуюць*
*да сваіх цвярдых нябёс,*
*Каб няўрымслівыя душы*
*не імкнуліся да німбаў,*
*І навек замкнуўся ў кола*
*кожны, крыл не варты, лёс.*
*Я праходжу па сцяжынках,*
*пратаптаных ледзьве бачна,*
*Між пагоркаў і каменняў.*
*Шкло хрумсціць, ліецца дождж.*
*Мармуровыя анёлкі*
*над маёй радзімай плачуць.*
*І сляза шкляная рэжа*
*сэрца мне, нібыта нож.*

7

*Не сыплюць іскры зорнага агню,*
*І цені не з'яўляюцца з бясчасся.*
*Я нават іх ніколі не прысню,*
*Каб Гамлетавай запаліцца жарсцю.*
*Усё мінае, нават небыццё.*
*Цяперашніх імгненняў не бывае.*
*Яны мінаюць, зносячы жыццё,*
*Нібы лісцё, дзе вогнішча палае.*
*І па той бок ад попелу адно*
*Ёсць тло. А душы — з дымам адляцелі.*
*І сцежкі праз нябёсы не відно,*
*Куды дарэмна прагнуць нашы целы.*
*Самотная, над вогнішчам стаю.*
*Жыццё згарае. Дым імкнецца ў неба.*
*Але трымае плоць душу маю,*
*Як над агнём пруток — скарынку хлеба.*

●

*Дзень высыхае, як сляза.*
*У сне стамлёным патанаю.*
*Жыву на вастрыі ляза.*
*Дождж не праліўся на Данаю.*
*Не здарыцца нічога тут —*
*Ні добрага і ні благога.*
*І не паверыць сведкам суд,*
*І не памілуе нікога.*
*Нашто, дакуль цягнуць свой лёс*
*Па гэтай кальцавой дарозе?*
*Няма ні дзён, ні чыстых слёз,*
*І меч ржавее на парозе.*

## Апакаліпсіс

*Пакіньма размовы.*
*Планеты выстройваюць крыж.*
*Анёл пралятае,*
*няўважна губляючы пер'е.*
*І кожнага ноч ахінае — хто верыў,*
*не верыў.*
*Крыж ззяе на небе.*
*А ты — у пакоі — маўчыш.*
*Апошняя кропля прымусіла ўпасці пацір.*
*Далёкая хваля нахлыне калісьці*
*на горад.*
*А нехта цалуе, рабуе, разумна гаворыць,*
*І ў "Атласе свету" старонкі*
*працёрты да дзір.*
*Мы там не сустрэнемся,*
*дзе апынемся пасля.*
*І нашы анёлы знясуць*
*нас на розныя зоры.*
*І ў вокны вось-вось,*
*як магільшчык, пастукае мора.*
*Твар сонца закрыты.*
*Аслеплая гіне зямля.*
*Звер з хваляў выходзіць.*
*А мы ўсё маўчым і маўчым*
*У цёмнай кватэры,*
*у цёмнай хвіліне зацьмення.*
*Пакуль пераплавяцца ў цемру*
*адзіную цені,*
*Архангел чакае. І кроў у яго на мячы.*

●

*Партрэтаў цёмных ясныя аблічча*
*Мяне праводзяць у цудоўны свет,*
*Дзе я, нібы няўдалы паляўнічы,*
*Палюю на няздзейснены санет.*
*У шыбу стукне дождж халоднай лапай,*
*І абуджуся ад сваіх нябёс.*
*І цёмныя партрэты над канапай*
*Напапалам падзеляць сон і лёс.*
*Я ўсё блукаю ў тым бясконцым лесе,*
*Дзе Дант знайшоў сабе правадыра.*
*А цёмныя партрэты ў паднябессі*
*Мне пазначаюць шлях да алтара.*

●

*Халодны сум. Сціскаецца ланцуг*
*Начных агнёў вакол пустога храма.*
*Анёл мой спіць. А я не веру ў цуд,*
*А проста бачу прывід Чорнай Дамы.*
*Чаму б і не? Я — прывід, ці яна —*
*Абедзве ў гэтым свеце чужаніцы.*
*Дзе за вакном — не неба, а сцяна*
*Суседняй прымітыўнай камяніцы.*
*Струхлела плоць. Забыў мяне кароль.*
*А пан Твардоўскі, некрамант славуты,*
*Свянцоную вакол рассыпаў соль —*
*І не прайсці на вечныя пакуты.*
*У гэтым свеце, дзе камень і сталь,*
*Дзе гандляры і воі дзеляць поле,*
*Чароўнай Дамы рамантычны жаль*
*Мізэрны ў параўнанні з нашым болем.*
*Але яна і я — у ланцугу,*
*Адным — цераз вякі, цераз каханні.*
*Кароль прымае грэбліва руку,*
*Але найпышна зладзіць пахаванне.*

●

*Такі спакой — што лепей бы забілі.*
*Такое шчасце — хоць ты ім гандлюй.*
*Спіць замак мой у цішыні і пыле,*
*І цень не адкідае на зямлю.*
*Стары герольд, пясняр віна і дамы,*
*Не памятае ўжо апошні баль.*
*І фрэсак напаўсцёртых таюць плямы,*
*І не гуляе з промнямі крышталь.*
*Гляджу, гляджу праз вузкае вакенца —*
*Адзін і той абрыдлы краявід.*
*І толькі дождж аб мур упарта б'ецца*
*Патокамі празрыстае крыві.*
*Муры — навошта? Не ўтрымаць*
*ім душы.*
*А слова, слова гонару — скала.*
*І я спакой і вернасць не парушу,*
*Таму што слова гонару дала.*
*Ды будзе мне штоночы сніцца вершнік,*
*І зноў я прачынаюся ад слёз.*
*І кожны дзень з высокай ціхай вежы*
*Гляджу я на дарогу, як на лёс.*

●

*Што тут паэт?*
*У гэтым сквапным свеце*
*За тое плацяць, што нясуць у дом.*
*А вершы — гэта зоры, гэта вецер,*
*Імгненне, што застыла пад сцілом.*
*Што можам паказаць мы багацеям?*
*Не твар багіні — толькі лёгкі след.*
*Не напалохаюць герояў цені,*
*Якія ажыўляе кіфарэд.*
*Таму паэт — жабрак і ёсць, і будзе*
*Хаця ўладарыць Апалон над ім.*
*Але, калі загіне горды Рым,*
*Па нашых вершах Рым спазнаюць людзі.*

# ШЛЯХІ І ВЯРТАННІ

## З КНІГІ ЭСЭ

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

### Паміж цэнтрам і ўскраінай

Дзіўныя ўсё-такі ў жыцці бываюць рэчы: зараз жыву ў цэнтры сталіцы, а вось у цэнтры роднага Полацка жыць так і не давялося, хаця пратопаў па вулках радзімага месца ад самага нараджэння больш за трыццаць гадоў, ды і потым, калі атрымаў кватэру ў суседнім Наваполацку, па-ранейшаму лічыў сябе полацкім жыхаром, бо там жыў бацька, да якога гарадскім маршрутам ад маёй наваполацкай хаты ехаць трэба было хвілін дваццаць.

У цэнтры Полацка жылі людзі вышэйшага саслоўя — вайскоўцы-афіцэры, розныя начальнікі, дактары і настаўнікі. Быў там і вялікі яўрэйскі квартал, які насялялі гадзіннікавыя майстры, фатографы і музыканты, і, вядома, цырульнікі.

Нават на нашай ускраіне паміж "караедняй" і цагельняй, дзе яўрэі амаль не сяліліся, у цырульні працавалі на пару дзядзька Фоля і цётка Хана, якія ведалі амаль кожнага наведвальніка па імёнах.

— Ш-ш-то Га-га-гальпяровіч, — заікаючыся гаварыў дзядзька Фоля. — Мамка ка-ка-роўку сёння даіла?

Мы ў сваім саўгасным пасёлку трымалі карову, я бегаў у школу з сынам конюха Васькам Белашэнкам і байструком вясёлай Шуркі Мішкам Багатыровым, і выглядаў у вачах разважлівага і іранічнага дзядзькі Фолі, пэўна нейкім дзіўным стварэннем: ні гарадскім, ні вясковым, з беларускімі словамі, якія яму нязвыкла было чуць ад чарнявага кучаравага хлопчыка, зусім не падобнага на тых, хто жыў на полацкай ускраіне.

Дарэчы, школы ў цэнтры Полацка былі рускімі і тады, калі яшчэ ў Полацку вадзілася пара-тройка беларускіх школ, і тыя, хто жыў на праспекце Карла Маркса ці на Камуністычнай, выразна пасмейваліся з нашых "дзеравенскіх" слоў.

Паход у цэнтр быў для майго бацькі цэлым рытуалам. Па-першае, мы ішлі ў лазню. Нейкім дзіўным чынам і па сённяшні дзень на яе будынку вялікімі літарамі выкладзены надпіс "Лазьня" — з мяккім знакам, па якім можна без памылкі вызначыць час яе пабудовы.

Я ў лазню хадзіць не любіў, бо ў чарзе трэба было правесці не менш, як дзве гадзіны. Здаецца, увесь Полацк па суботах збіраўся сюды, каб сустрэцца, пагаварыць, адхвастаць адзін аднаго духмяным венікам, а потым узяць па сто грамаў у буфеце, запіўшы півам і заеўшы чырвоным ракам. Гэта сёння рак — далікатэс, а тады ў буфеце каля лазні ракі не пераводзіліся.

На гэта ўсё ішло ў нас з бацькам гадзіны тры. Бывала, што і больш, гэта калі бацька, затраціўшы свае два рублі, якія мама давала яму на лазню, нарываўся на шчодры пачастунак былога аднакласніка ці хаўрусніка па даваеннай печнікоўскай прафесіі. Тады ста грамамі ўжо не абыходзілася і я, памятаючы наказ мамы, цягнуў бацьку за рукаў і скуголіў, бо ён пачынаў ужо курыць беламорыну адна за адной, махаць сваёй адзінай здаровай рукой, якой ён мог і ўрэзаць па фізіяноміі, таму, з кім уступаў у гарачую спрэчку.

Але гэта здаралася не заўсёды, і часцей за ўсё, пасля "балявання" мы ішлі на базар. Базар тады ў Полацку быў у самым цэнтры горада. Тут прадавалі мяса і свежую рыбу, гародніну і бульбу, рамантавалі боты і гадзіннікі, мянялі рэчы. На базары бацька таксама сустракаў знаёмых, яны курылі і гаварылі, а я стаяў, трымаючыся за бацькаву руку, і цікаваў за мажнымі цёткамі са скуранымі фартухамі, якія прапахлі рыбай, чырванашчокімі мяснікамі, якія на акрываўленых драўляных калодках разбіралі вялікія тушы.

Тут жа, на базары, была швейная майстэрня, куды бацька прывёў мяне аднойчы да старога закройшчыка, які пашыў мне з яго старога шыняля выдатнае ладнае паліто, якім я так ганарыўся перад тымі ж Васькам і Мішкам.

Потым, ужо надвячоркам, бацька заходзіў да сваёй старэнькай маці, сівой бабулі, якая карміла мяне фаршыраванай рыбай і смачнымі піражкамі.

А яшчэ ў цэнтры горада, на цэнтральнай плошчы, стаяў увесь пашчэрблены ад бамбёжак магутны гмах з вежамі. Гэта быў кадэцкі корпус, дакладней яго цэнтральная частка — сабор, пад якім, як казалі, былі падземныя хады.

А яшчэ ў цэнтры была бібліятэка — маленькі двухпавярховы дамок са скульптурай Льва Талстога ў двары. Гэта цяпер палачане ведаюць, што гэта дамок, пабудаваны спецыяльна для Пятра I, які бываў у Полацку, а тады я ведаў толькі, што гэта бібліятэка, куды мне вельмі хацелася запісацца.

І я аднойчы насмеліўся. З Васькам і Мішам мы селі на аўтобус ад прыпынку "лясны тэхнікум" (гэта і была славутая "караедня") і даехалі да плошчы. А там спусціліся да Дзвіны, і я праз масіўныя, аздобленыя драўлянымі фігуркамі дзверы зайшоў у таемнае і вабнае царства кніжак.

Спачатку са мной гутарыла сухенькая, у акулярах, бабуля-бібліятэкар. А потым прыйшла прыгожая і злая маладая загадчыца і сказала:

— Табе рана яшчэ ў бібліятэку запісвацца. Ты, відаць, і чытаць яшчэ не ўмееш.

І хоць мне было сапраўды сем гадоў, і яшчэ не паспеў пайсці ў першы клас, я страшэнна пакрыўдзіўся.

— Як не ўмею? Дайце любую кнігу, прачытаю.

Ад маёй нечаканай нават для самога сябе, смеласці Васька з Мішкам шухнулі за дзверы, а я стаяў, бясстрашны і злы, як Давід перад Галіяфам (пра іх, я, вядома, даведаўся значна пазней).

Я перамог, даказаўшы сваё ўменне гучнай выразнай чыткай, і стаў чытачом бібліятэкі, куды адхадзіў шмат шчаслівых год.

Дык пра што гэта я? Пра шыкоўны і бліскучы полацкі цэнтр, дзе гарадскія хлопцы маглі адабраць у нас апошнюю капейку, дзе каля чыгуначнага вакзала і "Блакітнага Дуная" часта ўзгараліся гарачыя бойкі, калі з каламі наперарэз, ішлі сцяна на сцяну гарадскія і ўскраінныя — грамоўскія, задзвінскія, себежскія...

У нас была Палата і Запалоцце, дзе мы ныралі ў жоўтую ваду і пераплывалі хуткую рэчачку, шырынёй пяць-шэсць метраў, а ў цэнтры горада была Дзвіна, пераплыць якую нам было ўжо не пад сілу — шырокая і павольная, з высокай выспай, на якой высіўся Сафійскі сабор.

Я памятаю магазіны, поўныя дарагіх заляжалых прадуктаў, бо каўбасу, ікру ці марскую рыбу купіць ніхто ў нашым пасёлку не мог, як, дарэчы, і ўвесь наш раён, які жыў на бульбе і бураках, яшчэ на сале і малаку, бо кожны з ускраінных трымаў парсючка і кароўку.

З бібліятэкі я заўсёды ішоў пешшу. Ад плошчы — уніз, па брукаванай вуліцы, паўз вал Івана Грознага, які заставаўся леваруч, на Чырвоны мост, міма педвучылішча, па чыгуначнам пераездзе, а там — налева, па лініі (так у нас называлі чыгуначнае палатно) і не даходзячы да тупіка — направа, праз бярозавы гаёк, — у наш "Пітомнік", пасёлак прыгараднага саўгаса, дзе працавала маці ў канторы. Я вяртаўся ад бруку, людзей і машын на пыльную вясковую вулку, дзе корпаліся куры ў пяску, дзе скідвалі смецце проста на дарогу, дзе за нашай хатай прасціралася шырокае поле...

Я вяртаўся да асалоды чытання ў прахалодным палісадніку, да вечаровага рыку кароў, да сілуэта Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы, якая ў добрае надвор'е была, як свечачка, што свеціцца ў сінім вечаровым паўзмроку.

Гэта быў мой выток, мой Полацк, пра які я магу сказаць толькі тое, што хачу гаварыць і гаварыць пра яго, бо іншага ў жыцці ў мяне было столькі мала, што Полацк і сёння са мной у маёй мінскай кватэры, у маім рабочым кабінеце, у вачах маіх сына і дачкі, ва ўспамінах пра бацьку і маці, далёкіх сябро ў дзяцінства...

Там — усе мае сюжэты, і ўсе мае радкі. Полацк я заўсёды сніў і ў душнай ташкенцкай ночы, і ў сібірскай гасцініцы, і на балгарскім чарнаморскім пабярэжжы, і яшчэ ў многіх гарадах, куды заносіў мяне лёс.

А вось пажыць у цэнтры роднага горада так і не давялося. Цяпер пра гэта ўжо амаль не шкадую.

### "Выйшаў сейбіт на нівы свае"

Сёння ён усё больш становіцца легендай. І для многіх маіх маладзейшых сучаснікаў само прозвішча Караткевіч — ужо сімвал.

А ў часы майго юнацтва гэтае імя мала хто ведаў. Ды і пра каго мы маглі ведаць, калі ў нашым выпускным класе нявызваленых ад беларускай мовы аказалася ўсяго пяць з трыццаці вучняў — тры дзяўчыны і два хлопцы, а прыйшоўшая на змену "беларусічкі" Алены Сцяпанаўны чарнявая нафуфыраная кабета Соф'я Аркадзьеўна стала весці ўрокі і зусім па-руску, дазволіўшы чытаць Мележа і Шамякіна ў перакладах.

І Караткевіча ўпершыню я прачытаў у маскоўскім часопісе "Молодая гвардия". Неяк у чытальнай зале цэнтральнай бібліятэкі, куды я хадзіў амаль кожны дзень, гартаючы свежыя нумары часопісаў, убачыў аповесць з незвычайнай назвай "Чазенія". Прабег вачамі першыя радкі, і... не змог адарвацца, пакуль не дачытаў да апошняга сказа "перевод с белорусского". Прыгоды беларуса ў далёкаўсходняй тайзе, рамантычнае і прыгожае каханне — я акунуўся ў невядомы дагэтуль мне караткевічаўскі свет апантана, як у вір. Я адчуў асалоду і высокае захапленне. Я быў здзіўлены тым, што нічога не ведаю пра гэтага беларускага пісьменніка, зусім не падобнага на ўсіх тых, калі чытаў раней.

— Караткевіч? — спытала бібліятэкарка. — Здаецца, у нас больш нічога няма. Пачакай, пашукаю па каталозе.

Так знайшоўся раман "Каласы пад сярпом тваім" у "Полымі". Я хадзіў у чытальную залу і чытаў яго па дзве гадзіны ў дзень.

І раптам у той жа самай цэнтральнай бібліятэцы я ўбачыў аб'яву пра сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі І. Клазам і У. Караткевічам.

Народу сабралася няшмат — пераважна люд пажылы, па выглядзе настаўнікі, некаторых, як мясцовых літаратараў Барыса Фрэйдкіна, Арсена Войтава я бачыў раней, калі яны выступалі ў нашай школе.

І Клаз, і Караткевіч гаварылі пра гісторыю. Я Клаза да гэтага нічога не чытаў, а на Караткевіча глядзеў з хваляваннем і цікаўнасцю. Высакаваты голас, крыху нечаканы для яго магутнай паставы, заварожваў не толькі незвычайнай меладычнасцю, а самім зместам таго, што гаварыў пісьменнік. Імёны князёў, якіх я чуў упершыню, гаворка пра не вядомае мне Вялікае Княства Літоўскае, Скарыну, Еўфрасінню... Я разумеў, што ў маім жыцці адкрываецца новая старонка, што ў ім з'яўляецца новы змест, такі жаданы і вабны.

Пасля заканчэння сустрэчы я нясмела падышоў да купкі людзей, якая акружала пісьменнікаў. Караткевіч якраз гаварыў пра мову. Гаварыў, відаць, адказваючы на пытанне. Не было ў яго словах, як памятаю, сённяшняй узнёслай патэтыкі. Спакойна і годна ён даводзіў незнаёмай мне дзяўчыне, відаць, маладой паэтцы, што жывучы ў Полацку, з яго гісторыяй, з яго традыцыямі не ведаць мову сваёй зямлі, свайго народа — дзікунства, поўная адсутнасць культуры.

Было відаць, што ён прывык да такіх размоў і такіх пытанняў. І мне захацелася сказаць што-небудзь па-беларуску, бо стала сорамна, што ніхто з пісьменнікамі па-беларуску не гаворыць.

У горле перасохла, голас раптам асекся, і я ледзь чутна вымавіў:

— Скажыце, а калі выйдзе кніжкай ваш раман "Класы пад сярпом тваім"?

Караткевіч уважліва паглядзеў на мяне. Было, відаць, што і пытанне, і як яно было зададзена, яму спадабалася.

— А вы дзе чыталі "Каласы", у "Полымі"? — запытаўся ён. — Вам спадабалася?

— Так, — пачырванеўшы сказаў я. Упершыню пасля дзяцінства я гаварыў па-беларуску не на ўроку, а ў жыцці. І з кім? З Караткевічам! Мне здавалася, што на мяне з пільнай цікавасцю глядзяць і мясцовыя літаратары, і маладая дзяўчына, што, як потым я даведаўся, была полацкая паэтка Вікторыя Чарнякова, і загадчыца чытальнай залы...

Караткевіч тады падараваў мне сваю тоненькую кніжачку вершаў "Матчына душа", якую і цяпер захоўваю як самую каштоўную рэліквію. А праз два гады, калі я працаваў ужо карэктарам у газеце "Сцяг камунізму" і быў актыўным удзельнікам літаратурнага аб'яднання "Наддзвінне", Караткевіч зноў прыехаў у Полацк. На гэты раз на скарынаўскае свята паэзіі. Разам з Рыгорам Барадуліным, Еўдакіяй Лось, Янам Скрыганам і Юрыем Лакербаем.

Мы з Іванам Стадольнікам, які тады кіраваў літаб'яднаннем, былі дапушчаны начальствам да сустрэчы гасцей з Мінска, у чым, па шчырасці сказаць, была цалкам заслуга Івана, бо раней на такія афіцыйныя прыёмы мясцовых пачаткоўцаў не бралі.

А тут мы хадзілі як роўныя са сталічнымі пісьменнікамі ўсюды, дзе і яны, праўда, за выключэннем вячэрняга банкету, куды нас усё ж не пусцілі.

Караткевіч быў відавочна стомлены, маўклівы, уступаў у гаворку не часта. Мяне ён, як падалося, не пазнаў, хаця ў адзін з момантаў зірнуў востра і пранікнёна, нібы нешта прыпамінаючы.

Ля Сафійкі супрацоўнік краязнаўчага музея, афіцэр-адстаўнік Аляксееў расказваў пра вызваленне Полацка ад палякаў Іванам Грозным. Караткевіч нерваваўся, хмурнеў, змрачнеў, а вострый на язык Барадулін, паказваючы ў бок сабора, дзелавіта запытаўся:

— Калі намечана ўзрываць?

Раздаўся здзеклівы рогат, бо ва ўсіх у свежай памяці было знішчэнне мясцовымі ўладамі славутай Мікалаеўскай царквы Кадэцкага корпуса ў самым цэнтры горада.

За Сафійкай на вісячым мастку праз Палату, госці фатаграфаваліся. Караткевіч паклікаў мяне:

— Станьце паміж намі! Будзе здымак — Навум і невядомыя.

На жаль, гэтага здымка ў мяне няма, як не бачыў я яго ў кнігах, альбомах, прысвечаных Караткевічу. Ды і ўвогуле, не прыпомню здымка Уладзіміра Сямёнавіча ў Полацку. У Полацку, які апеў ён цудоўнымі радкамі — "дзе Сафійка плыве над Дзвіною, нібы карабель".

Назаўтра госці ад'язджалі. Караткевіч быў памяты, заспаны. Затое Рыгор Іванавіч заставаўся ў гуморы. У "рафіку", які вёз нас у аэрапорт, спяваў, цалаваў рукі Валянціне Пятроўне — сакратару гаркома па ідэалогіі, якая сама выправілася праводзіць гасцей.

Аэрапорт у Полацку быў маленькі, правінцыйны. Лётная паласа на шырокім утравелым полі і чырвоная дашчаная будка касы — вось і ўсё, што звалася гэтым гучным словам. Тут жа, на полі, была складзеная ў штабелі цэгла, відаць, для нейкай будоўлі. Непрыкметна для Караткевіча Барадулін засунуў некалькі важкіх цаглін у яго партфель.

Нарэшце падалі на пасадку "кукурузнік". Усе рушылі да самалёта. Караткевіч здзіўлена паглядзеў на пацяжэлы раптам партфель і, здагадаўшыся, у чым справа, рушыў да самалёта, выкідваючы на хаду цагліны.

— Выйшаў сейбіт на нівы свае, — тут жа азваўся Барадулін.

Караткевіч, здаецца, не звярнуў на жарт ніякай увагі.

Ля трапа высветлілася, што ў яго няма білета.

— Дзе білет? Мы ж бралі на ўсіх! — захвалявалася Валянціна Пятроўна.

— Гэта несур'ёзна! — абурылася Еўдакія Лось. — Мне вашы жарты, хлопцы, ужо надакучылі. Хто схаваў білет?

Але білета не было. Мяне на "рафіку" адправілі ў гасцініцу. Я абшукаў увесь нумар, але нічога не знайшоў.

Калі вярнуўся назад, усе былі ўжо ў самалёце. Як удалося ўгаварыць суровую сцюардэсу, не ведаю. Але ў памяці захаваўся сонечны верасьнёўскі дзень, цыбатая постаць Караткевіча, чырвоныя цагліны, якія меланхалічнымі рухамі Уладзімір Сямёнавіч выкідваў з партфеля...

Апошні раз мы з нябожчыкам Мішам Барэйшам бачылі Караткевіча ў рэдакцыі часопіса "Маладосць" у былым будынку ЦК камсамола. Ён недзе атрымаў ганарар і прыйшоў раздаваць даўгі.

— Валодзя, дык чаму ты мне дваццаць пяць аддаеш? — пытаўся Дамашэвіч. — Ты ж браў дзесятку.

— А гэта, Максімавіч, у кошт наступнай пазыкі, — рагатаў Караткевіч.

Мы з Барэйшам стаялі ўжо ўнізе, на вуліцы, калі Караткевіч выйшаў з будынка. Церусіў мокры снег. Уладзімір Сямёнавіч наставіў каўнер і нетаропка пакрочыў праз сквер. Снег падаў на непакрытую галаву, сутулую спіну.

"Выйшаў сейбіт на нівы свае", — узгадаўся мне сонечны Полацк і маладая постаць пісьменніка. Так і крочыць ён у маёй памяці па зялёным полі аэрапорта, па вісячым мастку каля полацкай Сафіі, якая, як і тады, плыве над Дзвіною, нібы карабель...



## ЧАСАПІС

## Ззянне "Палескіх зор"



**Ужо 25 год існуе ансамбль песні і танца "Палескія зоры", што ў Пінску. Калектыў з'яўляецца лаўрэатам першага і другога Усесаюзных фестываляў народнай творчасці, дыпламантам Рэспубліканскага конкурсу-агляду народных і ўзорных аматарскіх калектываў.**

**"Палескія зоры" сваім мастацтвам нясуць свежае паветра і далучэнне да таямніц маляўнічай прыгажосці беларускага Палесся. Арганізатарам і мастацкім кіраўніком з'яўляецца Міхась Цурканаў. Ганаровае званне народны самадзейны калектыў "Палескія зоры" атрымаў яшчэ ў 1977 годзе. Удзельнікі калектыву: будаўнікі, сяляне, служачыя, навучэнцы, студэнты — творчыя людзі Палесся.**

**Рэпертуар ансамбля заснаваны на мясцовым фальклорным матэрыяле. У праграму ўключаны песні і танцы народаў іншых краін. Ансамбль аб'ездзіў амаль увесь свет: Польшча, Нямеччына, Чэхія, Фінляндыя, Італія, Францыя, Галандыя, Украіна і інш.**

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ**

## Повязь братніх моў




**Нягледзячы на змяншэнне сферы ўжывання беларускай мовы на Беларусі, па-за яе межамі працягвае расці да яе цікавасць. Добрым прыкладам тут можа служыць Украіна, дзе курс беларускай мовы заняў сталае месца ў вучэбных праграмах многіх ВНУ, асабліва тых, што знаходзяцца на ўкраінска-беларускім памежжы. Выкладаць нашу мову туды запрашаюцца выкладчыкі з Беларусі. Плёнам такога творчага супрацоўніцтва стаў выдадзены пры Львоўскім нацыянальным універсітэце імя Івана Франко навучальны дапаможнік для студэнтаў філалагічнага факультэта "Украïнсько-бiлоруський розмовник", які склалі З. Тэрлак і З. Заіка.**

**У дапаможніку матэрыял размеркаваны больш як па 50-ці тэматычных групах. Карыстаючыся гэтым выданнем, украінец без асаблівых цяжкасцяў здолее размаўляць па-беларуску ў магазіне і рэстаране, на стадыёне і ў тэатры... Апроч гэтага, паважны памер кнігі (больш за 200 старонак) і шырокі абсяг лексічнага багацця, прадстаўлены ў ёй, дазволіць яе ўкраінскаму карыстальніку падтрымліваць гутарку з носьбітам беларускай мовы на самыя разнастайныя тэмы. Вельмі істотна, што ў дапаможніку падаюцца правілы арфаэпіі, слова- і формазмянення.**

**Але і гэта яшчэ не ўсё. У дадатку пададзены найбольш характэрныя беларускія фразеалагізмы, прыказкі і прымаўкі. І сапраўдным упрыгожваннем выдання з'яўляюцца нізкі дбайна выбраных беларускіх вершаў і песень.**

**Гэтая кніга стала яшчэ адным сведчаннем сапраўды братэрскай павагі сяброў-украінцаў да нас, да нашага слова. На жаль, падобнага выдання, з дапамогай якога беларус мог бы ўпэўнена пачувацца на Украіне, у нас яшчэ няма.**

**Генадзь ПРЫБЫТКА**

# 1975-ы

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9)*

Уставала цётка рана, хоць на работу выбіралася недзе а дванаццатай. Ранішні час яна звычайна аддавала цырульні. Той жа ранак быў аддадзены мне. Бяздонная новая заморская сумка набівалася шматлікімі падарункамі: джынсы легендарнай фірмы "Lee", венгерскія катонавыя байкі, тоўсты, але лёгкі ірландскі світэр, фінская скураная куртка вішнёвага колеру, процьма больш дробных рэчаў і прадметаў, дзесятак кніг фантастыкі і дэтэктываў. "Адзін дзень Івана Дзянісавіча" я ўжо сам выпрасіў. Цётка паківала мне пальцам, але кнігу аддала, і я з радасцю і ўдзячнасцю прыціснуў томік да грудзей, хоць пасля няўзнак падумаў: "Ох, калі б пра гэта ведалі там, за жалезнымі дзвярыма...".

Цётка дапоўніла сумку рознымі прысмакамі-далікатэсамі (у металічных упакоўках — каб не разбіліся) і наказала:

— Кладу гэта зверху, не будзеш шукаць. Прагаладаешся — адразу штонебудзь дастанеш перакусіць. Не будзеш корпацца, перакладваць рэчы, выстаўляць напаказ, што там у цябе.

І яшчэ вучыла:

— Сумку здасі ў камеру захоўвання, а сам, я прыкінула, паспееш пабываць у тэатры "На Таганцы". Часу — досыць. Вось білеты (якія месцы, — заўваж!) і грошы на таксі. Не эканом! Ніякага метро — толькі на машыне! Хоць на метро часта дабіраюцца хутчэй, але сёння яно нам не падыходзіць. Ну, усё, з Богам. Віктар, чую, пад'ехаў.

Асабісты цётчын вадзіцель заўсёды прыпаркоўваўся пад самымі вокнамі яе кватэры, але ў дзверы не званіў. Часам ён мог там прачакаць-праспаць некалькі гадзін. Гэтаксама чакаў ён цётку і ля гасцініцы "Масква". "Салдат спіць — служба ідзе!" — казаў швейцарам.

Цётка выйшла з машыны раней, на пад'ездзе да гасцініцы. На развітанне яшчэ раз нагадала:

— Рамантык, глядзі, не забудзь сумку ў камеры захоўвання! Бо да Мінска галодны паедзеш!...

●

Відаць, гэтак я адчуваў бы сябе ў няспраўджанай для мяне — Швецы адзінока і няўтульна. Трапіў у тэатр нечакана, псіхалагічна не падрыхтаваным, што, як мне здавалася, адразу ж кідалася ў вочы. Стаяў ля сцяны з партрэтамі артыстаў і міжволі здзіўляўся. Нельга было не здзіўляцца. Тэатр пачынаецца з вешалкі? Не, тут ён пачынаўся з фае. З гэтых партрэтаў. З публікі. А публіка была не абы-якая: Міхалкоў, Вазнясенскі... Я пазнаваў іх адразу.

Пачаўся спектакль. Усе артысты ігралі з поўнай, як кажуць выкладкай, але больш за ўсё ўразіў Высоцкі. Самы славуты ў краіне бард? Так. Вядомы кінаакцёр? Так. Але ніколі не думаў, што ўсе гэтыя амплуа можа засланіць Высоцкі-тэатральны акцёр. Ён кідаўся па сцэне, як вар'ят, без стомы рваў свой сарваны голас.

Пад канец спектакля Высоцкі не гаварыў, а стагнаў. У нейкі момант ён настолькі раз'ятрыўся, што Дзямідавай — партнёрцы па спектаклі — давялося яго супакойваць.

— Валодзя, — сказала яна, хоць героя п'есы звалі, вядома ж, інакш, — Валодзя, усё добра.

Ён пакідаў сцэну не проста мокры — пот цёк па ягоным твары. Аднэйме таксама можна было выкручваць...

Я тады вымавіў сам сабе фразу, ад якой і цяпер скаланаюся: "Такія людзі доўга не жывуць". Душыць арганізм запар дзве гадзіны на мяжы яго магчымасцей?! Сапраўды — палёт над безданню. Па самым краі...

Спектакль праляцеў, як адно імгненне, але гэтае імгненне паланіла мяне і аглушыла. Я растварыўся ў ім даастатку і пасля фінальных слоў не адразу зразумеў, дзе знаходжуся. Толькі гром апладысментаў прымусіў мяне ачомацца.

Калі выйшаў, нарэшце, на вуліцу і глянуў на падоранны цёткаю гадзіннік, спалохаўся — да адпраўлення цягніка заставалася дваццаць пяць хвілін! "Ну і цётка, ну і разлічыла!" Падбег да краю тратуара і пачаў махаць рукой перад кожнай машынай.

Нарэшце адна з іх спынілася.

— Да "Беларускага"? — перапытаў таксіст, побач з якім сядзеў пасажыр. — Тры рублі.

Пасажыр міжвольна пасміхнуўся. Я зразумеў, што мяне "абуваюць", але выйсця не было, і паўтарыў па-гагарынску:

— Паехалі!

У камеры захоўвання быў за шэсць хвілін да адпраўлення. Амаль вырваў сумку з металічнай багажнай скрыні і паімчаў да платформы. Дзе ён, мінскі цягнік, на якім пуці? "Тры хвіліны, дзве", — адлічвала мая свядомасць.

Перад вачамі мільганула нарэшце таблічка "Масква—Мінск". Бегчы да свайго вагона часу не было, я ўскочыў у бліжэйшы. Правадніца, якую ледзь не збіў з ног, сказала лагодна, па-беларуску:

— От ужо гэтыя маскалі! Заўсёды спяшаюцца...

Маскалём, думаю, мяне зрабілі абноўлены прыкід і фірмовая сумка.

●

Я прайшоў у свой чацвёрты вагон і адшукаў пазначанае ў білеце купэ. Адчыніў дзверы і вачам не паверыў: "Люкс! Ну і цётка! І не зрабіся пасля такога жыцця агентам імперыялізму!"

У купэ больш нікога не было, але я не засмуціўся. Падумаў: "І слава Богу! Пасля Масквы, як і пасля спаборніцтваў, трэба адпачыць".

Схадзіў папрасіў, каб правадніца прынесла чай. Неўзабаве пачуў стук у дзверы. Адказаў:

— Заходзьце, калі ласка.

— Дзякую. — Голас быў зусім не падобны на прастуджаны ці сарваны басок правадніцы. Здзіўлена ўзняў вочы.

Што было са мною, як я выглядаў — не ведаю, але народная артыстка СССР Вас-ва, якая — дайце веры! — увайшла ў купэ, сказала з усмешкаю:

— Спакойна, малады чалавек, спакойна. Усё добра. Так-так, гэта я. Ды не гасподзь жа Бог! Таму закрываем рот і заказваем чай.

"Госпадзі, гэта сапраўды яна! І яна гаворыць нешта пра чай. Заказваем чай..."

Я сарваўся з месца і заспяшаўся да правадніцы, папрасіў яшчэ шклянку чаю. Ад яе пабег у вагон-рэстаран. Навошта? Наўрад ці разумеў. Але ўсведамленне таго, што еду ў адным купэ з народнай артысткай СССР, падштурхоўвала да дзеяння. А як жа інакш? Калі такое можа паўтарыцца? Ды ніколі! Значыць, трэба нешта рабіць, нешта прыдумаць.

Я выстаяў чаргу, купіў прыгожую каробку "камунарскіх" цукерак і бутэльку шампанскага. Шчаслівы, вяртаўся ў сваё купэ.

Асцярожна, стараючыся не загрымець, адсунуў дзверы і зноў аслупянеў: суседка спала. Прылегла, відаць, на хвілінку і незнарок заснула. Дала аб сабе знаць стомленасць. З карабля на баль — са спектакля на цягнік...

Паклаўшы цукеркі і шампанскае на стол, я таксама прылёг і таксама нечакана для сябе заснуў...

— Малады чалавек, — пабудзіла мяне ўранку славутая суседка, — хутка Мінск.

Пазней, калі я прывёў сябе да ладу, яна сказала:

— Чай ваш астыў, а шампанскае, наадварот, сагрэлася. Але, крый Божа — не засмучайцеся! У вас яшчэ ўсё наперадзе! І, паверце, гэта я вам зайздрошчу. Як мне хацелася б зноў апынуцца ў вашым узросце! Ну ды гады не вернеш... А ранішнім чаем — я частую! Я ўжо заказала.

Мы пілі чай, елі цукеркі, гаварылі пра тэатр. Пачаў, вядома, я — сказаў, што быў уражаны ігрой Высоцкага. Прамямліў нешта пра "идущего по лезвию бритвы". Яна падтрымала, але сказала: "Есть и другие. Олег Даль, например..."

На развітанне я папрасіў у яе аўтограф. Яна распісалася на кнізе Іосіфа Шклоўскага "Сусвет, жыццё, розум" — першай, што трапіла пад руку ў маёй фірмовай сумцы.

Поезд спыніўся, мы падняліся. Апошняе, што пачуў ад славутай спадарожніцы, былі звычайныя, быццам нават неабавязковыя словы:

— Ну што, малады чалавек, будзем пасоўвацца да выхаду?

Яе сустракаў цэлы натоўп з тэлекамерамі, а мяне — мой горад. Мой? Не ведаю, ці паверыце, але на гэтым кароткім слове — "мой" — я чамусьці раптам спатыкнуўся. "Ці мой?" — кальнула сумненне.

Засяродзіцца на ім не паспеў — перада мною стаяла... мама! Мая бедная мама! Яна прыехала. Вядома ж, цётка ёй патэлефанавала: ідзі сустракай свайго сыночка, а то вашыя жабракі па дарозе яго абкрадуць, ён жа ў цябе такі нявопытны і даверлівы...

●

Мама ад таксі рашуча адмахнулася. Нават слухаць мяне не стала.

— Плаціць тры рублі за нейкія пятнаццаць хвілін? — абурылася яна. — Гэта табе не Масква! Пайшлі на тралейбус.

Наўрад ці да месца гаварыць тут пра тое, як мы дабіраліся дадому праклятым пятым маршрутам. Мне ён абрыдзеў яшчэ з таго часу, калі мама вазіла мяне акурат гэтым маршрутам у дзіцячы садок. І ехаць недалёка, усяго нейкія чатыры прыпынкі, але ў тралейбусе заўсёды была таўкатня. Быццам ён апошні і ўсе пнуцца абавязкова ўлезці ў яго, уціснуцца любым чынам.

Ды Бог з ім, з гэтым пятым праклятым! Успамінаю я пра яго толькі, каб сказаць, што пасля яго "селядцовай" цісканіны было асабліва прыемна прыйсці дадому, распрануцца, упасці ніцма на тахту або проста на падлогу, на дыван і адпачыць, нацешыцца прахалодаю, цішынёй і спакоем.

Але я не паспеў нацешыцца. Перашкодзіў трывожны міжнародны тэлефонны званок. Тэлефанавала цётка — але ўжо другая, "паўночная". Яна, як заўжды, усё ўжо ведала і... прыраўнавала мяне да прадстаўніцы, як яна сказала, "маскоўскай гасцінічнай мафіі". І патрабавала, каб неадкладна прыехаў да яе. Патрабавала катэгарычна і безапеляцыйна, заявіўшы на развітанне:

— Запрашэнне я выслала.

Запрашэнне патрэбна было, каб атрымаць пропуск у пагранічную зону.

Як было пасля гэтага адмовіцца? І мама здалася:

— Добра, адарву які тыдзень ад водпуску і, пакуль цёпла, з'ездзім, так і быць.

Мяне, праўда, папярэдзіла, ці, лепш сказаць, папрасіла:

— Толькі ты, калі ласка, не сядзі, як раней, дзень і ноч перад тэлевізарам. Што яно табе дало, гэтае фінскае тэлебачанне, свабоднае, як ты кажаш? Хочаш ведаць тое, чаго не трэба? Апамятайся, сынок! Не лезь на ражон! У мяне да гэтага часу ў вушах голас вашай класнай звінціць: "Саша быццам не ў савецкай сям'і выхоўваецца, не ў СССР нарадзіўся і расце".

"Бедная мама", — зноў сказаў я сабе, як тады на вакзале. Прарабіўшы ўсё жыццё на ткацкай фабрыцы, яна была тыповай савецкай жанчынай, перадавіком вытворчасці. І разважала і рабіла ўсё ў адпаведнасці з гэтым сваім, прынятым як належнае, статусам. Таму да цёткі мы ехалі не ў "люксоры", а ў "народным" плацкартным вагоне. Ехалі далёка, на крайнюю поўнач, у пагранічную зону.

●

Слухаючы аднастайны перастук колаў, я, здаецца, ці не самазадаволена пасміхаўся: як гэта пільныя служакі з жоўтага будынка адпусцілі мяне ў такую паездку? Хацелася бачыць сябе гэтакім героем, які, аказваецца, можа нават пасміхнуцца з іх, і паправіць: нават яны не паўсюль паспяваюць і не ўсё бачаць і чуюць!

Цяпер, праз гады, мне шкада не тых хлопцаў, а самога сябе, наіўнага, самаўпэўненага і даверліва-нявопытнага...

Мая паліца была, само сабою, верхняю. Ды я быў стрэляны верабей. Чамусьці ва ўсіх плацкартных вагонах, куды б ні ехаў, гулялі страшэнныя скразнякі. Ведаючы гэта, я, кладучыся галавой да акна, ухутваў яе ручніком. Хапіла мне таго, даўнішняга...

Пасля восьмага класа, з якога, дарэчы, я і ўзяўся па-сапраўднаму за вучобу, мама павезла мяне "на вёску да дзядулі" пад тады яшчэ не радыеактыўны Гомель. У поездзе мяне гэтак прадзьмула, што пад вечар з тэмпературай сорак я ляжаў непрытомны ў

нейкай вясковай бальніцы. Усе хадзілі навокал, охалі і ахалі, але што рабіць - ніхто не ведаў. Мяне ж, дадатковa да тэмпературы, якую ніяк было не збіць, увесь час ванітавала. Пад канец — з крывёю.

Выжыў, можна сказаць, выпадкова. Пашанцавала. Якраз у гэты час у вёсцы адпачываў галоўурач адной мінскай бальніцы. Прыехаў на радзіму, да маці. І апынуўся доктар для мяне, як співаецца ў той песні, "в нужном месте и в нужный час". Праўда, тады было не да жартаў. Без гэтага не інакш як Богам пасланага чалавека "будучаму агенту імперыялізму" быў бы, безумоўна, капцы. Ён змагаўся за жыццё "сынка" (так ён зваў мяне) усімі даступнымі метадамі. Запалохаўшы мясцовых "шышак" сваімі сувязямі ў сталіцы, паставіў мясцовае кіраўніцтва "на вушы" і, як вынік, на другі дзень "сынка" пасадзілі на верталёт і ён апынуўся ў лепшай бальніцы Гомеля. Доктар трое сутак не адыходзіў ад майго ложка. І ў выніку мяне не даканалі якімі-небудзь не тымі таблеткамі або няправільным дыягназам і, адпаведна, памылковым лячэннем. І я выжыў.

Пазней даведаўся, што прозвішча маё галоўурач тады, у вёсцы, пачуў не ўпершыню. Некалі ён вучыўся ў медыцынскім інстытуце ў адной групе з маёй стрыечнай сястрой. У іх было каханне. На трэцім курсе ад "сяброў" з жоўтага будынка рэктару прыйшло пісьмо. Неўзабаве сястру, як дачку выяўленага ворага народа, з інстытута выключылі. Тады будучы галоўурач пабаяўся выступіць у абарону свайго кахання — гэта азначала б развітацца з марaю стаць доктарам. Сястра ж пасля выключэння доўга хварэла, тыднямі не спала, трызніла і ў рэшце рэшт страціла розум.

А ў той час, калі лёс звёў яго са мной, доктар ужо нічога не баяўся. Ён змагаўся за маё жыццё і за свой гонар. Ведаў: з гэтым прозвішчам у роддзе я — апошні. І калі ён не зробіць усяго магчымага і немагчымага, ланцужок можа канчаткова абарвацца.

У дадатак да ўсяго пeражытага я ў той гомельскай бальніцы выпадкова пачуў вымаўленую адным доктарам фразу: "Пункцыю ўсё ж дарэмна ўзялі, паспяшаліся, перастрахаваліся, можна было і не браць. А цяпер пасля сарака пяці ён — не жылец. Ранняя старасць..."

Да сарака пяці тады мне было далёка, і фраза тая мяне не вельмі насцярожыла. Не жылец, дык не жылец. Гэта пра кагосьці іншага, не пра мяне.

Пазней, калі памяць вярнулася да таго даўняга бязлітаснага прароцтва, я аднойчы і назаўсёды сказаў сабе: "Што ж, калі гэта сапраўды так, дык — трэба спяшацца". І я ўсё жыццё, як мог, спяшаўся.

Спяшаюся і цяпер, калі пішу гэтыя радкі...

●

Наш плацкартны жыў сваім вагонна-дарожным жыццём. Бедныя браткі беларусы ехалі да сваякоў, якія атрымлівалі "вар'яцкія паўночныя". Хто — у Мурманск, хто — у Манчагорск, а некаторыя шчаслівчыкі — у прымежную зону, да "фінаў". Да шчаслівчыкаў належалі і мы.

Да Ленінграда ўсё было звычайна і проста, як усюды ў Савецкім Саюзе. Пасля ж перасадкі ў паўночнай сталіцы ў іншы цягнік пачалося "замежжа": пагранічнікі, пагранічнікі, пагранічнікі. Састаў ішоў уздоўж мяжы, і на кожным паўстанку нас правяралі зноў і зноў. Спачатку гэта прымушала ўсіх хвалявацца, потым ўспрымалася спакойна і нарэшце стала прадметам жартаў. У мяне нават узнікла жаданне паджартаваць з таварышаў у зялёных фуражках. Жарцікі ледзь не давялі да бяды. На адным з прыпынкаў, на чарговае "Вашы дакументы!" я, замест таго каб дастаць пашпарт, сказаў:

— My name is Mick Jagger. I from England. The Documents have not, but can for you to sing![5]

— Што-што? — не зразумеў жарту салдат. — А ну, пройдзем!

Слава Богу, мама, пусціўшы сапраўдную, а не штучную слязу, здолела пераканаць прапаршчыка, які падышоў на шум, што яе сын па-дурному пажартаваў, і пасля некаторага вагання той дазволіў нам ехаць далей. "Глядзіце за сынам, мамаша", — папярэдзіў ён адыходзячы.

"Паўночная" цётка сустрэла нас у Манчагорску, за шмат кіламетраў ад свайго дома.

Дабіраліся мы да месца на "персанальным" грузавічку яе мужа. Ехалі, змагаючыся з бездарожжам, гадзіны дзве. Пасёлак, у якім жыла цётка, быў на самай мяжы з фінамі і, як потым я даведаўся, бездарожжа было толькі з нашага боку.

Цётчын дом мяне здзівіў: новы, светлы і прасторны. Як самаму зморанаму мне выдзелілі асобны пакой. Такой раскошы не было нават у "маскоўскай гасцінічнай мафіі".

●

Спаў я той першай ноччу на поўначы як забіты. Нястачы ў паветры кіслароду, пра якую гаварыла цётка, зусім не адчувалася. Наадварот, мне здавалася, што яго залішне многа: паветра было проста нейкае пранізлівае.

Раніцай, у ванне, я пачуў, як за тонкай сценкай, на кухні, мама ўсхваляванa пыталася-перапытвала сястру:

— Няўжо здолелі ўцячы? І што, іх злавілі? Зэкі? Палітычныя? Граніцу перайшлі, але фіны выдалі? Вось як...

Я, ашаломлены, прыціх, замёр.

— Хутка іх павядуць. Паўз наш дом. Вуліца ў пасёлку адна, — адказала цётка.

Вядома ж, пасля такой інфармацыі я не мог не выйсці на вуліцу. Мне, які начытаўся кніжак пра герояў-пагранічнікаў і варожых агентаў, што ўсяляк спрабавалі прасачыцца да нас, хацелася ўбачыць хоць бы іх памагатых. Жывымі, у натуральным выглядзе.

Я стаяў каля веснічак і чакаў. Іх усё не вялі. Час хіліўся да паўдня. Мама выйшла паклікаць мяне палуднаваць. Падышоўшы бліжэй, ціха сказала:

— Гэта, сынок, не звычайныя зэкі. Гэта палітычныя, ворагі народа, яны ўцяклі з лагера.

— Тым больш, мама, я павінен паглядзець.

І тут мы ўбачылі працэсію. Уцекачоў вялі павольна, быццам для навукі іншым. Каб кожны мог іх убачыць, разгледзець, усвядоміць непазбежнасць пакарання. Ахоўвалі двух арыштаваных салдаты і штацкія, усяго чалавек трыццаць. Быццам баяліся, што зэкі нават са звязанымі рукамі могуць паспрабаваць уцякаць зноў.

Злоўленыя ішлі моўчкі. На тварах — аніякай прыкметы адчаю, безвыходнасці, безнадзейнасці. Твары спакойныя, поўныя годнасці. Чамусьці ўспомнілася тая даўняя фраза, што я таксама не жылец, і мне страшэнна захацелася як-небудзь падбадзёрыць іх, падтрымаць. Ды ці мала чаго захочацца.

Шмат пазней я даведаўся, што гэтых двух, асуджаных у 1968-м за ўдзел у сядзячай забастоўцы на Краснай плошчы ў знак пратэсту супраць уводзення войск у Чэхаславакію, да ўцёкаў рыхтавала ўся зона. Расказвалі, што знойдзены ў іх маніфест пачынаўся словамі: "Мы, палітычныя зняволеныя СССР, дзяржавы, якая сцвярджае, што нас няма..."

●

У пасёлку ў цёткі чамусьці ішло толькі фінскае тэлебачанне. Я слухаў незразумелую гаворку, але ў гэтым выпадку пераклад, хутчэй за ўсё, не быў патрэбны: Леаніда Ільіча ўзнагароджвалі чарговай зоркай героя.

"Добры такі дзед, — думаў я, — цацкі любіць, погляд цёплы, усміхаецца. Хіба ён можа каго пакрыўдзіць?..."

І ўздрыгнуў ад нечаканага званка ў дзверы. Цётка адчыніла. Увайшоў мужчына ў цёмна-шэрым гарнітуры. Дакладна такі меў і гаспадар незвычайнай мінскай кватэры. Позірк у госця быў добры-добры, як у экраннага дзядулі.

Я не спалохаўся. Ані! Нават не ўстаў з крэсла. Адно кіслароду чамусьці стала не хапаць.

Пад падушкаю ляжаў "Іван Дзянісавіч..."

[1] *О, будзь добрай дзяўчынкаю, пацалуй мяне (англ.).*

[2] *Думаю, мова для цябе, як сказаць па-англійску... (англ.).*

[3] *Вы маеце на ўвазе "перашкода"? (англ.).*

[4] *Акцэнт, вядома ж, чыста беларускі... (англ.).*

[5] *Мяне завуць Мік Джагер (вядомы англійскі рок-спявак). Я з Англіі. Дакументаў пры мне няма, але магу для вас праспяваць! (англ.).*

ПЕРАКЛАДЫ

**_Герхард Цверанц, нямецкі пісьменнік і палітык, нарадзіўся 3 чэрвеня 1925 года ў Габленцы (Саксонія). Бацька яго працаваў на цагельні, што належала яго бацьку, маці — на тэкстыльным прадпрыемстве. Пасля заканчэння народнай школы будучы пісьменнік стаў вучнем медніка і скончыў навучанне з кваліфікацыяй памочніка майстра. У жніўні 1942 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт. У жніўні 1944 г., пад Варшавай, дэзерціраваў і да 1948 г. знаходзіўся ў палоне, спачатку ў Бабруйску, а потым у Мінску. Яшчэ падчас знаходжання ў лагеры ваеннапалонных яго запісалі ў народную паліцыю. Праслужыўшы два гады (1948—1950) у гарадах Цвікаў і Крымічаў, быў звольнены, таму што захварэў на сухоты. У 1950-51 навучальным годзе працаваў выкладчыкам грамадскіх дысцыплін у Тэхнічнай вучэльні г. Цвікаў. Уступіў у Сацыялістычную адзіную партыю Германіі. Пасля рэцыдыву сухот здаў спецыяльны экзамен на атэстат сталасці і з 1952 па 1957 г. вывучаў філасофію ў Лейпцыгу ў Эрнста Блоха. Адначасова супрацоўнічаў у перыядычных выданнях ГДР (напр., "Вэльтбюнэ", "Зонтаг"), а таксама ўдзельнічаў з лейпцыгскім сатырычным кабарэ "Пфэфэрмюле". Тады ж усталяваў кантакты з Вольфгангам Гарыхам і іншымі антысталіністамі, якія аказалі істотны ўплыў на яго ўласнае ўсё больш крытычнае стаўленне да сталінісцкіх тэндэнцый у САПГ. Апазіцыйныя перакананні, да якіх Цверанц прыйшоў пасля XX з'езда КПСС, прывялі ў рэшце рэшт да яго выключэння з СПГ, хаця ў той час ён, як пазней адзначаў сам, яшчэ спадзяваўся на рэнесанс сацыялізму._**

**_У 1957 г. Цверанц, праз Заходні Берлін, перабраўся ў ФРГ. Жыў у розных буйных гарадах (Кёльне, Мюнхене, Офэнбаху, Франкфурце), займаючыся выключна літаратурнай дзейнасцю. З 1978 г. жыве ў г. Шмітэн (Таўнус). Доўга яшчэ Цверанц бачыў сваю творчасць у кантэксце літаратуры ГДР, ён абурана абвяргаў абвінавачванні ў "рэнегацтве". У сваёй эсэістычнай прозе і раманах, аб'ектам якіх з'яўляюцца галоўным чынам палітычныя аспекты і рэчаіснасць ФРГ, ён паказаў сябе асобай "непамяркоўнай", аўтарам, які не баіцца ўсчаць палеміку ці перайсці ў атаку, скіраваную на перaадоленне табу. Творчасць Цверанца ацэньваецца літаратурнай крытыкай неадназначна._**

**_Цверанц напісаў 103 кнігі самых разнастайных жанраў — ад палітычнага эсэ да дзіцячай аповесці, ад дэтэктыва да эратычна-парнаграфічнай літаратуры, а таксама п'есы, сцэнары для тэлефільмаў, тэксты больш чым 150 радыёперадач. Агульны тыраж твораў Цверанца, перакладзеных на 9 моў, складае прыкладна тры мільёны экземпляраў._**

Герхард ЦВЕРАНЦ

# Не дамо сябе ў крыўду

Мы жылі ў саменькім цэнтры горада, на чацвёртым паверсе. Людзі мы памяркоўныя, анікому ніколі нічога благога не зрабілі. А з Дэрфельтамі з дома насупраць мы сябравалі ўжо шмат гадоў — да таго часу, як пані Дэрфельт аднойчы напярэдадні свята пазычыла ў нас патэльню і не аддала яе. Маці тройчы нагадвала ёй пра патэльню, у рэшце рэшт цярпенне яе лопнула, і аднаго дня ў гаворцы з пані Мушх, што жыве на пятым паверсе, яна абазвала пані Дэрфельт нягоднiцай.

Няйначай нехта падшукнуў гэта Дэрфельтам, бо назаўтра Клаўс і Ахім накінуліся на Ганса, нашага найменшага, і збілі яго на горкі яблык. Я стаяў у пад'ездзе, калі Ганс, заходзячыся плачам, прыбег дадому. У гэтую хвіліну з дзвярэй дома насупраць выйшла пані Дэрфельт. Я перабег вуліцу, выхапіў у яе сетку і насунуў ёй на галаву. Яна завярашчала: "Ратуйце! Ратуйце!", быццам тут немаведама што сталася, а ёй жа ўсяго толькі пабітае шкло трошкі падрапала галаву, — у сетцы, як выявілася, былі малочныя бутэлькі.

Можа, усё яшчэ і скончылася б дабром, аднак здарылася гэта дакладна апоўдні, і пан Дэрфельт якраз прыехаў на сваёй машыне дадому.

Я, не марудзячы, уцёк, але мая сястра Элі на той час, як звычайна, ішла дадому абедаць і трапіла пану Дэрфельту ў рукі. Той жарнуў ёй па твары і падраў спадніцу. Маці пачула галас, падбегла да вакна і, убачыўшы, што вычварае з Элі пан Дэрфельт, пачала кідацца ў яго вазонамі. З таго часу і запанавала паміж нашымі сем'ямі запраўская варожасць.

Паколькі даверу да Дэрфельтаў у нас ужо не было, Герберт, мой старэйшы брат, што вучыўся на оптыка, уладкаваў на акне падзорную трубу. І цяпер, калі мы ўсе разыходзіліся з дома, маці магла цікаваць за Дэрфельтамі. Але ж і ў іх знайшлося такое самае прыставанне, і аднойчы яны пачалі страляць па нашым акне з паветранага ружжа. Тады я зніштожыў варожую падзорную трубу з нашага ружжа. Тым вечарам наш "фольксваген", што стаяў у двары, быў падараваны.

Бацька наш — ён працаваў старшым кельнерам у вядомай кавярні "Імперыял", нядрэнна зарабляў і заўсёды быў прыхільнікам спакою і парадку — выказаў меркаванне, што зараз самы час звярнуцца ў паліцыю. Але маці з ім не пагадзілася, бо пані Дэрфельт па ўсёй вуліцы трубіла, што мы, гэта значыць, наша сям'я, настолькі неахайныя, што вымушаны мыцца не менш двух разоў на тыдзень, а праз гэта ўсе суседзі мусяць так многа плаціць за ваду. Такім чынам, мы вырашылі працягваць барацьбу ўласнымі сіламі, барацьбу бязлітасную. Ды мы ўжо і не маглі б адмовіцца ад яе, таму што ўсе суседзі з вялікай цікаўнасцю чакалі, што з гэтай звады атрымаецца.

Наступнай раніцай горад быў разбуджаны жудасным крыкам.

Мы памiралі са смеху. Пан Дэрфельт, які раніцай заўсёды выходзіў з дому першы, трапіў у глыбокую яму, што мы выкапалі перад уваходам у іх дом. Ён так пацешна трапятаўся ў нацягнутым там калючым дроце, адно толькі левая нага заставалася нерухомай, бо зламалася.

А яму ж яшчэ пашанцавала, бо калі б ён заўважыў яму і абышоў яе, то ўзляцеў бы ў паветра пры першай спробе завесці машыну. Таму ў паветра ўзляцеў Паўль Клюнкер, што квартараваў у Дэрфельтаў: ён збіраўся паехаць па доктара.

Усім вядома, што Дэрфельты крыўдзіцца на кожную дробязь. І вось недзе так гадзіну пад дзесятую яны пачалі абстрэльваць наш дом з гарматы. Аднак ім трэба было трохі папрактыкавацца, бо спачатку не кожны снарад трапляў па нашых вокнах.

Нас гэта ўзрадавала, таму што цяпер разлазваліся ўжо і астатнія жыхары дома, а пан Леман, гаспадар,устрывожыўся, што яго дом больш ужо не будзе такі прыгожы, як раней. Нейкі час ён проста назіраў, аднак калі два снарады разарваліся ў ягонай святліцы, пачаў нервавацца і аддаў нам ключы ад гарышча. Мы адразу ж папаўзлі наверх, да нашай атамнай гарматы. Усё рабілася так, як і на трэніроўках. "Яны яшчэ ахнуць!" — трыумфавала мама.

Калі мы скіроўвалі ствол гарматы ўпрост на кухню Дэрфельтаў, я ўбачыў у акенцы на іхнім гарышчы такі самы гарматны ствол, аднак шанцаў у іх не было, бо наша сястрычка Элі, якая ніяк не магла супакоіцца, што тыя падралі ён спадніцу, ужо паспела скамандаваць: "Агонь!"

Атамны снарад з неймаверным грукатам вылецеў са ствала, адначасова стрэліла і гармата насупраць. Абодва снарады сустрэліся дакладна пасярэдзіне вуліцы.

Вядома, усе мы загінулі, вуліцы больш няма, а там, дзе раней быў наш горад, засталася толькі шэра-бурая пляма.

Адно мушу дадаць: мы зрабілі тое, што маглі і што павінны былі зрабіць, бо нельга ж даваць сябе ў крыўду.

А то суседзі табе на галаву сядуць.

**Пераклад з нямецкай мовы**
**Галіны СКАКУН**

Уладзімір ДУКТАЎ

# Мімаходзь

— Ну куды падзелася гэтая мокрая курыца, — злуецца жанчына, шукаючы вачамі ў натоўпе мужа.

❑

— Клопату — багата, не пашкодзіла б старому азадку маладыя ногі займець, каб усюды паспець, — уздыхае сталага веку мужчына.

❑

— Давай не будзем, а калі будзем, дык давай, — кажа зухаваты хлопец свайму крыўдзіцелю, закасваючы рукавы кашулі.

❑

— Цырк паехаў, а клоун застаўся, — гавораць пра вясёлага хлопца.

❑

— Не магу спаць у ложку ля сценкі: быццам пад плотам... — жаліцца былы п'яніца.

❑

— Наша справа наліўная, — жартуе выпівоха.

❑

Лайдак і з гары ідучы крок не прыспешвае.

❑

— Не ўсім замужнім жанчынам дадзена мець дзіцятка, — суцяшае сябе маціадзіночка.

❑

— Няхай у вашым жыцці будзе столькі гора, колькі на маёй галаве валасоў, — жадае на вяселлі маладажонам лысы госць.

❑

Адважыўся і плюнуў у твар... свайму адлюстраванню ў люстэрку.

❑

Урэшце муж дагадзіў жонцы-гультайцы: аб'явіў галадоўку.

❑

У адных словы і справы не разыходзяцца, у іншых — ніколі не сустракаюцца.

❑

Сапраўдны падхалім нават сваёй жонцы хваліць начальніка.

❑

Усё сваё насіў з сабой — нават соль за ніжняй губой.

❑

Ніколі столькі не страціш часу, як вучачыся яго берагчы.

❑

Не пераступіўшы цераз парог, не трапіш у кут.

❑

У таго-сяго моцна развіта пачуццё ўласнай нікчэмнасці.

❑

Сабака любіць косці таму, што ягоны гаспадар аддае перавагу мясу.

❑

Бобік лічыць, што гаспадару сабачае жыццё даспадобы, бо нездарма той на падпітку начуе ў ягонай будцы.

❑

П'яўка, смокчучы чужую кроў, уяўляе сябе заўзятай працаўніцай.

❑

Адліжнай зімой леташні снег быў бы й не лішні.

❑

Чалавека не б'юць ляжачага, а сабаку — мёртвага.

❑

Дзіўная заканамернасць: чорная хмара над службовым крэслам знікае, калі ягоны гаспадар апынецца на бальнічным ложку.

❑

Наркалагічны дыспансер з назваю "Змеялоў".

❑

У кухара рэстарана — сабака з клічкаю Рамштэкс.

❑

У добрых суседзяў нават каты сябруюць.

❑

Шчасце — дажыць да ста гадоў і трапіць у рай?

❑

Як жыць далей, калі грошай застаўся апошні мяшок?

❑

Абыходзьце трамвай спераду, а начальства — ззаду.

❑

Першы дзень госць — золата, другі дзень — срэбра, трэці дзень — медзь: дамоў едзь.

❑

Гавары тое, што думаеш, але думай, што казаць.

❑

Скульптар заўпарціўся і зрабіў са слана муху.

❑

"Пралетарый разумовай працы", — піша ўтрыманец у графе "сацыяльнае становішча".

❑

Эпітафія: "Паводзіў сябе крута — апынуўся тута".

❑

Ад нас адмахваюцца, як ад настойлівых мух.

❑

Раніцой вяртаюцца дадому закаханыя і — мужы з камандзіроўкі.

❑

У хвалях спрэчкі захлынулася і патанула ісціна.

❑

Няма такой крамы, дзе прадаюцца мамы.

❑

Аднолькава дарагія галава і азадак, калі яны — твае ўласныя.

❑

Лысымі і начальнікамі не нараджаюцца — імі з часам становяцца.

❑

З доўгіх нарад выносяць поўны мачавы пузыр.

❑

Свет цесны. Асабліва гэта разумееш у грамадскім аўтатранспарце ў час пік.

❑

Самыя радасныя моманты ў жыцці аўтамабіліста-аматара — калі купіў і калі прадаў легкавушку.



# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**У мінулыя суботу і нядзелю ў клубе імя Дзяржынскага прайшла прэм'ера новай пастаноўкі рэжысёра Мікалая Пінігіна "Стрыптыз", зробленай паводле дзвюх абсурдысцкіх п'ес польскага драматурга Славаміра Мрожака "Караль" і "Стрыптыз". Пасля пінігінскага "Дотыку" публіка, уведзеная ў зман дурнотным рэкламным ролікам на БТ, і не ведаючы, што сабой уяўляе Мрожак, ішла на такі ж самы лёгкі і пашлаваты спектакль. Рэч атрымалася даволі камернай, таму многія тэатральныя стрыптызафілы, расчараваныя, пакідалі залу.**

### ВЫСТАВЫ

**Музей гісторы беларускай літаратуры**

*Да лютага* — працуе выстава беларускага шкла з больш як дзесятка беларускіх музеяў і калекцый шклозавода "Нёман" і Барысаўскага крышталёвага завода.

### КАНЦЭРТЫ

На працягу снежня Беларуская музычная альтэрнатыва ладзіць тур "Вольных танцаў".

*9 снежня* ў Магілёўскім Палацы культуры піянераў.

*15 снежня* ў Брэсце ў Доме культуры прафсаюзаў.

*16 снежня* ў Гродне ў Доме культуры хімікаў.

*22 снежня* ў Гомелі ў Абласным культурным цэнтры адбудуцца канцэрты з удзелам "Палаца", "Postscriptum", "Акругі вольнага мастацтва", "Крамы", "Нейра Дзюбеля", "Н.Р.М.", "Крыві" і іншых.

*19 снежня* — у к/з "Мінск" адбудзецца прэзентацыя кампакт-дыска новага супольнага праекта беларускіх рок-гуртоў "Я нарадзіўся тут". Ён будзе ўяўляць сабой зборнік беларускіх патрыятычных песень. У рокавым перааздабленні прагучаць такія вядомыя рэчы, што часта называюцца ў якасці патэнцыйнага беларускага гімна, як "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "Пагоня" і "Паланез" Агінскага. Наогул у альбоме "Я нарадзіўся тут" будуць спрэс шлягеры. Папулярнасць яму гарантаваная, мажліва, нават большая, чымсьці яна была ў "Песнярка", "Народнага альбома" і "Святога вечара".

### ЗАПРАШАЕ КІНАТЭАТР "ЗМЕНА"

10 снежня ў 11 гадзін адбудзецца кінавечарына, прысвечаная памяці актрысы Стэфаніі Станюты. На вечарыне выступяць драматург Аляксей Дудараў, кандыдат мастацтвазнаўства Таццяна Арлова і заслужаны работнік вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь Вольга Казлова. Можна будзе паглядзець дакументальны фільм "Зімовая прэм'ера".



*А музыка гучыць...*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

# Вясёлыя дробязі

*Не мог і думаць, што ў маім палескім Глуску будуць ствараціа і выдавацца цікавыя, таленавітыя і прыгожыя кнігі. Стваральнікам, летапісцам роднага краю, аўтарам цікавых апавяданняў, вершаў, трапных "Строф" і дасціпных анекдотаў стаў таленавіты літаратар, ушанаваны многімі журналісцкімі прэміямі і ўзнагародамі, рэдактар раённай газеты "Радзіма" Навум Сандамірскі.*

*У 1996 годзе ён сабраў і выдаў вершы паэтаў Глушчыны, пачынаючы з Альгерда Абуховіча і канчаючы сучаснымі аўтарамі, юнымі пачаткоўцамі. Следам за ёю выйшлі чатыры арыгінальныя кнігі самога Н. Сандамірскага. Ён натхнёна расказаў пра выдатных вучоных, хірургаў, мастакоў, артыстаў, вынаходнікаў, сабраў мноства рэдкіх здымкаў славутых землякоў — мінулае і сучаснае Глушчыны. Н. Сандамірскі — аўтар дасканалых лірычных вершаў і рыфмаваных афарызмаў, дасціпных анекдотаў, якія бытавалі ў глухім мястэчку за "рысай аседласці", сабраў і прыдумаў дзесяткі актуальных і свежых.*

*Для знаёмства чытачоў "ЛіМа" з земляком прапаную некалькі "Строф" і вясёлых анекдотаў, якіх у чатырох кнігах Н. Сандамірскага мноства. Спадзяюся, каліва іх развяселіць чытачоў апошняй старонкі нашага штотыднёвіка.*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

Навум САНДАМІРСКІ

**Алкаш** на траўцы распластаўся,
Раскінуў рукі, ды не ўстаць.
Але ніхто не здагадаўся,
Што ён зямлю хацеў абняць.

**Чым упарцей** прадстаўнік народа
"Ўсё наша! Ўсё маё! — пяе, —
І, як цару, належыць
мне прырода!",
Таму і нішчыць кожны дзень яе.

**Абразу** дурня не заўважыў
Ні першы, ні наступны раз,
І прамаўчаўшы, так разважыў,
Што наймудрэйшы даў адказ.

**Праўда** ніколі нідзе не старэе.
Адзіны закон яе вечны.
А часам сумленне ў каго захварэе,
Дыягназ тады небяспечны.

**Па традыцыі** ў пажарнай
Юбілей свой адзначалі.
З жарам, з помпай незвычайнай
Ўсіх пажарных накачалі.

**Калі выбар** небагаты,
Нават выбераш казла.
Хай упарты, хай рагаты,
Толькі б ён не помніў зла.

**Дабра** не прычакаўшы з раю,
Зярнятка кожны кожнае грабе.
Яўрэі эмігруюць у Ізраіль,
Каб рускімі адчуць сябе.

**Агеньчык** мой не часты госць,
Хоць палымнець стае адвагі.
Запалкі ёсць, і дровы ёсць,
І толькі не хапае цягі.

**Сярод** здабыткаў рознай масці
Так мала поўных, больш пустых,
Бо ўсе жадаюць толькі шчасця,
А дзе яго узяць на ўсіх?

**З нас** кожны бывае хоць
трохі тварэц,
Не надта вядомы і слынны.
Гасподзь жа пачатак нам даў
і канец,
Напоўніць сярэдзіну кожны павінны.

●

Двум п'яным стала холадна ў полі. Бачаць — стог саломы. Падпалілі яго і грэюцца. Бачаць, з сяла людзі бягуць.

— Ты бачыш, Вася? Як падпаліць, дык няма каму, а грэцца ўсё сяло бяжыць.

Сакратар райкома партыі папракае загадчыка аддзела прапаганды:

— Што гэта вы бяздзейнічаеце? Другі месяц у сінагозе рабіна няма.

— Усё прадпрымалі, таварыш сакратар. Але такая сітуацыя склалася: то беспартыйны, то яўрэй.

— Таварыш прадавец, лёзы для брыцця ў вас ёсць?

— Не, няма.

Калі пакупнік адышоў, другі прадавец спытаў:

— Чаму ты сказаў, што няма? Ёсць жа.

— А гэты дурань мяне таварышам назваў. Няхай цяпер сярпом брыецца.

У міліцыю прыбегла старая кабета і з парога крычыць:

— Згвалцілі!

— Калі? — пытае дзяжурны.

— Сорак гадоў таму.

— Дык чаго ж крычыце, галаву толькі тлуміце?

— Прыемна ж успомніць.

— Вы чулі, хто патапіў "Тытаніка"?

— Ну, хто?

— Па-мойму, нехта з нашых. Ці то Айсберг, ці то Вайсберг.

— Якое шчасце: праз некалькі дзён мне на пенсію!

— І што вы будзеце рабіць?

— Пакуль не ведаю, не ведаю... А першыя тры месяцы сяду ў крэсла-качалку і буду сядзець, як статуя.

— А што пасля?

— А пасля пачну патрошачку-патрошачку разгойдвацца.

**З мноства падабраў і пераклаў С. Г. (Глускі)**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 7.12.2000 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6475

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12